● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ○ цана 1000 рублёў

7 снежня 1996 г. субота, № 284—285 (23087—23088)



# ЗВЯЗДА

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...падаражэе праезд у грамадскім транспарце

**Напэўна, не адзін чалавек з тугой прыгадвае часы, калі такія словы, як «інфляцыя», «курс долара», «беспрацоўе», большасць з нас ведала толькі па газетах ды замежных фільмах.**

Апошнія звесткі аб павелічэнні «мінімалкі» з 1 студзеня 1997 года наўрад ці дададуць аптымізму насельніцтву: як ужо неаднойчы было, услед за новым памерам мінімальнай заработнай платы пачнаюць «скакаць» у бок павелічэння і цэны. Безумоўна, найперш у такіх выпадках гэта датычыцца кошту праезду ў гарадскім пасажырскім транспарце.

Якім будзе кошт паслуг, калі ён будзе ўведзены ў дзеянне, ці павялічацца ў бліжэйшы час штрафы для «зайцоў» — па адказы на гэты па тым пытанні «Звязда» звярнулася ў вытворчае ўпраўленне транспарту і сувязі Мінгарвыканкома.

— Хачу заспакоіць чытачоў: у снежні ніякіх зрухаў у плане павелічэння кошту праезду ў грамадскім транспарце ў Мінску не будзе, — паведаміла галоўны спецыяліст упраўлення Ніна Чумакова. — Зразумела, з увядзеннем новага памеру мінімальнай заработнай платы такія змяненні, у рэшце рэшт, павінны адбыцца, але якімі яны будуць і калі атрымаюць «пуцёўку ў жыццё», гаварыць пакуль рана.

Адказваючы на пытанне аб магчымым павелічэнні штрафных санкцый да безбілетнікаў, начальнік аддзела кантролю Міхаіл Малахаў зазначыў, што ў свой час транспартнікі выходзілі з прапановай аб павелічэнні штрафу да памераў мінімальнай заработнай платы. У чарзе на разгляд ва ўжо былым Вярхоўным Савеце знаходзіўся праект аб устанаўленні штрафных санкцый за безбілетны праезд у палавінным памеры гэтай сумы (чаму, дарэчы, транспартнікі таксама былі б рады), але цяпер яго лёс невядомы. Такім чынам, «зайцы» пакуль могуць спаць спакойна...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Хабарнік аддаваў перавагу радыёапаратуры

**Мы ўжо паведамлялі аб тым, што віцебскім аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю быў затрыманы за атрыманне хабару маёр фінансавага ўпраўлення Міністэрства абароны.**

Як высвілася крыху пазней, ваеннаслужачы ўжо не першы раз правініўся ў сваім жыцці. Раней, што было выяўлена ў ходзе следства, маёр таксама за хабар дамагог атрымаць ліпавае пасведчанне воіна-інтэрнацыяналіста лётчыку, які ніякіх адносінаў да падзей у Афганістане не меў. І вось новыя факты, якія сталі вядомы дзякуючы сведкам. Аказваецца, «парушнак» у вачах маёра быў куды больш. Акрамя ўсяго вышэйпамянёнага, «прадпрымальны» маёр разам з саўдзельнікам, які таксама меў дачыненне да ваеннай службы, займаўся зноў-такі ліпавым завышэннем выслугі гадоў ваенных. Прычым у якасці падзякі бралі выключна радыёапаратуру. Цяпер справа «вынаходлівага» маёра знаходзіцца ў Ваеннай пракуратуры, якая займаецца далейшым расследаваннем.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*ЦЭНЫ*

## У БЕЛАРУСІ ПАВЯЛІЧАНЫ КОШТ НАФТЫ І ПРАДУКТАЎ ЯЕ ПЕРАПРАЦОЎКІ

**У сувязі з павелічэннем выдаткаў на здабычу беларускай нафты пастановай Міністэрства эканомікі № 48 ад 4 снежня 1996 года ў краіне ўведзены новыя цэны на нафту.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік упраўлення эканомікі і фінансаў дзяржаўнага канцэрна «Белнафтапрадукт» Анатоль Філонаў, кошт адной тоны нафты ўстаноўлены ў памеры 1 млн. 377 тысяч рублёў, што адпавядае эквіваленту ў 90 долараў ЗША (раней цана тоны нафты раўнялася 80 доларам). У сувязі з гэтым па ўзгадненню з Камітэтам цэн з 5 снежня ў Беларусі ўведзены новыя аптовыя фіксаваныя цэны на прадукты нафтаперапрацоўкі, што атрымліваюць з айчыннай сыравіны. Што датычыцца новых рознічных фіксаваных і камерцыйных цэн, яны рознішча ў залежнасці ад рэгіёна. Скажам, фіксаваная цана (для інвалідаў, «хуткай дапамогі», міліцыі) бензіну А-76 складае 3300 рублёў за адзін літр, камерцыйная — 4500—5000 рублёў, бензіну А-92 — адпаведна 3600 і 5300—5500 рублёў за літр. Адзін літр дызельнага паліва па фіксаванай цане абыдзецца цяпер у 2200 рублёў, па камерцыйнай — 3700—4200 рублёў. Такім чынам, фіксаваная цана бензіну А-76 узнялася на 13,8 працэнта, А-92 — на 16, дызельнага паліва — на 9 працэнтаў. Цана самой нафты (у якой, дарэчы, улічана і паралельна праведзеная індэксацыя) павялічылася на 18,7 працэнта.

Адказваючы на пытанне аб кошце расійскай нафты для Беларусі ў будучым, спадар Філонаў зазначыў, што яна мяркуецца на ўзроўні 100 долараў ЗША за тону, але пакуль ніякіх зрухаў няма. Разам з тым Анатоль Васільевіч удакладніў папярэдне дадзеныя «Звяздой» звесткі аб тым, што за апошні час аб'ём паставак нафты з Расіі ў нашу краіну значна скараціўся: па словах начальніка ўпраўлення эканомікі і фінансаў канцэрна, ён знізіўся амаль у два разы і складае на сённяшні дзень толькі 500 тысяч тон у месяц. Як патлумачыў далей па просьбе журналіста спадар Філонаў, таму ёсць дзве прычыны: па-першае, на сённяшні дзень у Еўропе цэны на нафту склаліся на ўзроўні 170 долараў за тону, чым не замарудзілі скарыстацца ў Расіі, пачаўшы перапампоўваць нафту на Захад, а таксама эканамічныя прычынамі ў самой Беларусі. У прыватнасці, адсутнасцю ў нас цвёрдай валюты для разлікаў, што, зразумела, не спрыяе бесперабойным пастаўкам неабходнай сыравіны з суседняй дзяржавы. Дарэчы, як зазначыў Анатоль Васільевіч, у выпадку, калі зноў будзе назірацца павелічэнне курса долара, у краіне ў чарговы раз будзе праведзена індэксацыя цэн на нафтапрадукты на 5 працэнтаў.

Не прэтэндуючы на нейкі каментарый, зазначу толькі на заканчэнне, што з цаной на нафту звязана калі не ўсё, дык вельмі многае: кошт паслуг па ацяпленню, тарыфы на транспарт, транспартныя выдаткі гандлюючых прадпрыемстваў і інш. І яшчэ: апошняе такое значнае павелічэнне кошту нафты і нафтапрадуктаў у Беларусі адбылося ў сярэдзіне верасня гэтага года.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЧАРГОВЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

**Чарговы тыдзень Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі будзе насычаны мерапрыемствамі, якія маюць важнае значэнне для грамадска-палітычнага жыцця краіны.**

Кіраўнік дзяржавы ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыць новыя пашпарты групе грамадзян — ветэранам вайны і працы, прадстаўнікам навуковай і творчай інтэлігенцыі моладзі. У новым пашпарце ўвасоблена вырашэнне двух пытанняў рэспубліканскага рэферэндуму 1995 года — на правым баку дакумента адлюстраваны Дзяржаўны герб, які выбраны ў выніку добраахвотнага волевыяўлення народа, а ўсе запісы зроблены на беларускай і рускай мовах, што сталі ў выніку ўсенароднага галасавання раўнапраўнымі — дзяржаўнымі. Гэта ўрачыстая падзея знамянуе пачатак выдачы грамадзянам Рэспублікі Беларусь пашпартоў новага ўзору.

Значнае месца ў рабоце Прэзідэнта адведзена вырашэнню знешнепалітычных праблем. Чакаецца, што А. Р. Лукашэнка прыме паслоў шэрага замежных дзяржаў.

Кіраўнік дзяржавы правядзе шэраг сустрэч з кіраўнікамі цэнтральных органаў кіравання, падпіша ўказы аб новых кадравых назначэннях.

## УКАЗ
### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
№ 505

**Аб адстаўцы В. Г. Ціхіні**

У адпаведнасці з пунктам 11 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі), пунктам 1 часткі першай артыкула 18 і артыкулам 182 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» вызваліць Ціхіню Валерыя Гур'евіча ад пасад Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь і суддзі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 снежня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 506

**Аб адстаўцы В.А.Фадзеева**

У адпаведнасці з пунктам 11 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі), пунктам 1 часткі першай артыкула 18 і артыкулам 18 Прым.2 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» вызваліць Фадзеева Валерыя Аляксеевіча ад пасад намесніка старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь і суддзі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

5 снежня 1996 г. г.Мінск.

## ПРЫСВОЕНА ЧАРГОВАЕ ЗВАННЕ

Чарговае воінскае званне генерал-маёра прысвоена палкоўніку Віктару Шэйману. Указ аб гэтым выдаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

**БЕЛТА.**



*Згадка ў зацяжную восень: хутчэй бы крыху снег...*

**Фота Аляксандра КАРЖА.**

## УКАЗ
### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
№ 507

**Аб назначэнні Р. А. Васілевіча выконваючым абавязкі Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь**

У адпаведнасці з артыкулам 146 і кіруючыся пунктам 8 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі) назначыць Васілевіча Рыгора Аляксеевіча выконваючым абавязкі Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 снежня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ
### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
№ 517

**Аб назначэнні М. Ф. Дамашкевіча Старшынёй Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь**

Назначыць Дамашкевіча Мікалая Фёдаравіча Старшынёй Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады начальніка Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 снежня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ
### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
№ 518

**Аб назначэнні Л. М. Ярмошынай старшынёй Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў**

У адпаведнасці з артыкулам 146 і кіруючыся пунктам 9 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі), назначыць члена Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Ярмошыну Лідзію Міхайлаўну старшынёй Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў з наступным узгадненнем яе назначэння з Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

6 снежня 1996 г., г. Мінск.

## КІТАЙ ПАДТРЫМЛІВАЕ ПАЛІТЫЧНЫ КУРС БЕЛАРУСІ

**Кітай падтрымлівае намаганні Беларусі, накіраваныя на адстойванне сваёй незалежнасці, нацыянальнага суверэнітэту, на процідзеянне ўмяшанню звонку ў свае ўнутраныя справы. Аб гэтым заявіў прэм'ер Дзяржаўнага савета КНР Лі Пэн у ходзе праведзеных у Пекіне перамоў з выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра нашай рэспублікі Сяргеем Лінгам. Як паведамлялася ўжо, ён прыбыў у Кітай з афіцыяльным чатырохдзённым візітам па запрашэнню ўрада гэтай краіны.**

У ходзе сустрэчы Лі Пэн таксама падкрэсліў, што Кітай разумее і паважае выбар, зроблены народам Беларусі, унутраную і знешнюю палітыку беларускай рэспублікі. Асноўнай тэмай гутаркі былі стан і перспектывы беларуска-кітайскіх эканамічных адносінаў. Паводле інфармацыі, атрыманай БЕЛТА ад калег з Сіньхуа, бакі выказалі задавальненне іх цяперашнім станам і неабходнасць паглыблення перш за ўсё гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Сяргей Лінг выказаўся за павелічэнне кітайскіх інвестыцый у эканоміку рэспублікі, падкрэсліўшы, што для гэтага ёсць спрыяльныя ўмовы і магчымасці.

На думку Лі Пэна, эканамічныя сувязі паміж дзвюма краінамі ў цэлым развіваюцца паспяхова. Беларусь, лічыць ён, валодае параўнальна магутным навукова-тэхнічным патэнцыялам і адносна развітой сучаснай прамысловасцю. «Таму кітайскі бок удзяляе пільную ўвагу развіццю гандлёва-эканамічных адносінаў з вашай краінай, мае намер разам з Беларуссю адшукваць новыя шляхі развіцця двухбаковага супрацоўніцтва і пашыраць узаемадзеянне ў гандлёва-эканамічнай сферы», — заявіў прэм'ер Дзяржсавета КНР. На думку Лі Пэна, нягледзячы на тое, што за апошнія некалькі гадоў урады і прадпрымальнікі дзвюх краін прыклалі вялікія намаганні і дабіліся пэўных поспехаў, патэнцыял для развіцця двухбаковага супрацоўніцтва яшчэ вельмі вялікі. Паводле прагнозаў кітайскіх экспертаў, у сёлетнім годзе аб'ём двухбаковага гандлю складзе больш за 100 мільёнаў долараў ЗША.

Сяргей Лінг поўнасцю згадзіўся з субяседнікам у ацэнцы стану спраў у беларуска-кітайскім дыялогу. Ён, у прыватнасці, заявіў, што наша рэспубліка надае асаблівае значэнне развіццю адносінаў з Кітаем. Пацвярджэнне гэтага — частыя абмены візітамі на самым высокім узроўні, якія адбываюцца апошнім часам. І на цяперашнім этапе, як лічыць выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра нашай рэспублікі, абодва бакі пачалі абмеркаванне і ажыццяўленне канкрэтных мераў па паглыбленню двухбаковых адносінаў.

У час гутаркі была абмеркавана таксама магчымасць прадастаўлення КНР ільготнага крэдыту нашай рэспубліцы для закупкі кітайскіх тавараў, адбыўся абмен думкамі па пытаннях расшырэння экспарту беларускай прадукцыі машынабудавання, электроннай і хімічнай прамысловасці.

Пры абмеркаванні міжнародных праблем Лі Пэн адзначыў усё больш узрастаючую ролю дзяржаў, якія сталі на шлях развіцця, у сусветных справах. Разам з тым ён падкрэсліў, што, нягледзячы на заканчэнне «халоднай вайны», яе ідэі па-ранейшаму захоўваюцца і робяць уплыў на мір.

Вынікам перамоў стала падпісанне міжурадавых дакументаў — Пратакола аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве і Пагаднення аб кантролі якасці імпартнай і экспартнай прадукцыі.

Чакаецца, што ў час знаходжання ў Пекіне Сяргей Лінг будзе прыняты старшынёй КНР Цзян Цзэмінем.

**БЕЛТА.**

**ЗАО «ЛЕТ-плюс» ликвидируется. Претензии принимаются в течение 2 месяцев со дня публикации.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Агульная сума запазычанасці па заработнай плаце застаецца на ранейшым узроўні

**Пасля прынятага кіраўніком дзяржавы напрыканцы жніўня Указа «Аб своечасовай выплаце заработнай платы, пенсій, стыпендый і дапамог» сума запазычанасці ў кастрычніку—пачатку лістапада пачала рэзка зніжацца (так, калі летам яна складала каля трыльёна беларускіх «зайцоў», то ўжо ў лістападзе спынілася на адзнацы каля 300 мільярдаў).**

Заробак рабочым усё ж выплачваюць, аднак дасягнутае застаецца дасюль зафіксаваным на ранейшым узроўні. Паводле звестак, атрыманых карэспандэнтам «Звязды» з кампетэнтных крыніц, агульная сума запазычанасці па заработнай плаце складае зараз 355,1 мільярда рублёў. Сярод рэгіёнаў у сумным спісе даўжнікоў упаўнена «лідзіруе» Міншчына — 93,1 мільярда рублёў (у самой сталіцы — 12,8), далей ідуць: Гомельшчына — 81,8, Брэстчына — 58,2 і Гродзеншчына — 48 мільярдаў. Віцебская і Магілёўская вобласці маюць запазычанасць 22,7 і 38,4 мільярда рублёў адпаведна.

Самыя высокія неплацяжы па-ранейшаму застаюцца за аграпрамысловым комплексам — 270,3 мільярда рублёў (калгасы завінаваціліся 205,4). У прамысловасці справы больш-менш стабілізаваліся — 19,6 мільярда.

Такім чынам, як лічаць спецыялісты, у такой сітуацыі больш верагодна ў зімовыя месяцы (паводле мінулагодняга вопыту) што крывая запазычанасцей мае шанц папаўзці ўверх. Тым больш, калі ўлічваць той факт, што пакуль «на плаву» застаецца бюджэтная галіна (за кошт субсідый), калі ж пачнуцца супярэчнасці і тут, то сумы неплацяжоў значна ўзрастуць.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## КІТАЙСКІЯ ЗАКАНАДАЎЦЫ ПАВІНШАВАЛІ АНАТОЛЯ МАЛАФЕЕВА

Старшыня Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў КНР Цяо Шы павіншаваў Анатоля Малафеева з выбраннем на пасаду Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

«Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў надае вялікае значэнне развіццю адносінаў з Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь», — гаворыцца ў віншаванні. У сваім пасланні Цяо-Шы выказаў упэўненасць, што ў час знаходжання Анатоля Малафеева на такой высокай пасадзе адносіны паміж вышэйшымі заканадаўчымі органамі дзвюх краін будуць развівацца. Ён таксама пажадаў далейшага ўмацавання дружбы паміж народамі Кітая і Беларусі.

**БЕЛТА.**

## ПАСТАНОВА
### Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

**Аб выбранні Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Выбраць Старшынёй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Малафеева Анатоля Аляксандравіча.

**Намеснік Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь У. КАНАПЛЁЎ**

28 лістапада 1996 г., г. Мінск.
№ П-7/І вн.

## ПАСТАНОВА
### Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

**Аб выбранні намесніка Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Выбраць намеснікам Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Канаплёва Уладзіміра Мікалаевіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

28 лістапада 1996 г., г. Мінск.
№ П-8/І вн.

## ПАСТАНОВА
### Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

**Аб выбранні Начальніка Сакратарыята Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Выбраць Начальнікам Сакратарыята Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Кучынскага Віктара Францавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

28 лістапада 1996 г., г. Мінск.
№ П-9/І вн.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРЭС-СЛУЖБЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Як паведаміў «Звяздзе» кіраўнік прэс-службы Прэзідэнта Беларусі Валерый Талкачоў, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сваім Указам прысвоіў палкоўніку Новельскаму Віктару Мікалаевічу чарговае воінскае званне генерал-маёр.

## У ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

У адпаведнасці з артыкулам 143 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 года, а таксама ў сувязі са спыненнем паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў 5 снежня 1996 года прыняла пастанову аб неправедзенні рэгістрацыі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, выбраных 24 лістапада 1996 года пры правядзенні дадатковых паўторных выбараў, па наступных выбарчых акругах: Брэсцкай-Паўднёвай № 6 і Пінскай-Паўночнай № 31 Брэсцкай вобласці, Ангарскай № 221 і Ясенінскай № 233 г.Мінска.

**Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндума**

## ШТО ДУМАЮЦЬ У СВЕЦЕ ПРА БЕЛАРУСЬ?

Нядаўна ў выдавецтве «МакМілан» (агульнымі намаганнямі Англіі, ЗША і Канады) выйшла трэцяя ў свеце ў перыяд пасля рэвалюцыі кніга пра Беларусь. Называецца яна «Беларусь ад развалу СССР да ядзернай катастрофы». Аўтар — Дэвід Марпалз, прафесар рускай гісторыі ў канадскім універсітэце горада Альберта, — 3,5 года жыў у Беларусі, працаваў з людзьмі, дакументамі, архівамі, пры напісанні кнігі карыстаўся таксама архівамі амерыканскіх універсітэтаў і падтрымкай Таварыства беларусаў Амерыкі.

Кніга складаецца з трох частак. Першая прысвечана наступствам аварыі на ЧАЭС, у прыватнасці, узнімаецца праблема таго, што катастрофа адбылася 10 гадоў таму, а хварэюць усё больш нованароджаныя ды зусім маленькія дзеці. У другой частцы асвятляецца сацыяльная сістэма Беларусі, асобным пунктам — сітуацыя з БНФ: чаму ў яго мала прыхільнікаў у параўнанні, напрыклад, з аналагічнай арганізацыяй на Украіне. У кнізе ўвогуле праводзіцца шмат паралеляў з Украінай. У трэцяй частцы аналізуецца крызіс улады ў Беларусі.

Па меркаванню аўтара, кніга з'яўляецца унікальным даведачным выданнем, дзе змяшчаецца прафесіянальны экспертны аналіз многіх з'яў нашай рэчаіснасці. Выйшла яна тыражом у 10 тысяч экземпляраў і набыць яе практычна немагчыма.

**Яна САВІЦКАЯ.**

## ФІЛІЯЛ АКАДЭМІІ АДКРЫЕЦЦА ...У ВЁСЦЫ

**Вёска Ракаў, якая размешчана за 40 кіламетраў ад Мінска, магла праславіцца гадоў шэсць таму. Тут планавалі пабудаваць парк цудаў, накшталт амерыканскага Дыснейленда. Але не адбылося цудаў з фінансаваннем...**

Час нібы захацеў рэабілітавацца. Ракаў мае намер прыцягнуць да сябе ўвагу гасцей, турыстаў. Не так даўно ў рэспубліцы прафесіянальнымі мастакамі заснавана Акадэмія выяўленчага мастацтва. Акадэмікамі гэтай установы сталі ўраджэнцы Ракава — браты Янушкевічы. На іх сядзібе, у маляўнічай, з багатай гісторыяй вёсцы, плануецца адкрыць філіял акадэміі. Зараз тут будуюцца музей і выставачныя залы. Міне час — і наведвальнікі змогуць азнаёміцца з рэдкай калекцыяй керамікі XV—XX стагоддзяў. Сабраны вырабы таленавітых, самабытных майстроў тутэйшых мясцін. Паклапаціўся пра гэта прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, акадэмік жывапісу Фелікс Янушкевіч. Наведаўшы ракаўскі філіял акадэміі, турысты змогуць пабачыць творы жывапісу, скульптуры як мастакоў Беларусі, так і замежжа.

**Ірына ПАШКЕВІЧ.**

*Валожынскі раён.*

## МАЛАЯ РОК-Н-РОЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

«Крама» святкавала сваё 5-годдзе. Святкавала вельмі гучна і бурна. Гэта можна было б назваць малой рок-н-рольнай рэвалюцыяй. Прычым ужо ў самым пачатку канцэрта стала ясна, што месца ў Палацы прафсаюзаў для мінскіх прыхільнікаў гурта яўна мала. «Крама» магла сабраць у Мінску большую залу. І так, кажуць, на 500 месцаў было прададзена 600 білетаў, а колькі фанатаў здолелі прарвацца так.

Хоць прарвацца на канцэрт было нялёгка. Напрыклад, хлопцы з аховы стараліся так, што музыкантам з іншых гуртоў прыходзілася доўга даказваць сваю прыналежнасць да гэтага канцэрта — у «Крамы» сапраўды шмат сяброў, некаторыя з іх выходзілі на сцэну (НРМ, «Тарнада», трыо духавых з «Палаца»). Нават маці і сястры Ігара Варашкевіча, якія спецыяльна прыехалі на канцэрт, давялося доўга прастаяць пад дзвярыма службовага ўваходу, перш чым для іх знайшлося месца ў зале. Нехта з адміністратараў нават выказаўся, маўляў, сваіх родных запрашайце да сябе ў хату. Але юбілейны канцэрт — сапраўды сямейная падзея для Варашкевіча. Пяць гадоў аддадзена другому калектыву ў яго жыцці. Прычым былая слава «Бонды» толькі павялічвае адказнасць за цяперашнюю працу «Крамы». З'ўляліся на сцэне музыканты, якія па розных прычынах пакінулі гурт — бубнач Анатоль Горбач і гітарыст Сяргей Труханові.

Гэты вечар можна назваць сямейным, толькі не ціхім, вядома, і таму, што публіка ў зале была «ў дошку свая». Літаральна з другой песні моладзь пасаскоквала з месцаў і спявала разам з музыкантамі амаль усе песні, акрамя новых.

Адным юбілейным канцэртам у Мінску «Крама» не абмяжуецца. Літаральна праз дзень музыканты адправіліся ў канцэртнае турнэ па Беларусі. Якое, дарэчы, арганізоўваюць самі. Бо калі чакаць, калі тут з'явяцца прафесіянальныя прадзюсерскія цэнтры ці проста нармальныя канцэртныя арганізацыі, якія не пабаяцца арганізаваць гастролі беларускіх выканаўцаў, глядзіш, на сцэне бацькам-музыкантам складуць канкурэнцыю іх дарослыя дзеці. «Крама»— амаль адзіны гурт, які не баіцца сёння рызыкаваць і спрабуе зарабляць на жыццё канцэртамі. Маленькія гарады артысты сёння не надта балуюць, і калі нашы чытачы пажадалі б бачыць у сваім горадзе «Краму», можна запрасіць яе ў госці па мінскім тэлефоне 259-56-47.

Свята праходзіць. Але, магчыма, дажывём да наступнага юбілею гурта «Крама», які да таго часу будзе ўвасабляць беларускі варыянт супермаркета, як нехта пажартаваў. Таму што сапраўды — «супер».

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ШВЕЙЦАРЫЯ ПАЗБАВІЦЦА НЕЙТРАЛІТЭТУ**

Дагэтуль нейтральная Швейцарыя вырашыла далучыцца да натаўскай праграмы «Партнёрства дзеля міру». Як абвясціла ўчора прэс-служба НАТО, міністр замежных спраў Швейцарыі падпіша 11 снежня ў штаб-кватэры альянсу рамачны дакумент гэтай праграмы.

**КУРСЫ КАШТОЎНЫХ ПАПЕР І ДОЛАРА ЗНАЧНА ЗНІЗІЛІСЯ**

У Еўропе і на Далёкім Усходзе рэзка знізіліся курсы акцый пасля таго, як старшыня амерыканскага цэнтральнага банка заявіў, што цэны на акцыі і іншыя каштоўныя паперы штучна завышаны. Ён папярэдзіў пра небяспечнасць неапраўданага аптымізму на фінансавых рынках. Курс долара знізіўся пасля гэтай з'явы ў адносінах да еўрапейскіх валют. Як адзначаюць спецыялісты, заява кіраўніка банка была ўспрынята як знак таго, што трэба чакаць заканчэння буму на фінансавых рынках.

**ФЕРМЕРЫ ПАКІНУЛІ ГАРАДЫ ГРЭЦЫІ БЕЗ ПРАДУКТАЎ ХАРЧАВАННЯ**

Грэчаскія фермеры адхілілі заклік прэм'ер-міністра Сіміціса зняць іх блакаду з портаў, аўтамабільных дарог і чыгункі. Гэта блакада паралізавала сувязь паміж поўначчу і поўднем і практычна закрыла межы краіны. Лідэры фермераў пагражаюць пашырыць забастоўку, калі не будуць зменшаны падаткі і адноўлены дзяржаўныя субсідыі.

З многіх гарадоў Грэцыі паведамляюць пра недахват прадуктаў харчавання. Забастоўка працягваецца ўжо дзевяць дзён.

**ГРАНАТА ЎЗАРВАЛАСЯ Ў СТРАІ ВАЙСКОЎЦАЎ**

Трое расійскіх вайскоўцаў загінулі і 12 атрымалі раненні ў выніку выбуху на палігоне Прыволжскай ваеннай акругі, паведаміла інфармаваная крыніца ў Міністэрстве абароны РФ.

Па яе словах, сярод загінуўшых малодшы сяржант і двое радавых 1995—1996 гадоў прызыву з 27-й гвардзейскай дывізіі.

Выбух адбыўся ў цемры, калі падраздзяленне вайскоўцаў строем накіроўвалася да месца палявых заняткаў. «Паводле папярэдніх даных, хтосьці з вайскоўцаў выпадкова наступіў на асколачную гранату», — заначыла крыніца.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У ЗША захворванне галаўнога мозгу штогод забірае жыцці каля 100 тысяч чалавек. Два гады назад яно было выяўлена ў былога прэзідэнта краіны Рональда Рэйгана. Пасля сардэчна-сасудзістых захворванняў, рака і інсультаў хвароба Альцгеймера займае зараз чацвёртае месца сярод галоўных прычын смяротнасці амерыканцаў. Яе сімптомы — затарможанае мысленне, страта памяці і арыентацыі.

**«Баянемістры».**

У гэтым годзе на індыйскіх дарогах павінен з'явіцца «монстр на колах» з верталётнымі лопасцямі на даху. На думку яго стваральніка, бізнесмена з горада Путы Санджая Сапавані, гэты гібрыд аўтамабіля і верталёта з поспехам зможа сапернічаць са звычайнымі аўтамашынамі на дарогах і пасля невялікай мадэрнізацыі ўзляцець у неба. Пераробка «сродку перамяшчэння» з наземнага ў паветраны займае ўсяго 15 хвілін і выконваецца самімі ўладальнікамі аўтаверталёта.

**«Труд».**

## СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

Апошняя квадра, 3 снежня

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Екацярыны, Меркурыя.
К. Амброзія.

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі невялікія ападкі, туман, слабы галалёд. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Магілёве, Віцебску — 1—3, Брэсце, Гомелі — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі 9-га ўначы па поўначы невялікі снег, месцамі туман. Тэмпература ўначы — 0—5 градусаў марозу, удзень — мінус 2 — плюс 3.

*СКАНДАЛ*

# Гісторыя з брушным тыфам: канкрэтных вінаватых пакуль няма, а колькасць захварэўшых вымяраецца дзесяткамі

**У чарговы раз узяцца за тэму брушнога тыфу, што напачатку кастрычніка з'явіўся ў Чэрвеньскім доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых, а праз нейкі час трапіў у Барысаў, а таксама іншых падзей, тым ці іншым чынам звязаных з успышкай захворвання, прымусілі новыя звесткі, што афіцыяльна або неафіцыяльна паступілі з двух гарадоў. Этыка журналісцкай працы не дазваляе гаварыць аб усім пачутым (у некаторых выпадках гэта супярэчыць і юрыдычным нормам), таму гаворка зноў пойдзе толькі аб канкрэтных фактах, а таксама аб тым, што падчас камандзіровак у Чэрвень і Барысаў давялося пабачыць на свае вочы.**

Сын медсястры з Чэрвеньскага дома-інтэрната, якая пакончыла жыццё самагубствам, звярнуўся ў пракуратуру са скаргай, у якой на падставе канкрэтных фактаў сцвярджае, што яго маці давялі да самазабойства, і просіць прыцягнуць вінаватых да крымінальнай адказнасці. Артыкул 105 Крымінальнага кодэкса «Давядзенне да самагубства» прадугледжвае пакаранне ад 3 да 5 гадоў пазбаўлення волі, але, як сведчыць практыка, даказаць віну пэўнага чалавека, згодна з гэтым артыкулам, надзвычай цяжка. Факт самагубства медсястры разглядаецца ў рэчышчы ўзбуджанай пракуратурай Чэрвеньскага раёна крымінальнай справы з выпадку ўспышкі брушнога тыфу ў доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых па артыкулу 168 «Халатнасць», які прадугледжвае ў якасці пакарання пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў, папраўчыя работы на тэрмін да двух гадоў, штраф або звальненне з пасады. З мэтай пацікавіцца, як вядзецца расследаванне па ўстанаўленню вінаватых асоб, я звярнуўся да следчага Чэрвеньскай пракуратуры Аляксандра Місюкевіча.

— Ці можна ўжо гаварыць аб нейкіх канкрэтных фактах па гэтай справе?

— Час высноў яшчэ не настаў. Скажам, у Крымінальным кодэксе ёсць артыкул 217, які прадугледжвае пакаранне за парушэнне правілаў барацьбы з эпідэміяй і г. д. Але прымяніць яго мы не можам, бо афіцыяльна ў санстанцыю аб успышцы брушнога тыфу паведамілі тады, калі яна ўжо пачала яе лакалізацыю. Нам жа аб здарэнні паведамілі наогул у пачатку лістапада. Таму знайсці тут вінаватага вельмі цяжка...

— Скажыце, ці з'яўляецца інфекцыйным аддзяленне бальніцы закрытай установай? Як жанчына магла выйсці з яго?

— Па логіцы, так. Па гэтаму пытанню намі накіравана адпаведная папера медыкам, каб яны правялі сваё службовае расследаванне, а таксама адказалі, якім павінен быць прапускны рэжым у аддзяленне. Зазначу, што ў той дзень зменшчыца адмовілася прымаць у дзяжурнай медсястры пост, паколькі адзін чалавек адсутнічаў. Тады з бальніцы да нас звярталіся з адпаведнай пісьмовай заявай.

Ад пракуратуры да санэпідстанцыі пехатою хвілін 15. Паспяваю своечасова, бо галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Чэрвеньскага раёна Юрыя Вардамскага сустракаю на парозе. Згадзіўшыся затрымацца, Юрый Міхайлавіч дае бліц-інтэрв'ю.

— Якое становішча з хваробай у Чэрвені сёння?

— У інфекцыйным аддзяленні бальніцы зараз знаходзяцца 33 чалавекі, у ізалятары дома-інтэрната — 79 чалавек (з падазрэннем на тыф і ўжо з дыягназам). За лістапад-кастрычнік у справаздачу пададзена лічба 78 чалавек — менавіта столькі за гэты час пастаўлена дакладных дыягназаў «брушны тыф». З гэтай колькасці: медперсаналу — 7 чалавек, астатнія — забяспечваемыя.

— У снежні былі новыя выпадкі захворвання?

— Не, не было.

— Ці выпраўлены недахопы ў доме-інтэрнаце?

— Так, наладжана водазабеспячэнне і каналізацыя.

— Хто і якім чынам пакараны за продаж крэмавых вырабаў пасля адпаведнай забароны санстанцыі?

— Загадчыца цэха кандытарскіх вырабаў грамадскага харчавання пазбаўлена прэміяльных у памеры 500 тысяч рублёў. Пасля 9 лістапада продаж крэмавых вырабаў не вёўся.

Ад сябе зазначу, што да пазначанай даты такі гандаль вёўся, ды яшчэ як. У спадара Вардамскага на стале ляжала забарона санэпідстанцыі ад 28 кастрычніка. Але ў міліцыі (дзе яна павінна была быць абавязкова) 8 лістапада (!?) яе не было... Ад далейшых каментарыяў устрымаюся.

Наступная камандзіроўка была ў Барысаў. Нагадаю: туды паклікалі скаргі мінчанкі Людмілы Галкус на тое, што ў мясцовай інфекцыйнай бальніцы яе сястры Марыі Бабіцкай (якая знаходзіцца там з сынам Мішам, што да гэтага быў у Чэрвеньскім доме-інтэрнаце і дзе «падчапіў» тыф) не ставяць адпаведнага дыягназу. Да таго ж, яна купляла лекі за свае грошы.

... Канцавы прыпынак аўтобуса, побач з якім — інфекцыйная бальніца. Ціхі пусты вестыбюль, у будачцы медрэгістратара — нікога. Праз службовы ўваход падымаюся на другі паверх, блукаю па нейкіх калідорах, кручу галавой у пошуках кабінета кагосьці з адміністрацыі, пакуль мяне не аклікае жанчына. Яна і становіцца суразмоўніцай, паколькі галоўны ўрач бальніцы ў камандзіроўцы, а Іна Бялко — урач-інфекцыяніст, пад наглядам якой і знаходзяцца сын і маці Бабіцкія.

— Іна Рэнатаўна, чаму Марыі Бабіцкай не ставяць дыягназ «брушны тыф»?

— У яе няма ніякіх, ні клінічных, ні лабараторных, падстаў для гэтага. Тэмпература ў яе апошнім часам адсутнічае, быў толькі адзіны ўсплёск аднойчы ўвечары. Рукі ў жанчыны пажаўцелі хутчэй за ўсё ад хлараміну.

— На тыф аналізы ў Бабіцкай былі ўзяты ўжо пасля таго, як яна колькі дзён праляжала ў бальніцы...

— Ну і што? Каб ён быў, гэта было б бачна. У яе рэгулярна бяруць аналізы, пакуль усё добра.

— Яна па-ранейшаму кантактуе з хворым сынам?

— Вядома, яна яго даглядае.

— Як здарылася, што Бабіцкая купляла лекі за свае грошы?

— Наша віна, забыліся папярэдзіць яе, што існуе такая практыка, калі неабходныя лекі аплачвае хвораму або прафком, або аддзел сацзабеспячэння.

— Апошняе пытанне. Ці з'яўляецца ваша бальніца закрытай установай, паколькі трапіў да вас я праз службовы ўваход...

— На першым паверсе ёсць чалавек, медрэгістратар. Магчыма, яна панесла перадачу. А ўвогуле — гэта раней так было, зараз нават у сталічных бальніцах уваход вольны.

На развітанне вырашаю паразмаўляць з Марыяй Бабіцкай. Асобны бокс з падвойнымі дзвярыма. У невялікім пакоі на ложку сядзіць жанчына, каля сцяны пад коўдрай спіць яе сын. У вачах — стома. Вядома, такое вытрымаць...

— Як вы сябе адчуваеце?

— Ужо лепш, ды і сын пачаў уставаць з ложка, а то месяц ляжаў.

— З вамі разам яшчэ нехта забіраў дамоў дзяцей?

— Звычайна я адна забірала, мне потым з Барысава, у каго ў Чэрвені дзеці знаходзяцца, тэлефанавалі, цікавіліся. Але чаму мне ў доме-інтэрнаце не сказалі, што ў іх тыф, яны ж ужо ведалі... Цяпер я маю права не верыць медыкам, у мяне ёсць на гэта падставы...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

Мінск—Чэрвень—Барысаў—Мінск.

*ПОГЛЯД*

# «ДЫСІДЭНЦЫІ», АБО ЦІ ЁСЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ЭМІГРАНТЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

**Польская «Газета выборча» часта аддае свае старонкі беларускай тэматыцы. Але такой колькасці публікацый пра «беларускія справы», як у нумары за аўторак, 3 снежня, бадай што яшчэ не было. Ажно 8 матэрыялаў так ці інакш закранаюць розныя аспекты беларускага жыцця.**

Не аналізуючы ўсе публікацыі, хацелася б адзначыць некаторыя з іх — скажам так, эмігранцкай накіраванасці. Ці то выпадкова, ці то з якой іншай прычыны, але ў чатырох матэрыялах гаворка ідзе пра праблемы «дысідэнцкія».

Пад загалоўкам «Лёс бежанцаў» змешчана інтэрв'ю з дырэктарам Бюро па справах міграцыі і бежанства Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы Томашам Казлоўскім. На пытанне карэспандэнта: «Кажуць, што да вас звярнулася некалькі дзесяткаў беларусаў, якія хочуць атрымаць у Польшчы статус палітычных бежанцаў?» — дырэктар Бюро дае адназначны адказ: «Нічога падобнага!»

Адказваючы на далейшыя пытанні, Т. Казлоўскі расказвае, што за 11 месяцаў гэтага года ў Бюро звярнуліся 8 грамадзян Беларусі з просьбай даць статус бежанца, аднак ніводзін з іх не атрымаў станоўчага рашэння. Увесь працэс разгляду спраў адбываецца ў адпаведнасці з нормамі міжнароднага права і польскімі законамі і толькі індывідуальна ў дачыненні да кожнага звароту, а не ўвогуле да нейкай краіны.

Тым не менш, адзначыў дырэктар Бюро, з пачатку гэтага года пададзена 2700 просьбаў аб наданні статусу палітычнага бежанца — найбольш з азіяцкіх краін. Са Шры Ланкі, напрыклад, паступіла 500 зваротаў. З краін былога СССР атрымана каля 400 просьбаў. Амаль палова — з Арменіі, 60 — з Расіі, 30 — з Малдавіі, амаль па 20 — з Азербайджана, Грузіі і Украіны. Сёлета статус бежанца атрымалі толькі 4 асобы з Арменіі, па 1 — з Малдавіі і Таджыкістана. Але варта памятаць, што разгляд кожнай справы доўжыцца ад 6 да 18 месяцаў. Адмоўны адказ атрымалі 250 прасіцеляў.

У другім матэрыяле — «Цэнтр беларускіх эмігрантаў» — «Газета выборча» паведамляе аб тым, што члены беларускай апазіцыі, якія зараз знаходзяцца ў Польшчы, плануюць стварыць тут цэнтр каардынацыі беларускай палітычнай эміграцыі ў Польшчы. Мэтай яго з'яўлялася б дапамога ў адаптацыі палітычным імігрантам, якія прыбываюць у Польшчу з Беларусі. З гэтай нагоды прадстаўнікі маладзёжнай фракцыі Беларускага народнага фронту аб'явілі ў Варшаве прэс-канферэнцыю. Калі ў вызначаны час журналісты сабраліся ля названага будынка, то сустрэлі на вуліцы змёрзлых арганізатараў прэс-канферэнцыі: былі замкнёныя дзверы. Давялося ісці на прыватную кватэру.

Газета паведамляе таксама, што 26—29 лістапада ў Падкове Лясной пад Варшавай адбылося міжнароднае спатканне «Час дысідэнтаў», у якім бралі ўдзел «даўнія ўдзельнікі рухаў дысідэнцкіх і апазіцыйных» былых сацыялістычных краін. Ад Беларусі ўдзельнічалі Сяргей Дубавец і Алег Дзярновіч. Змешчаны вялікі матэрыял з гэтага спаткання.

**Анатоль БАЯРСКІ.**

*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

### ПАШУКАЙЦЕ БОЛЬШ НАДЗЕЙНАГА ПАМОЧНІКА

**Я інвалід І групы, маю патрэбу ў пастаянным доглядзе. Хацеў, каб мая маці, якая жыве са мной, стала апякункай. Але мне адмовілі, спаслаўшыся на тое, што ў яе вялікі ўзрост (71 год) і яна сама хворая. Хацелася б ведаць, ці правільна мне адмовілі?**

— Вам адмовілі правільна. Артыкул 152 Кодэкса аб шлюбе і сям'і прадугледжвае ў падобных выпадках назначэнне папячыцеля. Але і апекуном, і папячыцелем можа быць не кожны. Бо апякун (папячыцель) назначаецца з пэўнай мэтай: аказваць дапамогу састарэламу чалавеку, заключаць здзелкі, клапаціцца аб яго ўтрыманні, ствараць усе ўмовы для падапечнага, у тым ліку догляд і лячэнне.

Ваша састарэлая маці наўрад ці можа добра выконваць усе гэтыя абавязкі. Ёй, бадай, самой часта патрэбна дапамога.

Так што лепш пашукайце іншага памочніка: больш маладога, здаровага і надзейнага.

### ЯКОЕ ЗАВЯШЧАННЕ БОЛЬШ СПРАВЯДЛІВАЕ?

**Мая маці склала два завяшчанні: спачатку на маёмасць (яе яна завяшчала ўнуку), а потым распараджэнне на грошы ў банку (іх яна падзяліла паміж унукам і мной). Ці адмяняе другое завяшчанне (распараджэнне) папярэдняе? Яно ж больш справядлівае.**

— Не, не адмяняе. У вашым выпадку грашовы ўклад наогул не ўваходзіць у састаў спадчыннай маёмасці. І распараджэнне, якое зрабіла ваша маці ў банку, датычыцца толькі грошай. А вось маёмасць, калі толькі вы не маеце права на абавязковую яе долю (не з'яўляецеся непаўналетнім ці непрацаздольным), атрымае унук.

### ЦІ МОЖНА БЕЗ КРЫЎДЫ ПАДЗЯЛІЦЬ МАЁМАСЦЬ ПРЫ РАЗВОДЗЕ?

**Пры разводзе ў судзе (гэта было ў 1994 г.) мы з мужам не сталі дзяліць маёмасць. Вырашылі, што ён возьме сабе машыну, а мне будзе ўсё астатняе.**

**Аднак машына каштавала даражэй за астатнюю маёмасць, і муж абяцаў выплаціць мне кампенсацыю. Але вось мінула больш года, а ён не аддаў ні капейкі. Ці можна гэтую розніцу з яго спагнаць?**

— Вядома можна. Калі ў вас ёсць даўгавая распіска. У такім разе звярніцеся ў суд і з яго дапамогай атрымайце свой доўг. Гэта самы лепшы варыянт. Магчымы і іншы, калі няма распіскі. У вас яшчэ ёсць час звярнуцца ў суд і раздзяліць маёмасць (тэрмін іскавой даўнасці 3 гады). Але не забудзьцеся пры тым, што гэта будзе каштаваць нямала. Чаму? Дзяржпошліна пры раздзеле маёмасці вельмі высокая (10 працэнтаў ад сумы іску).

**Наталля ДОЎНАР,**
**юрыдычны кансультант «Звязды».**

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

# ЧАМУ «ПЛЯМЕННІК БІЛА КЛІНТАНА» НЕ СТАЎ СТУДЭНТАМ ГРОДЗЕНСКАГА ДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА?

Першага красавіка 1995 года пад рубрыкай «І смех і грэх» «Звязда» надрукавала артыкул «Аб амаль неверагодных прыгодах на Беларусі «пляменніка Біла Клінтана». Ніякага першакрасавіцкага розыгрышу не было, паколькі «прыгоды» сапраўды мелі месца, а «сваяком» амерыканскага прэзідэнта з'яўлялася зусім не выдуманая асоба, а гродзенскі дзесяцікласнік Косця М.

Нагадаем некаторыя факты з яго біяграфіі. Косця нарадзіўся ў Гродне, бацькі развяліся, калі хлопчыку было восем гадоў. У пачатковай школе ён вучыўся ў асноўным на «выдатна», але затым рэзка здаў, асабліва што датычыць матэматыкі і фізікі. Праўда, хлопцу па-ранейшаму лёгка даваліся гуманітарныя прадметы, ён быў захоплены літаратурай, геаграфіяй, гісторыяй. Займаўся мастацкім чытаннем, наведваў драматычны гуртох.

Дарэчы, Косцевы акцёрскія здольнасці адчуваліся не толькі на рэпетыцыях. І ўвогуле, многія яго ўчынкі не паддаваліся звычайнай логіцы. Скажам, Косця мог схаваць чужую ручку, а потым вярнуць яе з шакаладкай у дадатак. Альбо крадзе ў бібліятэцы кнігу, а назаўтра, прачытаўшы, вяртае, за што яго ставяць на ўлік да ўчастковага інспектара.

У старэйшых класах настаўнікі заўважылі імкненне Косці да лідэрства, прызнання яго асобы з боку калектыву. Відаць, з гэтым не атрымлівалася, таму юнак пачынае самавыяўляцца ў іншых месцах, прычым з усё тым жа акцёрскім майстэрствам.

«Спектакляў» у яго выкананні было некалькі. Спачатку «адказная асоба з аблвыканкома» тэлефануе гаспадару аднаго гродзенскага магазіна, грамадзяніну Германіі, з просьбай размясціць заказ на абслугоўванне гасцей са Злучаных Штатаў. А затым адзін з «членаў амерыканскай дэлегацыі» (гэтую ролю таксама выканаў Косця) пад гарантыю выканкомаўскай аплаты забірае тавар (прэстыжныя прадукты, моцныя напоі, прысмакі і г.д.) на 445 «зялёных».

Галоўнай дзеючай асобай другога «спектакля» быў «ксёндз». Самы сапраўдны, у сутане, прычым з-за мяжы, паколькі гаворыць з акцэнтам. Ён быццам суправаджаў з Германіі гуманітарны груз для абяздоленых гродзенцаў. І паколькі некаторым няшчасным трэба было дапамагчы тэрмінова, «святы айцец» прыйшоў па частку грузу ўначы, нават ахвяраваўшы ўласным адпачынкам. Міліцыянер, які дзяжурыў каля аўтамабіляў, паверыў «ксяндзу», і ў выніку гуманітарная дапамога на 8 тысяч дойчмарак перакачавала ў Косцевы сумкі.

«Святога айца» затрымалі неўзабаве на вуліцы, дзе ён гандляваў нямецкімі прадуктамі, аднак па прычыне ўзросту да крымінальнай адказнасці не прыцягнулі. І тады на «сцэну» выйшаў «пляменнік Біла Клінтана», які ў Гродне неафіцыяльна і якому вельмі хочацца наведаць знакаміты фестываль «Славянскі базар». Па спадарожнікавай сувязі (кажуць, з машыны знаёмага камерсанта) высокі госць звязваецца з беларускім бокам, каб ён арганізаваў адпаведны «пратакол». Паводле адной версіі, на чыгуначным вакзале сталіцы «сваяка» амерыканскага прэзідэнта сустракалі з хлебам і соллю, аркестрам. Гэта цырымонія зрабіла на юнака такое моцнае ўражанне, што ён кінуўся навучэкі.

Неўзабаве Косця пагарэў на двух злачынствах. Спачатку ён абрабаваў камерцыйны ларок, каб перапрадаць ружы на рынку. А затым разам з сябрамі наведаўся на кватэру аднаго святарнаслужыцеля, пасля чаго апошні атрымаў некалькі ўдараў па галаве кухоннай дошкай. У выніку, паколькі ўзрост ужо дазваляў, Косця апынуўся ў турэмнай камеры.

Нядаўна карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся, як жа склаўся яго далейшы лёс. На жаль, спадзяванні на лепшае не спраўдзіліся. Выйшаўшы з турмы ў красавіку сёлетняга года, Косця закончыў школу і вырашыў паступіць у Гродзенскі дзяржуніверсітэт, здаецца, на філалагічны факультэт. Аднак да ўступных экзаменаў не дайшло, паколькі юнаку давялося зноў адказваць на пытанні следчага.

Дарэчы, раскрыць чарговае Косцева злачынства гродзенскай міліцыі было зусім не цяжка. Вельмі ўжо знаёмым почыркам быў учынены крадзеж у Фарным касцёле. Позна ўвечары туды наведаўся свяшчэннаслужыцель з Масквы, маўляў, дазвольце патэлефанаваць. «Калегу» праводзілі да апарата. На развітанне ён сфатаграфаваўся з вартаўніком, аднак хутка высветлілася, што разам са «святым айцом» знікла і частка касцельнай маёмасці — мікрафон, тысяча бланкаў пасведчанняў аб заключэнні шлюбу ды яшчэ сто штук так званых хлябцоў — усяго на суму 2 мільёны 520 тысяч рублёў.

Праз пару дзён Косцю затрымалі на вуліцы. Ён адразу прызнаўся ў крадзяжы, праўда, так і не змог толкам растлумачыць, навошта яму спатрэбіліся вышэйпамянёныя бланкі. Хлябцы ж ён раздаў знаёмым, трохі падсілкаваўся сам. Косця разлічваў, што возьмуць падпіску аб нявыездзе, аднак зноў шчоўкнулі наручнікі, і уступныя экзамены ва універсітэт былі для яго адкладзены. Прычым на даволі працяглы тэрмін, паколькі ў ходзе папярэдняга следства выявілася яшчэ адно злачынства, учыненае юнаком у Баранавічах. З універмага ён украў фотаапарат «Кодак» з чахлом і два блокі фотаплёнкі. Там жа, у Баранавічах, адбыўся суд, і цяпер Косця, якому ў верасні споўнілася васемнаццаць гадоў, зноў за кратамі. А якое там выхаванне — вядома.

Паводле прагнозу аднаго з супрацоўнікаў міліцыі, які добра ведае Косцю, пасля вяртання з турмы ён зноў пойдзе па «крымінальнай сцяжынцы»: «Будзе вам яшчэ адзін артыкул». Аднак мне вельмі гэтага не хацелася б. Застаецца надзея, што Косцеў лёс усё ж павернецца ў шчаслівым накірунку. Магчыма, калісьці з яго і сапраўды атрымаецца выдатны акцёр альбо філолаг. Праўда, у цяперашняй сітуацыі шанцаў на гэта ў юнака не вельмі шмат...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

**Васіль ДАЛГАЛЁЎ:**

# «УРАД АДДАЕ ПРЫЯРЫТЭТ ЖЫЛЛЁВАМУ БУДАЎНІЦТВУ»

***З віцэ-прэм'ерам урада рэспублікі Васілём Далгалёвым гутарыць карэспандэнт «ІНТЭРФАКСА»***



***— Статыстыка сведчыць, што амаль трэць насельніцтва Беларусі не мае нармальных жыллёвых умоў. На ўліку маючых патрэбу ў іх паляпшэнні знаходзіцца больш як 650 тысяч сем'яў. Ці ўдасца ў гэтым годзе часткова зняць вастрыню гэтай праблемы?***

— Будаўніцтва жылля — надзённая і балючая праблема рэспублікі. Стратэгія яе вырашэння заключаецца ў тым, што тыя, хто мае магчымасць і здольны працаваць, павінны самі вырашаць свае жыллёвыя праблемы. Рэалізуючы гэтую стратэгію, урад прыняў шэраг рашэнняў, якія накіраваны на падтрымку тых грамадзян, якія маюць патрэбу ў сацыяльнай абароне і маюць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам ільготы на атрыманне жылля. Частка насельніцтва, якая знаходзіцца ў чарзе на жыллё, можа будаваць ці купляць кватэры за кошт уласных сродкаў пры фінансавай падтрымцы дзяржавы ў выглядзе аднаразовых бязвыплатных субсідый.

Акрамя таго, у сельскай мясцовасці чаргавікам для будаўніцтва выдзяляецца будаўнічы матэрыял па цане, якая складае трэцюю частку ад яго кошту. Прыняты таксама рашэнні аб прадастаўленні асобным катэгорыям грамадзян (у прыватнасці моладзі) крэдытаў на жыллёвае будаўніцтва на льготных умовах.

У выніку ажыццяўлення гэтых мераў за восем месяцаў гэтага года ўведзена ў эксплуатацыю 834 тыс. кв. м жылля. Гэта ў 1,5 раза больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. У рэспубліцы будуецца 420 жылых дамоў, 258 з іх (а гэта 1,1 млн. кв. м) павінны быць здадзены да канца года. Гэта дасць магчымасць часткова зняць напружанне жыллёвай праблемы.

Аднак біць у літаўры рана. Заданне па ўводу жылых дамоў выконваецца толькі ў дзвюх абласцях — Магілёўскай і Гродзенскай. Другі прыклад. Колькасць толькі льготных катэгорый грамадзян у рэспубліцы складае 28,8 тысячы чалавек. З пачатку года за кошт сродкаў дзяржбюджэту ў рэспубліцы пабудавана ўсяго 277 кватэр. Гэта менш, чым адзін працэнт ад запланаванага. Акрамя таго, з 500 млрд. рублёў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на субсідзіраванне будаўніцтва жылля, не выдзелена ні рубля. З мясцовых жа бюджэтаў прадастаўлена толькі 14,6 млрд. рублёў, хоць планавалася на год 247 млрд. На гэтыя мізэрныя сродкі і будуецца сацыяльнае жыллё.

Такое становішча з фінансаваннем тлумачыцца тым, што цяперашні ўзровень вытворчасці ў краіне не забяспечвае нармальнага напаўнення бюджэту. А калі ўлічыць, што ўрад прыняў рашэнне аб прыярытэтным выдзяленні сродкаў на зарплату работнікам бюджэтнай сферы, то становіцца ясна, што грошай на паўнакроўнае фінансаванне жыллёвага будаўніцтва ў дзяржавы няма.

Вырашэнне жыллёвай праблемы будаўніцтва ўрад бачыць у двух накірунках. З аднаго боку, гэта актыўная распрацоўка і ўкараненне ў практыку новых інвестыцыйных механізмаў у жыллёвым будаўніцтве. З другога, чаго б гэта ні каштавала захаваць узровень пад'ёму вытворчасці, дасягнуты ў 1996 годзе. Калі ўдасца падтрымаць стабільнасць, дысцыпліну, парадак і, значыць, лепш напоўніць бюджэт, то і сітуацыю ў жыллёвым будаўніцтве ўжо ў 1997 годзе ўдасца змяніць да лепшага.

**— У вырашэнні жыллёвай праблемы немалую ролю адыгрываюць цэны на жыллё. Многім суграмадзянам кватэры не па кішэні. Прычына ў надзвычай высокім сабекошце будаўнічай прадукцыі. Што робіцца для таго, каб знізіць затраты ў будаўніцтве, шырэй выкарыстоўваць айчынныя, а не імпартныя сыравіну і матэрыялы? Як зрабіць жыллё даступным больш шырокаму колу грамадзян?**

— Зніжэнне затрат у будаўніцтве — адна са стратэгічных задач. Вырашыць яе няпроста. Прыходзіцца, акрамя ўсяго, пераадольваць і старую традыцыю штучнага завышэння сабекошту будаўніцтва. Як доказ таго, што ў рэспубліцы можна будаваць жыллё ў максімальна кароткія тэрміны з мінімумам затрат, па рашэнню Прэзідэнта былі ўзведзены два пасёлкі: адзін у Віцебскай, другі ў Мінскай абласцях. На жаль, эксперымент на Віцебшчыне меў несуцяшальны эканамічны вынік. Жыллё там атрымалася добрае, але дарагое. Такі вопыт распаўсюдзіць не ўдасца.

Аптымальным аказалася будаўніцтва пасёлка на Міншчыне, дзе выкарыстоўваліся будматэрыялы, якія выпускаюцца беларускім АТ «Забудова». Мне прыходзілася бываць у гэтым пасёлку і павінен сказаць: жыллё выдатнае і цана яго закладвалася, зыходзячы з магчымасцей насельніцтва з сярэднім дастаткам. Кошт 1 кв. м жылля ў пасёлку склаў 178 долараў ЗША. Для параўнання: кошт квадратнага метра ў Мінску ў 9-павярхоўках набліжаецца да 300 долараў.

Паўстае пытанне: ці можна знізіць затраты і зрабіць жыллё больш танным? Адказ адназначны — можна. Напрыклад, АТ «Забудова» робіць шклопакеты, якія даюць магчымасць эканоміць цяпла на 30 працэнтаў больш, чым пры выкарыстанні звычайных аконных блокаў. Аднак уся фурнітура, якая прымяняецца пры вырабе шклопакетаў (замкі, засоўкі, зашчапкі), — імпартная і закупляецца ў Польшчы і Германіі. Такіх прыкладаў можна прывесці нямала. Гэта нонсенс: мець прамысловасць, якая выпускае звышдакладную прадукцыю, і не асвоіць выпуск звычайнай фурнітуры.

Змяніць гэтую сітуацыю ўрад мае намер з дапамогай цэн. У дадзеным выпадку будаўнікі абавязаны будуць «укласціся» ў пэўную цану ўсяго вырабу. З другога — Савет Міністраў будзе абмяжоўваць увоз такога тавару высокімі мытнымі пошлінамі, падаткам на дабаўленую вартасць прадукцыі, чым абароніць айчыннага вытворцу.

Крайне важная праблема падрыхтоўкі менеджэраў, якія думаюць па-сучаснаму. Вяртаючыся да прыкладу з фурнітурай, заўважу, што яшчэ гады чатыры таму яе выпуск было даручана асвоіць аднаму з вядомых у рэспубліцы аб'яднанняў. Час мінуў, а даручэнне не выканана. Прычына — адсутнасць рынкаў збыту і абгрунтаванне: як толькі гэтыя рынкі з'явяцца, работа, маўляў, закіпіць. Такая ўтрыманская пазіцыя, знаёмая па ранейшым часе, калі да справы прыступалі толькі ў выпадку прадастаўлення адпаведных гарантый з цэнтра. Адзначу, што такія пытанні ўрад цяпер не будзе вырашаць. Прадпрыемствы на месцах самі павінны вызначаць, што і як рабіць для ўласнага развіцця. Калі ж хтосьці не гатовы да прыняцця своечасовага граматнага кіраўніцкага рашэння, яго трэба неадкладна пераводзіць на іншую работу, а на вызваленае месца ставіць кіраўніка сучаснай фармацыі. Такая пазіцыя ўрада.

На жаль, не ўсе кіраўнікі прадпрыемстваў навучыліся па-майстэрску кіраваць у новых умовах. Таму прыходзіцца звяртацца да адміністрацыйных мераў: у дырэктыўным парадку даводзіць заданне па зніжэнню затрат. Не можам змірыцца з бухгалтэрыяй, калі накладныя расходы у 1000 працэнтаў лічацца ледзь не нормай для дзяржаўнага прадпрыемства. А яны ж непасрэдна ўплываюць на канчатковую прадукцыю, у тым ліку і жылля. Зыходзячы са стратэгічных мэтаў, мы будзем цвёрда ісці па шляху ўсямернага зніжэння затрат у будаўніцтве.

**— Адным з рэзерваў вырашэння жыллёвай праблемы, на думку спецыялістаў, з'яўляюцца капітальны рамонт і мадэрнізацыя ўжо існуючага жылфонду. Што прапануецца зрабіць у гэтым напрамку?**

— Праблема капітальнага рамонту дамоў знаходзіцца ў запушчаным стане. Справа ўпіраецца ў недахват бюджэтных сродкаў, малыя магчымасці накаплення ў працэсе амартызацыі. І гэта пры ўмове, што капрамонт жылфонду амаль поўнасцю праводзіцца за кошт дзяржавы і каштуе крыху менш, чым новае будаўніцтва. Вядома, пэўныя падыходы да вырашэння гэтай праблемы распрацоўваюцца. Перспектыўнай справай з'яўляецца мадэрнізацыя жылля пры правядзенні капітальнага рамонту будынкаў. У прыватнасці, на выставе «Будпрагрэс» дэманстравалася магчымасць прыбудовы мансардных паверхаў на плоскіх дахах. Для гарадоў, асабліва буйных, гэта добры выхад. Мансардныя паверхі ў цяперашняй сітуацыі могуць стаць нядрэнным танным жыллём для маладых сем'яў. Ёсць і іншыя падыходы, хоць поспехаў у гэтым напрамку мала.

**— Наколькі вырашэнне праблем будаўніцтва можна звязаць з супрацоўніцтвам па лініі СНД? Якія з пытанняў, што абмяркоўваюцца на Міжурадавым савеце Садружнасці, беларускі бок лічыць для сябе асабліва важнымі?**

— Па-першае, гэта ўвядзенне міждзяржаўных будаўнічых нормаў і стандартаў. Гэта выключна важна, таму што адна з галоўных задач заключаецца ў тым, каб выйсці на знешнія рынкі будаўнічых паслуг і заняць там сваю нішу. Гэта для нас жыццёва неабходна. Беларусь мае даволі магутную для вытворчасці будматэрыялаў індустрыю, але не мае сродкаў, каб яе загрузіць работай. Інакш кажучы, будаўнікі могуць выконваць заказы, але дзяржава не ў стане забяспечыць прадастаўленне гэтых заказаў. У галіне ёсць прадпрыемствы, работнікі якіх з мая не атрымлівалі зарплату. Каб не пайсці «на дно», трэба атрымаць заказы на знешнім рынку. Вось чаму такія важныя для нас адзіныя міждзяржаўныя будаўнічыя нормы і стандарты.

Не менш важны момант — узаемнае прызнанне ліцэнзій. Калі наша прадпрыемства будзе мець ліцэнзію на будаўніцтва аб'ектаў, то, пры наяўнасці міждзяржаўнага пагаднення аб узаемным прызнанні ліцэнзій, яно, выйграўшы тэндэр, зможа прыступіць да работы. Калі ж такое пагадненне адсутнічае, айчынныя будаўнічыя арганізацыі, каб прыняць удзел у тэндэры, павінны будуць кожны раз атрымліваць адпаведную ліцэнзію дзяржавы, якая аб'явіла тэндэр. А гэта даволі доўгая гісторыя. Між тым, перамогі беларускіх будаўнікоў у міжнародных тэндэрах сведчаць аб тым, што яны могуць канкурыраваць з будаўнікамі як з краін СНД, так і з дзяржаў далёкага замежжа.

Трэці напрамак — сертыфікацыя самой будаўнічай прадукцыі. Беларусь мае развітую прамысловасць будматэрыялаў. Прызнанне нашага сертыфіката — важны момант, калі мець на ўвазе экспартны патэнцыял айчыннай прадукцыі.

Сказаным не вычэрпваецца кола пытанняў, якія абмяркоўваюцца на Міжурадавым савеце па будаўніцтву. Яго работу мы лічым вельмі важнай і прымаем у ёй актыўны ўдзел, усведамляючы, што экспарт будаўнічых матэрыялаў і паслуг для Беларусі з'яўляецца адным з прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнага развіцця.

**— У Асноўных напрамках сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі да 2000 года запісана, што да пачатку трэцяга тысячагоддзя ў рэспубліцы будуць створаны «рэальныя ўмовы для зняцця вастрыні жыллёвай праблемы» і падрыхтавана неабходная база «для вырашэння ў асноўным жыллёвай праблемы ўжо ў першым дзесяцігоддзі XXI стагоддзя». Наколькі абгрунтаваны гэты прагноз?**

— Вынік вырашэння гэтай праграмы будзе залежаць ад многіх фактараў.

У аснову асноў трэба паставіць фактар палітычны. Самае вялікае апасенне выклікае нагнятанне палітычных страсцей, якія адмоўна адбіваюцца на эканамічных працэсах. Нам перш за ўсё патрэбны стабільнасць і дысцыпліна. Іншага выйсця няма. Я ўжо гаварыў аб тым, што ў гэтым годзе пабудавалі менш як адзін працэнт запланаванага сацыяльнага жылля. Але калі мы не дасягнем тут хоць бы 90 працэнтаў, то гаварыць аб якіх-небудзь значных поспехах да 2000 года няма сэнсу.

Галоўны напрамак, які мы абавязаны вытрымаць, гэта будаўніцтва сацыяльнага жылля. Для гэтага ў першую чаргу патрэбна напаўненне бюджэту. Гэтая працэдура напрамую звязана з выкананнем падаткаплацельшчыкамі сваіх абавязкаў. Каб падаткаплацельшчык іх выконваў, ён павінен рэнтабельна працаваць, вырабляць прадукцыю і паспяхова яе прадаваць. Для гэтага ў першую чаргу неабходна, каб прадпрыемства ўстойліва працавала. Калі ж яго калектыў будзе баставаць, мітусіцца, патрабаваць ва ўрада грошай, у гэтым выпадку правал непазбежны.

Вось чаму я перакананы, што абавязковай умовай эканамічнага прагрэсу з'яўляецца палітычная стабільнасць. Толькі ў гэтым выпадку зняцце вастрыні жыллёвай праблемы да 2000 года цалкам рэальнае. На дасягненне гэтай мэты і працуюць сёння Прэзідэнт і ўрад рэспублікі.

# Нязваныя госці нашай краіны

***<u>ДАВЕДКА «ЗВЯЗДЫ»:</u> згодна з данымі Дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь, з 1990-га па 1995 год на тэрыторыю краіны іміграваралі 544 тысячы чалавек, эміграваралі з Беларусі 436 тысяч.***

Паводле інфармацыі Міністэрства ўнутраных спраў РБ, на тэрыторыі рэспублікі на сённяшні дзень знаходзіцца больш як 170 тысяч нелегальных імігрантаў.

Так ужо склалася, што з-за свайго геаграфічнага становішча, з-за параўнаўча стабільнай сацыяльна-палітычнай абстаноўкі і некаторых іншых фактараў наша рэспубліка стала месцам «паломніцтва» тысяч імігрантаў з далёкага і блізкага замежжа. Дзесяткі тысяч грамадзян былога СССР, тысячы асоб з Афганістана, Эфіопіі, Пакістана, Ірана, Самалі, Балівіі, Кітая, В'етнама і іншых краін пражываюць сёння ў Беларусі. Частка з іх хадайнічае аб прадастаўленні статуса бежанца, для іншых наша краіна стала перавалачным пунктам на шляху ў больш эканамічна развітыя заходнія краіны: Польшчу, Германію, Бельгію, Канаду... Розныя прычыны вымусілі гэтых людзей пакінуць сваю радзіму. Сярод асноўных і найбольш частых — вайна, эканамічны крызіс і, як вынік, — беспрацоўе, палітычныя і іншыя праследаванні. Многія сённяшнія эмігранты калісьці былі студэнтамі савецкіх ВНУ, а скончыўшы іх не пажадалі, а часцей не змаглі (з-за той жа вайны) вярнуцца ў свае краіны, напрыклад, афганцы. Не хочуць пакідаць Беларусь і каля тысячы в'етнамцаў, якія працавалі тут яшчэ па дагаворах з былым Саюзам. Карацей кажучы, насельніцтва Беларусі за кошт эмігрантаў павялічылася на 270—300 тысяч чалавек! Адразу ўстае пытанне — чым займаюцца ўсе гэтыя людзі ў нашай невялічкай рэспубліцы?

Прапаную спачатку разабрацца, чым могуць рэальна займацца імігранты ў Беларусі, якую работу яны могуць атрымаць (маецца на ўвазе законны бізнес) ад дзяржавы, ад прыватных прадпрымальнікаў. Як паведамілі ў Міністэрстве працы РБ, імігрант у нашай краіне можа ўладкавацца на работу ў дзяржаўныя структуры: а) у выпадку атрымання грамадзянства Рэспублікі Беларусь і прапіскі; б) у выпадку атрымання ім статусу бежанца (дарэчы, на тэрыторыі нашай краіны такога статусу не атрымаў яшчэ ніхто!); в) калі канкрэтнае прадпрыемства, якому неабходны пэўны спецыяліст, дакажа яго незаменнасць і адсутнасць падобных кадраў у Беларусі. Атрымліваецца, што рэальна атрымаць работу ў Беларусі з імігрантаў могуць толькі грамадзяне Расіі, згодна з рашэннем Вышэйшага Савета Супольніцтва гэтых дзвюх краін. Прыватныя фірмы і прадпрыемствы ставяцца да імігрантаў больш ліберальна: для іх галоўны крытэрый падчас прыняцця чалавека на працу — яго прафесіянальная адпаведнасць. Аднак і тут знайсці свабоднае месца сёння ой як нялёгка. Дык чым жа зарабляюць сабе на пражыццё ўсе гэтыя амаль 300 тысяч «гасцей» рэспублікі?

Кожны, хто хоць аднойчы наведаў сталічную Камароўку, павінен быў звярнуць увагу на тутэйшых гандляроў. Справа ў тым, што большая палова з іх яўна не беларусы. Сустрэнеце тут і азербайджанцаў, і малдаван, і афганцаў, і афрыканцаў, і арабаў, і ўкраінцаў, і шмат яшчэ каго. Не зусім такая, аднак вельмі падобная сітуацыя і на многіх іншых рынках не толькі сталіцы, але і рэспублікі. Некаторыя з нашых «гасцей» маюць нават уласныя фірмы, часцей гандлёвыя і не вельмі буйныя.

Сярод гандляроў на Камароўскім рынку ёсць і ў мяне некалькі знаёмцаў — афганцаў. Жывуць у Беларусі хто 6, а хто і 8 гадоў, атрымалі тут вышэйшую адукацыю, некаторыя стварылі ўласныя сем'і. Гандлююць у асноўным прадуктамі харчавання: цукрам, рысам, пячэннем, цукеркамі, кавай, шакаладам... Заробак невялікі, аднак, кажуць, на хлеб з маслам хапае. Па іх словах, некаторыя іх землякі — буйныя бізнесмены, па іх мерках, маюць уласныя кватэры, дарагія аўтамабілі і добрыя грошы. Але ёсць і такія, хто ў пошуку заробку ледзь перабіваецца з хлеба на ваду. На якой падставе знаходзяцца ў Беларусі? Падалі прашэнне Прэзідэнту аб прадастаўленні прыстанішча. Статус бежанцаў не атрымалі, аднак рэгістрацыю ім прадоўжылі і ВНУ, дзе яны вучыліся, далі ім пакоі ў інтэрнатах. Сувязі з радзімай практычна няма — вайна поўнасцю змяніла лад жыцця іх краіны. Многія нават не ведаюць лёсу сваіх сем'яў, не ведаюць, ці жывыя іх бацькі, родныя. Зноў-такі ў знаёмых кітайцаў даведаўся, што кожны з той тысячы в'етнамцаў, якіх у Беларусі нідзе не відаць, мае сама меней 10 тысяч долараў капіталу. Круцяцца і каўказцы, і афра-азіяты... Аднак нядобра лічыць чужыя грошы, таму адразу зробім выснову: добра жывецца ў нашай рэспубліцы тым імігрантам, якія маюць работу. Іншым жа прыходзіцца даволі цяжка. Ускладняецца жыццё імігрантаў на Беларусі не толькі матэрыяльнымі цяжкасцямі, але і рэгулярнымі складанасцямі з праваахоўнымі органамі. Справа не ў тым, што яны парушаюць закон, а ў тым, што іх знешнасць адразу выклікае падазрэнне і жаданне праверыць дакументы. Звычайна з імі ўсё ў парадку, аднак высвятляецца гэта часта пасля некалькіх гадзін, праведзеных у аддзяленні. Ды і не вельмі там з імі цырымоняцца...

А тым часам у беларускіх ВНУ працягваюць вучобу студэнты-замежнікі. З таго ж Афганістана, Пакістана, Індыі, Кітая, Нігерыі... Што чакае іх у будучым: такое жаданае вяртанне на радзіму або горкі лёс імігрантаў?

**Сяргей ПРОТАС.**

Аляксандр СЫЧОЎ:

# «Выбранне прадстаўніка Беларусі на высокую пасаду — прызнанне ўкладу нашай краіны ў справу міжнароднай бяспекі і раззбраення»

***Апошнім часам спрэчкі, а дакладней, вострая барацьба паміж групамі краін вакол кандыдатуры на пасаду генеральнага сакратара ААН на новы тэрмін, нярэдка жорсткая крытыка арганізацыі за неэфектыўнае вырашэнне глабальных праблем, зноў прыцягвае да яе павышаную ўвагу сусветнай грамадскасці. У гэты драматычны і пераломны для буйнейшай міжнароднай арганізацыі час на адну з ключавых пасад ААН — кіраўніка Першага камітэта — выбраны прадстаўнік Беларусі Аляксандр Сычоў. Нагадаем, што адным з галоўных падраздзяленняў Генаральнай Асамблеі з'яўляюцца Камітэт па пытаннях раззбраення і міжнароднай бяспекі, Першы камітэт.***

**— Аляксандр Мікалаевіч, віншуем Вас з выбраннем старшынёй Першага камітэта і жадаем поспехаў на гэтай адказнай пасадзе. У нас увогуле мала ведаюць пра ўнутраную працу ААН, яе структуру, тым больш пра дзейнасць асобных падраздзяленняў гэтай міжнароднай арганізацыі. Таму спачатку раскажыце пра саму працэдуру выбрання старшыні камітэта (тайнае ці адкрытае галасаванне), пра Вашых супернікаў: колькі іх было і хто яны, пра вынікі галасавання і пазіцыю канкрэтных краін ці груп краін па Вашай кандыдатуры.**

— Сама працэдура выбрання службовых асоб Генеральнай Асамблеі ААН прадугледжвае тайнае галасаванне. Кожны галоўны камітэт выбірае свайго старшыню на аснове справядлівага геаграфічнага прадстаўніцтва, а таксама вопыту і кампетэнтнасці кандыдатаў. Іх выбары, як я адзначыў, праводзяцца тайным галасаваннем, калі камітэт не прыме іншага рашэння ў выпадку вылучэння толькі адной кандыдатуры.

Мая кандыдатура была вылучана ад імя дзяржаў усходнееўрапейскай рэгіянальнай групы. Яна была прадстаўлена на разгляд заходнееўрапейскай, лацінаамерыканскай, азіяцкай і афрыканскай рэгіянальных груп і атрымала іх падтрымку і адабрэнне. Альтэрнатыўныя кандыдатуры не вылучаліся. І паколькі я быў адзіным кандыдатам, то камітэт выбраў мяне шляхам адкрытага галасавання. Лічу, што выбранне прадстаўніка Беларусі на высокую пасаду — гэта не толькі даніна традыцыі або форма ветлівасці. Гэта ацэнка ўкладу нашай краіны ў справу міжнароднай бяспекі і раззбраення, той ролі і аўтарытэту Беларусі сярод дзяржаў—членаў ААН.

**— Якая роля і месца Першага камітэта ў сістэме ААН? Некалькі слоў пра яго мэты і прыярытэты, спосабы і метады іх рэалізацыі.**

— Першы камітэт Генеральнай Асамблеі, у састаў якога ўваходзяць усе дзяржавы-члены, займаецца толькі пытаннямі раззбраення і звязанымі з імі пытаннямі міжнароднай бяспекі. Як вядома, пачынаючы з 1945 года, ААН з'яўляецца цэнтрам каардынацыі намаганняў міжнароднага супольніцтва ў гэтай сферы.

**— Можа, не зусім карэктна ставіць наступнае пытанне, але ўсё ж спытаю: у якой ступені знаходжанне прадстаўніка Беларусі на чале камітэта можа паўплываць на вырашэнне пытанняў, у якіх зацікаўлена наша дзяржава?**

— Не ведаю, ці цалкам задаволіць Вас мой адказ. Функцыі старшыні камітэта рэгламентуюцца правіламі працэдуры Генеральнай Асамблеі. Пералік правоў і абавязкаў даволі вялікі і ўключае вядзенне пасяджэнняў, кіраўніцтва спрэчкамі і правядзенне галасавання, прыняцце рашэнняў і г. д. У той жа час старшыня не мае права ўдзельнічаць у галасаванні і пры выкананні сваіх абавязкаў падпарадкоўваецца камітэту. Аднак старшыня ўваходзіць у састаў Генеральнага камітэта Генасамблеі, знаходзіцца ў пастаянным кантакце і дыялогу са старшынёй Генасамблеі, дэлегацыямі дзяржаў-членаў, арганізуе кансультацыі па ўсяму спектру праблем, уключаных у парадак дня Першага камітэта. Можна сказаць, што работа старшыні стварае аснову для цеснага супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння з іншымі дэлегацыямі па розных кірунках і спрыяе ўмацаванню аўтарытэту Беларусі на міжнароднай арэне.

**— Зразумела, выбранне Вас кіраўніком камітэта — гэта і гонар для маладой самастойнай беларускай дыпламатыі, і своеасаблівае прызнанне яе аўтарытэту. Але ці не цяжка Вам будзе сядзець на двух крэслах? Інакш кажучы, ці не адаб'ецца негатыўна новая пасада на якасці выканання Вамі абавязкаў пастаяннага прадстаўніка Беларусі? А можа Вы пяройдзеце на работу ў штат ААН?**

— У адным з інтэрв'ю вашай газеце я гаварыў аб асаблівасцях шматбаковай дыпламатыі і работы прадстаўніцтва пры ААН. Гэтыя асаблівасці выкліканы бесперапыннай дзейнасцю ААН і прадугледжваюць удзел у розных па праблематыцы міжнародных канферэнцыях, пасяджэннях спецыялізаваных органаў, камітэтаў і падкамітэтаў, камісій і падкамісій, рабочых груп.

ААН мае яшчэ і тую спецыфіку, што тут асноўная і найбольш важная частка работы вядзецца з дэлегацыямі іншых краін. А ў цяперашні час членамі ААН з'яўляюцца 185 дзяржаў. У двухбаковых адносінах кантакты з дыпламатычным корпусам з'яўляюцца важным элементам дзейнасці нашага прадстаўніцтва.

Вядома, выбранне на пасаду старшыні Першага камітэта патрабуе шмат часу, дадатковых затрат фізічнай і нервовай энергіі. Але ў сваёй рабоце я абапіраюся на калектыў прадстаўніцтва. У ім працуюць добра падрыхтаваныя дыпламаты. Яны прайшлі школу ў цэнтральным апараце МЗС, удзельнічалі ў сесіях Генасамблеі, іншых органаў сістэмы ААН і здольныя весці самастойныя накірункі работы.

Безумоўна, выкананню маіх абавязкаў спрыяе падтрымка з боку кіраўніцтва і супрацоўнікаў МЗС Беларусі. Функцыі старшыні камітэта павінен выконваць да канца бягучай сесіі, г. зн. прыкладна да сярэдзіны верасня наступнага года. Пасада гэтая выбарная і не ўваходзіць у штатны расклад Сакратарыята ААН. Таму аб пераходзе на работу ў штат ААН размовы няма.

**— Апошнім часам стала зусім відавочна, што наспеў час неадкладнага рэфарміравання ААН. І бягучая 51-я чарговая сесія Генеральнай Асамблеі заклікана сур'ёзна заняцца гэтай справай. Што ўяўляе сабой план рэфарміравання ААН і што ўжо канкрэтна зроблена? Якая пазіцыя Беларусі па гэтай праблеме?**

— ААН, якая імкнецца своечасова адказваць на новыя павевы часу, распачала ажыццяўленне праграмы карэнных рэформаў. Мэта іх зрабіць арганізацыю магутным інструментам міру і развіцця, якой і ўяўлялі яе заснавальнікі больш чым паўстагоддзя таму.

У гэтым кантэксце генеральны сакратар ААН прапанаваў новую канцэпцыю дзейнасці рэалізацыя якой дазволіць ААН хутка і эфектыўна рэагаваць на пагрозы міжнароднаму міру і бяспецы.

Для разгляду гэтага комплексу пытанняў, якія з'яўляюцца цэнтральнай дыскусійнай тэмай, створаны спецыяльныя рабочыя групы адкрытага саставу. Паспяховая дзейнасць гэтых груп шмат у чым вызначыць сучаснае і будучыню арганізацыі.

Рэспубліка Беларусь зыходзіць з таго, што ААН — унікальны інструмент шматбаковай дыпламатыі — павінна заставацца цэнтральным элементам новай сістэмы міжнародных адносінаў.

**— Над чым сёння працуе прадстаўніцтва Беларусі пры ААН?**

— Складана расказаць у кароткім інтэрв'ю аб усіх задачах і сферах дзейнасці прадстаўніцтва Беларусі. Гэтая работа шматгранная, і яе можна ахарактэрызаваць як абарону нацыяльных інтарэсаў у ААН і выкарыстанне патэнцыялу і магчымасцей арганізацыі для вырашэння праблем цяперашняга этапа развіцця нашай краіны.

Сярод прыярытэтных накірункаў хацелася б адзначыць работу па прасоўванню ініцыятывы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі па стварэнню прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, далейшае замацаванне праблематыкі краіны з пераходнай эканомікай у праграмнай дзейнасці розных органаў сістэмы ААН і аказання ім садзейнічання ў сацыяльна-эканамічным развіцці.

Хачу адначыць, што прадстаўніцтва здолела дамагчыся прыняцця рашэнняў аб павелічэнні памераў дапамогі Беларусі па лініі ПРААН на 1997—1999 гады. Аб'ём сродкаў павялічыцца ў 2 разы і складзе 600 тыс. долараў ЗША ў год.

Ва ўмовах крытычнай фінансавай сітуацыі, якая склалася ў ААН, адмысловую важнасць набывае вырашэнне пытанняў, звязаных з прывядзеннем стаўкі ўзносаў Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН у адпаведнасць з прынцыпам плацежаздольнасці, пагашэннем запазычанасці і захаваннем права голасу ў Генасамблеі.

Задача гэта складаная, і вырашаць яе няпроста. Як Вы ведаеце, у 1992 годзе ўзнос Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН быў павялічаны амаль у паўтара раза, і ў далейшым гэта лічба склала дзесяткі мільёнаў долараў ЗША. Толькі ў снежні 1994 і верасні 1995 года ў выніку шматлікіх і настойлівых намаганняў з боку прадстаўніцтва Беларусі пры ААН і Міністэрства замежных спраў Генеральнай Асамблеяй былі прыняты рашэнні аб істотным паніжэнні ўзносу Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН і на фінансаванне аперацый па падтрыманню міру адпаведна. І хаця гэтыя рашэнні даюць рэальную эканомію для Беларусі на працягу 1995—1997 гадоў каля 35 мільёнаў долараў ЗША, запазычанасць Рэспублікі перад ААН вялікая, і над Беларуссю вісіць пагроза страты голасу ў Генасамблеі.

Вядома, у якасці найважнейшага накірунку мы разглядаем работу па пераадоленню наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і прыняццю новай праграмы дзеянняў.

Калі Вы не супраць, то пасля заканчэння работы асноўнай часткі сесіі ў гэтым годзе я мог бы расказаць шаноўным чытачам «Звязды» аб некаторых выніках дзейнасці дэлегацыі Беларусі на 51-й сесіі Генасамблеі ААН.

**— Дзякуй за жаданне супрацоўнічаць з нашай газетай. Мы з задавальненнем выкарыстаем гэту магчымасць.**

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# «Дойчэ Мессэ АГ» будзе працягваць супрацоўніцтва з Беларуссю

**Учора адбылася ўжо традыцыйная сустрэча высокапастаўленых служачых сусветна вядомай выставачнай кампаніі «Дойчэ Мессэ АГ» з нямецкага горада Гановера — Міхаэля Боермана, шэфа маркетынгу, генеральнага ўпаўнаважанага фірмы, яе прадстаўніка ў краінах СНД Ірыны Вайсхаар і кіраўніка прэс-службы кампаніі Монікb Брант з беларускімі журналістамі.**

У нас гэта фірма ў першую чаргу вядомая тым, што ў красавіку гэтага года на яе плошчах былі праведзены Дні эканомікі Беларусі ў Германіі, у якіх удзельнічала прадстаўнічая дэлегацыя дзелавых колаў на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

Па словах нямецкіх гасцей, гэтыя Дні эканомікі з'явіліся сапраўдным прарывам Беларусі на заходнееўрапейскі рынак, дзе пра нашу краіну, яе магчымасці, на жаль, пакуль вельмі мала ведаюць. Напрыклад, тады колькасць публікацый у прэсе аб Беларусі пераўзышла ўсе межы чакаемага асвятлення ўдзелу асобнай краіны ў выстаўцы. І калі раней Беларусь блыталі з Расіяй, то цяпер гэтага не назіраецца.

Але з таго часу, як кажуць, шмат вады сплыло. Сёння палітычная сітуацыя ў Беларусі зусім не тая, што была ў красавіку. І як паказаў саміт у Лісабоне, заходнія краіны, мякка кажучы, неаднаначна аднесліся да вынікаў нашага рэферэндуму. У беларускіх незалежных і многіх заходніх СМІ з'явіліся прагнозы аб хуткай палітычнай і эканамічнай ізаляцыі Беларусі з боку вядучых краін Еўропы.

У сувязі з гэтым пытанне карэспандэнта «Звязды» было наступным: ці не мяркуе фірма аб'явіць байкот Беларусі?

Адказ, калі коратка яго сфармуляваць, быў у нейкай ступені дыпламатычным, хаця немцы не спрабавалі ўхіліцца ад шчырай размовы. На іх думку, візіт у Гановер кожнага лідэра кожнай дзяржавы — гэта ў першую чаргу вялікая рэклама, у дадзеным выпадку для Беларусі. Што датычыць Лукашэнкі, яго візіт быў шырока асветлены па ўсіх каналах нямецкага тэлебачання.

А па-другое, можна зрабіць выснову, бізнес ёсць бізнес. Нягледзячы на палітычныя пераўтварэнні ў Беларусі «Дойчэ Мессэ АГ» імкнецца ісці ўперадзе палітыкі. А таму ў Ганаверы нярэдка выстаўляліся краіны, якія не мелі дыпламатычных адносінаў з ФРГ.

І на погляд прадстаўнікоў фірмы, праз гандлёва-эканамічныя адносіны нярэдка мяняліся адносіны да той ці іншай краіны. Што датычыць Прэзідэнта Лукашэнкі, яго палітыкі, то ні аб якім байкоце не можна весці размовы. Фірма не працуе ні на якую-небудзь партыю, рух. Палітыка — гэта не прынцыпова для «Дойчэ Мессэ АГ». Яна дзейнічае на карысць прамыслоўцаў свету. За свае 50 гадоў гісторыі фірма працавала з рознымі палітычнымі дзеячамі ў розных палітычных абставінах, але была верная адной ідэі — садзейнічаць развіццю прагрэсу і ўзаемавыгаднага гандлю.

Як паведаміла Ірына Вайсхаар, у наступным годзе «Дойчэ Мессэ АГ» будзе ўрачыста святкаваць 50-годдзе Гановерскага кірмашу. На ўрачыстасці мяркуецца запрасіць беларускую дэлегацыю на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

ПОГЛЯД

# Халодны вецер з Захаду штурхае нас у абдымкі Расіі

**Апошнім часам Беларусь рэальна сутыкнулася з многімі праявамі міжнароднай ізаляцыі. І замоўчваць або ігнараваць гэту праблему нельга, паколькі яна самым непасрэдным чынам здольна ўплываць на будучыню Беларусі як незалежнай дзяржавы і на далейшы стан нашай эканомікі.**

У многіх было спадзяванне: Захад «праглыне» непаслушэнства беларускага лідэра, які наважыўся ўмацаваць сваю ўладу спрэчным (з пункту гледжання дэмакратычных еўрапейскіх традыцый) спосабам, праігнараваўшы волю парламента і рашэнне Канстытуцыйнага суда. Разлік быў на тое, што гучная перамога і унушальныя лічбы народнай падтрымкі «спішуць» усе грахі. Даравала ж Еўропа Барысу Ельцыну 1993 год, хаця тады са сваім Вярхоўным Саветам расійскі прэзідэнт абышоўся куды больш крута.

Аднак на гэты раз глядзець праз пальцы на ігнараванне сваіх прынцыпаў еўрапейская супольнасць не пажадала. Гэтага і варта было чакаць: Беларусь сёння не можа разлічваць на ролю ўплывовай магутнай дзяржавы, якая здольна камусьці на кантыненце дыктаваць свае ўмовы. А вось паслужыць прыкладам таго, да чаго можа прывесці парушэнне агульнапрынятых у Еўропе нормаў — можа.

І гэты наглядны і суровы ўрок для нашай дзяржавы пачаўся. Беларускае кіраўніцтва, відаць, адчула гэта ў Лісабоне, падчас чарговага саміта АБСЕ.

Гэтае асуджэнне палітыкі беларускіх уладаў і, як вынік, перспектыва згортвання і без таго не дужа актыўных эканамічных адносінаў здольны прывесці не толькі да тых вынікаў, на якія разлічвае Захад. Халодны заходні вецер яшчэ больш штурхае Беларусь у абдымкі Расіі.

Вельмі можа здарыцца, што наступны год стане апошнім годам незалежнага існавання Беларусі. Гэтая сумная перспектыва яшчэ тры гады таму выглядала неверагоднай. Сёння пра яе даводзіцца гаварыць як пра найбольш рэальны далейшы шлях нашага народа, які, здаецца, сапраўды не дарос да ўласнай дзяржаўнасці.

Кола перадумоў для ўваходжання Беларусі ў састаў Расійскай Федэрацыі пасля лістападаўскага рэферэндуму значна пашырылася.

Адначасова стыль і метады, якімі ўмацоўвалася ўлада ў дзяржаве і адольваліся палітычныя апаненты, фактычна паставілі крыж на спробах Беларусі праводзіць шматвектарную знешнюю палітыку. Мяркуючы па рэакцыі еўрапейскіх дзяржаў на апошнія падзеі ў нашай краіне, пасля 24 лістапада за Беларуссю надоўга замацуецца імідж спецыфічнай мясціны, з якой эканамічныя, фінансавыя, палітычныя і культурныя дачыненні калі і будуць развівацца, то толькі на своеасаблівай аснове, адрознай ад прынцыпаў, якімі кіруюцца ў сваіх узаемаадносінах астатнія краіны старога кантынента.

Зразумела, Захад не жадае рэстаўрацыі на постсавецкай прасторы адзінай дзяржавы, якая б зноў склала канкурэнцыю Злучаным Штатам. Але ключавой ролі ў гэтай рэстаўрацыі Беларусь не адыгрывала і наўрад ці зможа адыграць, — нават калі ўвойдзе ў састаў РФ на правах суб'екта Федэрацыі. Далучыўшы Беларусь з яе паўразбуранай эканомікай і больш чым сціплымі рэсурсамі, Расія зусім не верне колішнія пазіцыі Савецкага Саюза.

Ключ да новай супердзяржавы — Украіна ці Казахстан з іх амаль 70-мільённым насельніцтвам, вялізнымі запасамі прыродных рэсурсаў і адпаведнымі тэрыторыямі. Але Кіеў і Алма-Ата — на другім баку еўрапейскай барыкады. І за іх Захад сапраўды будзе сур'ёзна змагацца.

А Беларусь... Яе і тут могуць выкарыстаць як адмоўны прыклад. За пяць гадоў незалежнасці ў былых рэспубліках СССР склаліся новыя палітычныя эліты, што вырашаюць задачы іншага, чым раней, маштабу, прывыклі да новых стандартаў і маюць іншыя амбіцыі. Палітычных дзеячаў, якія прывыклі да трыбуны ААН, персанальных самалётаў, аўдыенцый з лідэрамі еўрапейскіх дзяржаў, перспектыва ператварыцца ў радавога губернатара, які змагаецца за ўраджайнасць і своечасовую выплату зарплаты, не проста спалохае. За свае новыя прывілеі, асабліва перад рэальнай пагрозай страціць іх, гэтыя палітыкі будуць змагацца ўсімі магчымымі спосабамі. У гэтым сэнсе, нават ахвяраваўшы сваёй незалежнасцю, Беларусь зусім не пракладзе шлях іншым, а хутчэй наадварот — прадэманструе яго згубнасць і для палітычных эліт, і для народаў, якія імкнуцца не растварыцца ў іншых нацыях, а захаваць сваё адметнае і годнае месца ў свеце.

**Валянцін ЖДАНКО.**



## ІЛЬГОТЫ НА ПРАЕЗД: ШТО ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ КОЖНЫ ШКОЛЬНІК

***Добры дзень, «Звязда»! Я заўсёды чытаю вашу газету, яна мне вельмі падабаецца. Магчыма, вы дапаможаце мне знайсці адказ на ўзнікшае пытанне: якія цяпер існуюць ільготы для школьнікаў на міжгароднім і прыгарадным аўтамабільным транспарце, а таксама на чыгуначным? І што рабіць, калі ў некаторых населеных пунктах гэтыя ільготы не захоўваюцца?***

**З павагай чытачка Алена С., п. Дружны Пухавіцкага раёна.**

Як паведамілі рэдакцыі ва ўпраўленні аўтамабільных перавозак Міністэрства транспарту і камунікацый, існуюць наступныя льготы для школьнікаў: па-першае, на міжгароднія ўнутрырэспубліканскія перавозкі ў перыяд з 1 снежня па 28(29) лютага, калі дзейнічае 50-працэнтная скідка на білеты. Па-другое, усе дзеці да дзесяцігадовага ўзросту маюць права на тую ж 50-працэнтную скідку, а дзеці да 5 гадоў увогуле могуць ездзіць бясплатна, праўда, не маючы пры гэтым права займаць асобнае месца (скажам, на руках у бацькоў). Калі ж бацькі захочуць, каб іх сын ці дачка сядзелі «як дарослыя», ім прыйдзецца набываць білет за палову яго кошту, як і для дзяцей ва ўзросце да 10 гадоў. Што датычыцца прыгараднага аўтатранспарту, тут таксама на працягу ўсяго года для школьнікаў дзейнічае 50-працэнтная скідка. Зразумела, як для разавых білетаў, так і для праязных. Як паведамілі далей у аддзеле развіцця пасажырскіх перавозак Беларускай чыгункі, пры праездзе ў цягніках мясцовых зносінаў школьнікі ў перыяд з 1 кастрычніка па 15 мая павінны аплачваць толькі палову кошту білета. З 1 лістапада гэтага года дадалася і новая ільгота: цяпер у прыгарадных цягніках школьнікі маюць права ездзіць з 50-працэнтнай скідкай (на адлегласць да 150 км) на працягу ўсяго года. Што датычыцца выканання на месцах гэтых патрабаванняў, Алена, дык там іх павінны абавязкова ведаць.



## ЖАДАЮЧЫМ ВЫКУПІЦЬ ЗЯМЛЮ ТРЭБА СПЯШАЦЦА

***Я пенсіянерка. Раней працавала ў саўгасе. Маю прысядзібны ўчастак 50 сотак. Хачу яго прыватызаваць, каб потым дзецям перадаць, якія ў горадзе жывуць. Куды мне трэба звярнуцца і якія дакументы прадставіць?***

**Давыдава Паліна Яфімаўна, в. Балашы, Віцебскі раён.**

Старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах Рэспублікі Беларусь Георгій Кузняцоў патлумачыў, што зямлёй распараджаюцца не калгасы і саўгасы, а сельскія Саветы. Таму звяртацца вам, паважаная Паліна Яфімаўна, трэба ў Суражскі сельсавет. Ад вас патрабуецца заява з просьбай аб прадастаўленні ва ўласнасць зямлі. Сельсавет павінен разгледзець заяву на працягу месяца. Вам выдадуць рашэнне, схематычны план участка, паведамяць, колькі каштуе надзел. Але паспяшайцеся: ільготныя цэны на зямлю дзейнічаюць толькі да 1 студзеня 1997 года. І яшчэ. Калі вашы дзеці не з'яўляюцца сельскімі жыхарамі, не прапісаныя ў вёсцы, то па закону яны маюць права на атрыманне ў спадчыну ўчастка толькі да 25 сотак. Астатнія землі павінен выкупіць сельскі Савет.



## ЦІ ПЕРААДОЛЕЕ КАМБАЙН ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКУЮ МЯЖУ?

***Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Звяртаюся да вас упершыню, хаця «Звязду» выпісваю даўно. Ёсць у мяне да вас пытанне. Жыву я ў вёсцы, працую ў калгасе. Брат мой жыве ў Польшчы і хоча мне прывезці збожжаўборачны камбайн. Ці можна гэта зрабіць і ці дорага гэта будзе каштаваць? У сэнсе афармлення і растаможвання.***

**З павагай Лявон Казакевіч, в. Адамова Валожынскі раён.**

З вашым лістом, шаноўны Лявон Іванавіч, мы звярнуліся ў Дзяржаўны мытны камітэт — спачатку ва ўпраўленне тарыфнага рэгулявання, потым ва ўпраўленне арганізацыі мытнага кантролю. Але адказ ва ўсіх выпадках быў аднолькавы: павінен быць асабіста ваш пісьмовы зварот на імя старшыні камітэта Пятра Васільевіча Крэчкі. У ім вы павінны падрабязна выкласці сутнасць вашай справы, а далей — чакаць адказу, які вам павінны даць на працягу 30 дзён. Зразумела, даўгавата, але такі ўжо парадак, і іншым шляхам вы наўрад ці зможаце даведацца пра неабходнае. Так што пішыце па адрасу: г. Мінск, вул. Камуністычная, 11, старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта.



## НОВЫ ПАШПАРТ: ПЫТАННЯЎ МЕНШ НЕ СТАНОВІЦЦА

***Паважаны «Пытальнік»! Падкажы, калі пачнуць выдаваць новыя пашпарты замест тых даведак, з якімі мы зараз жывём? Колькі будзе каштаваць новы пашпарт? Якую фатаграфію трэба для яго рыхтаваць: чорна-белую або каляровую?***

**В. Цыганкоў, Петрыкаўскі р-н.**

Як паведаміў прэс-цэнтр МУС, тэрмін пачатку выдачы пашпартоў быў прызначаны на апошнія дні лістапада — пачатак снежня.

Калі зараз вы карыстаецеся даведкай формы № 9, то ўваходзіце ў катэгорыю грамадзян, якія маюць першачарговае права на атрыманне пашпарта новага ўзору

. За набыццё дакумента вы заплаціце абавязковую дзяржаўную пошліну ў памеры 30 працэнтаў ад мінімальнага заробку

. А за афармленне пашпарта для выезду за мяжу прыйдзецца заплаціць яшчэ 5 мінімальных заробкаў. Менавіта столькі каштуе штамп для шматразовага наведвання ўсіх краін свету, які дзейнічае на працягу 5 гадоў.

Для новага пашпарта будзе годная як каляровая, так і чорна-белая фатаграфія, але, зазначым, што апошняя ва ўсім свеце ўжо даўно лічыцца анахранізмам.

**Выпуск «Пытальніка» падрыхтавалі Жанна Катлярова, Надзея Нікалаева, Сяргей Расолька.**

*Ірына АСТРОЎСКАЯ:*

# «Беларусі філатэлістычная дыпламатыя была б толькі на карысць...»

***Адна з характарыстык, сапраўдных адзнак дзяржаўнага суверэнітэту той ці іншай краіны — работа яе пошты, выпуск уласных знакаў паштовай аплаты. Ці адолела Беларусь гэтую прыступку? Пра гэта і пойдзе размова нашага карэспандэнта з дырэктарам выдавецкага цэнтра «Марка» аб'яднання «Белпошта» Ірынай Віктараўнай АСТРОЎСКАЙ.***

**— Магчыма, на пачатку нашай размовы некалькі слоў пра сам выдавецкі цэнтр, пра тое, якія задачы ўскладзены на яго?**

— Уваходзім мы ў рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта». Што ж датычыцца задач, накірункаў, то яны наступныя. Першае — распаўсюджванне перыёдыкі на тэрыторыі Беларусі, між іншым, як айчынных, так і замежных газет і часопісаў. Ужо зараз у нашу краіну ідзе перыёдыка з Латвіі, Літвы, Украіны, безумоўна, з Расіі. Другі наш клопат — выданне знакаў паштовай аплаты, да якіх адносяцца маркі, канверты, паштоўкі, паштовыя блокі. І трэці накірунак, які толькі нараджаецца, — гандаль філатэлістычнай прадукцыяй, а таксама продаж праз паштовыя прадпрыемствы перыёдыкі ў розніцу. Словам, ідзе свайго роду адраджэнне функцый, якія належалі раней «Саюздруку». Вы ж паглядзіце, што сталася за апошнія гады са знаёмымі нам газетна-часопіснымі кіёскамі.

**— Хіба што газет паболела...**

— Але не толькі газет. Паліцы невялікага памеру закладзены рознымі гатункамі мыла, зубной пасты, адэкалону і г. д. Тое ж самае робіцца і ў паштовых аддзяленнях.

— Прабачце, але тут ужо я спяшаюся выступіць у абарону паштовых работнікаў...

— Дык і я ж не вораг сваім калегам. Вось толькі ці не наспеў час задацца пытаннем: а хто ж тады будзе прапагандаваць філатэлістычную прадукцыю, прапагандаваць і распаўсюджваць перыёдыку? Няўжо гэтым будзе займацца прадуктовая крама? Ці той жа супермаркет... У лепшым выпадку вы знойдзеце там газету «Гастроном».

І пакуль у нас не парушана цэласная структура сувязі цэнтра з месцамі — з абласцямі, раёнамі, вёскамі. А сённяшні час паказвае, што падпісвацца не ўсе ў стане. Час ад часу купіць тое ці іншае выданне могуць многія. Дык чаму не дапамагчы людзям, папярэдне вывучыўшы попыт? Тым больш, што нават у самыя глыбінныя паштовыя аддзяленні даходзяць машыны. Значыць, як быццам за адным ходам, дадаткова яны могуць дастаўляць і перыёдыку для рознічнага гандлю.

**— У якім стане зараз знаходзіцца гандаль філатэлістычнай прадукцыяй?**

— Раней існавала некалькі буйных філатэлістычных магазінаў. Зараз — толькі адзін, у Мінску. І з-за таго, што былі разарваны сувязі, філатэлістам стала проста немагчыма набываць чужаземную паштовую прадукцыю. Зараз імкнёмся адрадзіць мэтанакіраванае абслугоўванне філатэлістаў. Наладзілі, у прыватнасці, абанементнае абслугоўванне маркамі. Калекцыянер, падпісаўшыся на пэўную марку, можа быць упэўнены, што абавязкова яе атрымае.

**— Размова пра маркі ўсяго свету?**




— Не, пакуль што толькі Беларусі. І ў нас заключаны дагавор з Расіяй. Спрабуем заключыць дагавор з Украінай. Будзем спрабаваць выходзіць на арганізацыі, якія займаюцца гандлем марак у Арменіі, Казахстане. Магчыма, як набяром сілу, выйдзем і на далёкае замежжа.

**— А не падаецца вам, што занадта ўжо камернымі і несур'ёзнымі ўвогуле для насельніцтва з'яўляюцца вашы філатэлістычныя клопаты?**

— Ведаеце, для мяне, як для чалавека, занятага менавіта такой справай, пытанне ваша можа нават абразай падацца...

**— У такім разе — прабачце.**

— Я лічу, што справай мы займаемся патрэбнай. Філатэлісты — людзі інтэлігентныя... Так, маркі збіраюць інтэлігенты. А гэта — шанц на прадстаўленне нашай краіны праз паштовую марку. Філатэлія, калі хочаце, — гэта ідэалогія, знешнепалітычная ці частка знешнепалітычнай дзейнасці краіны.

**— Ірына Віктараўна, і ўсё ж пра рыначны характар філатэліі... Сёння ўсе мы прывучаны лічыць грошы. І не ў апошнюю чаргу — дзяржаўныя. Наколькі вывучаны філатэлістычны рынак краіны?**

— Яшчэ як след не вывучаны. Мы ж робім першыя крокі. Раней усе маркі друкаваліся ў Маскве. Яна за нас працавала і па іх распаўсюджванню. Ужо і з суверэнітэтам, да 1993 года, беларускія маркі друкаваліся таксама ў Маскве. На сваёй паліграфічнай базе пачалі працаваць з 1994 года. Ніхто ніякіх рэкамендацый, парад нам не даваў. Веласіпед пачалі выдумляць самі. Да канчатковага выніку даходзілі самі. На жаль, — метадам спроб і памылак. Кажуць, што разумныя вучацца на памылках іншых. Мы ж — на сваіх... Працягваем і зараз вучыцца. Праўда, калі з друкам зараз сітуацыя складваецца больш-менш, то ў плане распаўсюджвання яшчэ бачым перад сабою тысячы няпройдзеных дарог. Спрабуем прапагандаваць і рэкламаваць свае каталогі. Але гэта нам не прыносіла поспеху, пакуль не зразумелі, што з кожнай краінай трэба працаваць асобна. І не праз пасрэдніка, не праз сусветныя філатэлістычныя карпарацыі, не праз Маскву... Навошта некаму даваць шанц за наш кошт зарабляць грошы?




Ды яшчэ пры ўмове, што мы ад гэтага нічога мець не будзем... Самастойная работа па выхаду ў сусветны філатэлістычны гандаль пачалася недзе напрыканцы 1995 года. І на сённяшні дзень у нас падпісаны прамыя дамовы з фірмай «Кодфіл», якая распаўсюджвае маркі на тэрыторыі Расіі, за выключэннем Санкт-Пецярбурга і блізкіх да яго тэрыторый. Што ж датычыць «паўночнай сталіцы», то там мы працуем са «Стандарт-карэкцыяй». Працуем ужо і з адной амерыканскай фірмай. Адправілі свае каталогі і першы заказ. Абмяняліся факсамі і чакаем падпісання пагаднення з краінамі Бенілюкса.

**— Значыць, ёсць спадзяванне, што праз паштовую марку Беларусь адкрыюць у свеце?**

— Безумоўна, спадзяёмся. Нават перакананы ў гэтым. Зараз вось выходзім і на Англію. Адправілі туды свае каталогі паштовых марак. Нават калі едуць куды прадстаўнікі знаёмых нам фірмаў з дэлегацыямі — забяспечваем іх кляserамі з наборам беларускіх марак.

**— Усе нашы дыпламаты едуць з маркамі як з візітоўкамі...**

— Не, пакуль што не дыпламаты, а работнікі Міністэрства сувязі і інфарматыкі, а таксама прадстаўнікі тых фірмаў, з якімі мы супрацоўнічаем. Хацелася б, вядома ж, каб і дыпламаты, калі можна так сказаць, занялiся рэкламай беларускіх марак, а значыць — і Беларусі. Мяркую, што нашай краіне філатэлістычная дыпламатыя была б толькі на карысць.

**— Ірына Віктараўна, а ўсё ж, акрамя добрага іміджа, дзяржава можа нешта зарабіць на марках?**

— Як толькі пачалі маркі выпускаць у кожнай з краін СНД, з'явіліся «чаўночнікі-філатэлісты». Кажуць, на марках зараблялі няблага. Асабліва пры ўмове, калі двухбаковых сувязей у галіне філатэліі паміж большасцю краін не існавала. Мы зразумелі, што трэба самім браць ініцыятыву ў рукі. Цікавасць да нашых марак ёсць. Але трэба старацца прадстаўляць, рэкламаваць іх. Пра фірмы я ўжо казала... Пошук новых партнёраў залежыць і ад удзелу ў філатэлістычных выстаўках. Рыхтуемся ўжо да выстаўкі «Масква-97».

**— Мо хутка і ў Беларусі будзе філатэлістычная выстаўка?**

— Пакуль яшчэ не плануем. І ў гэтай справе патрэбен вопыт, пакуль будзем яго збіраць у суседзяў.

***...Колькасць беларускіх марак перавалiла на другую сотню. Першыя выпускі ўжо наўрад ці дзе можна набыць. Беларуская пошта адлічвае сваю філатэлістычную гісторыю. Якой яна будзе — залежыць ад грамадства, ад велізарнага атрада калекцыянераў, ад іх зацікаўленасці характарам беларускай філатэліі. Апошнія выпускі беларускай паштовай мініяцюры на сённяшніх рэпрадукцыях «Звязды».***

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*36,6°*

## КАБ НЕ ДУШЫЛА АСТМА

***Для прафілактыкі і лячэння гэтага захворвання народная медыцына рэкамендуе наступныя сродкі:***

- 1 ч. лыжку сухой здробненай травы чыстацелу і 1 ст. лыжку мёду заліць 0,5 л сухога белага вінаграднага віна, варыць у закрытай пасудзіне на слабым агні да таго часу, пакуль не застанецца 125 г вадкасці. Прымаць па 60 г 2 разы на дзень да яды. Курс лячэння праводзіць адзін раз у месяц на працягу вялікага адрэзку часу.
- 250 г молатай кавы заліць 0,5 кг мёду, старанна перамяшаць да аднароднага стану. Прымаць па 1 ч. л. за 30 хвілін да яды. Прыгатаваная сумесь разлічана на 20 дзён лячэння. Пры неабходнасці лячэнне паўтараць праз месяц.
- Змяшаць 0,5 кг мёду, 100 г свежага масла, па 70 г кашкі часнаку і хрэну. Прымаць па 1 ст. лыжцы за 1 гадзіну да яды на працягу 2 месяцаў.
- У пасудзіну з шырокім рыльцам нарэзаць 7 лімонаў з лупінамі, але без зярнятак і зверху пакласці добра прамытыя 3 свежыя яйкі дамашніх курэй, паставіць пасудзіну ў цёмнае халаднаватае месца. Кожны дзень дабаўляць столькі ж лімонаў і яек. Колькасць укладзеных лімонаў давесці да 49 штук, яек — да 21 штукі. Праз дзень пасля гэтага заліць змесціва 3 кг мёду і пасудзіну паставіць у цёмнае халаднаватае месца на 1 месяц. Працадзіць і прымаць па 1 ст. лыжцы 3 разы на дзень за 40 хвілін да яды на працягу аднаго тыдня. Зрабіць перапынак на два тыдні. Зноў прымаць сумесь на працягу трох тыдняў. Курс лячэння працягваць, пакуль лякарства не закончыцца.
- 300 г кашкі хрэну старанна змяшаць з сокам 5 лімонаў. Захоўваць у старанна закрытай пасудзіне ў халадзільніку. Прымаць дарослым па 1 ч. лыжцы 3 разы на дзень за 30 хвілін да яды. Дзецям з 5-гадовага ўзросту — па 1/2 ч. лыжкі раніцай да яды. І тым і другім піць лякарства, пакуль не палепшае.
- 2 ст. лыжкі кашкі рэпы заліць 1,5 шклянкі кіпеню, варыць у закрытай пасудзіне на слабым агні 30 хвілін, аб'ём вадкасці давесці да зыходнага, ахаладзіць 10 хвілін, працадзіць. Прымаць па 1/4 шклянкі 4 разы на дзень за 30 хвілін да яды або па 1 шклянцы на ноч, выпіваючы дробнымі глыткамі.

**Мікалай ДАНІКАЎ, фітатэрапеўт.**

*«Тайная власть».*

### ВІНО СУПРАЦЬ САЛЬМАНЕЛЫ

Згодна з даследаваннямі Гарвардскай школы грамадскага здароўя, штодзённа выпіваемая шклянка віна змяншае рызыку развіцця мочакаменнай хваробы ў мужчын на 40 працэнтаў. Відаць, той жа эфект і ў жанчын. Аналагічнае ўздзеянне аказваюць піва, чай і кава. Акрамя таго, даследаванні паказалі, што шклянка віна значна хутчэй, чым любыя іншыя алкагольныя напоі, забівае адну з самых небяспечных харчовых бактэрый — сальманелу.

### ЕШЦЕ ЧАСНОК

Выяўлена, што адзін з кампанентаў часнаку — дыяліл трысульфід — замаруджвае рост, а то і ўвогуле забівае клеткі рака лёгкіх.

Сыпце на раны...перац

Дактары з вядомай ў ЗША клінікі Майо ў Мінесоце сцвярджаюць, што рэчыва, якое выклікае асаблівую «пякучасць» чорнага перцу, здольна здымаць боль, што ўзнікае ў пасляаперацыйных шрамах. Некалькі пацыентаў клінікі пераканаліся ў гэтым на ўласным вопыце, пасыпаючы раны... чорным перцам.

### РАЗЫНКІ І ЗУБЫ

Пра карысць разынак сказана вельмі шмат. Яны змяшчаюць шмат клятчаткі, жалеза, калій, вітаміны групы В. Аднак пасля таго, як вы елі разынкі, урачы-стаматолагі раяць тэрмінова пачысціць зубы. Справа ў тым, што разынкі ўтрымліваюць і кіслату, якая любіць «есці» зубную эмаль.

**«Здоровый образ жизни».**

# Парася ля ГУМа

**Летнім днём непадалёку ад ГУМа, каля сметніцы, у лушпінах ад бананаў корпаецца парася. Натоўп на тралейбусным прыпынку здзіўлена пазірае на «цуд» у цэнтры Мінска. Людзі ўсміхаюцца, але не ўсе. Каля сцяны дома бомж прагна есць піражок. На галаве шапачка з доўгім брылём і злінялым надпісам «Каліфорнія». Кашуля і штаны здубянелі ад пылу, поту і мачы. На нагах салдацкія чаравікі, якія, здаецца, увабралі ў сябе боль Чачні, Босніі і Герцагавіны. Бомж павярнуўся, убачыў парася і застыў. Затым хуценька выцер рукі аб штаны, азірнуўся і падаўся бліжэй да сметніцы.**

А парасятка — як з мультфільма. Беленькае, гладзенькае, ды яшчэ пад шыяй вісяць гэткія дзве барадавачкі-завушнічкі.

За адным з расстаўленых на тратуары столікаў сядзяць двое хлопцаў з маладзенькай, але ўжо даволі бляклай дзяўчынай. Хлопцы ў кароткіх куртках і спартыўных штанах п'юць з бутэлек піва, паглядаюць на парася і перагаворваюцца.

І ўжо зусім збоку стаяць трое міліцыянераў. Фуражкі васьміугольныя, нашыўкі, эмблемы, а на поясе наручнікі, дубінкі ды пісталеты. Канзас-Сіці, Амерыка. Стаяць, заклаўшы за спіну рукі, і паглядаюць уважліва.

Тут падышоў тралейбус. Натоўп развярнуўся і кінуўся да дзвярэй, а бомж зрабіў рывок да парасяці. Але яно квікнула і сіганула за сметніцу, а адтуль — за кіёск. Бомж прыклаў шчаку да сцяны і, зазірнуўшы ў шчыліну, стаў на калені і пачаў прасоўваць за кіёск руку.

Адзін з «крутых» устаў, паволі падышоў да бамжа і злёгку ўдарыў нагой пад зад.

— Ты што-о, мужык?! — падняў рудое шчаціннe ўгору бомж.

— Матай, ханыга! — працадзіў хлопец і наступіў красоўкай бамжу на лытку. «Круты» паглядзеў за кіёск і кіўнуў свайму напарніку, каб той зайшоў з другога боку.

Міліцыянеры, нібы шпацыруючы, падаліся да кіёска. Адзін з хлопцаў злаўчыўся і схапіў парася за нагу. Пачуўся пранізлівы віск. Пакуль людзі, якіх на прыпынку сабралася ўжо даволі многа, круцілі галовамі, міліцыянеры акружылі «крутых».

— Грамадзянін! У чым справа? — крыкнуў сяржант праз віскат парасяці, якое вісела ўніз галавой уздоўж белага лампаса.

— Хіба гэта ваша? — міліцыянер паказаў на парася.

— А хіба тваё? — адказаў хлопец. Такая пастаноўка пытання дужа не спадабалася сяржанту і ён паклаў руку на дубінку. Парася не сціхала ні на імгненне.

— Лёха, кінь. Не звязвайся! — сказаў другі хлопец, і Лёха адпусціў парася. І тут засігналілі, заскрыгаталі тармазамі аўтамашыны. Усе агляннуліся на праспект. Дарогу перабягала вясковая жанчына. У адной руцэ дэрмацінавая сумка, у другой — хустка.

— Ах, людцы, то ж маё парасятка голас падало! — кабета цяжка дыхала. Людзі расступіліся. Парасятка мірна паслося пад белымі пластмасавымі столікамі. Жанчына аж засвяцілася.

— Дзюдзька мая, ідзі сюды!

І да людзей: — Гэта ж мой нажлукціўся і выпусціў.

— Маленькае маё, дурненькае, ідзі да мяне, а то тут табе вырасці не дадуць, — гаварыла сялянка, ходзячы наўкол столікаў, — тут цябе маленькім з'ядуць.

— А хіба ж тут звяры?! — пакрыўдзіўся поўны мужчына і адышоў.

— Я так не сказала, але ж у вас адны балконы налеплены, а... — жанчына не дагаварыла, бо тут падышоў яе муж, распараны і стомлены.

— Дзе ж ты, жлукта, соваешся, — папракнула кабета і схапіла парася. Яно квікнула і апынулася ў сумцы.

Жанчына апусцілася на стул і пачала завязваць хустачку.

— Люба, дай на піва, — папрасіў муж і сеў каля жонкі.

— Ужо адпіў!

— Я сказаў дай на піва! — павысіў голас муж.

— Тут дарагое!

— Люба, ты мяне ведаеш.

Жанчына палезла за пазуху і дастала кашалёк.

— На, жлукта, — жонка кінула пяць тысяч на столік.

— Мала!

Жанчына кінула яшчэ пяць.

— Каб яно табе ў горла не пайшло.

— Не бойся!

Мужчына выпіў сваё піва. Узяў сумку. Парасятка рохнула. Жонка прыхапіла пустую бутэльку, і яны падаліся ўздоўж праспекта да вакзала.

Эх, Беларусь...

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# ПЛОШЧА НАШАЙ СВАБОДЫ







Адзін з класікаў мінулага сцвярджаў: свабода — гэта ўсвядомленая неабходнасць. Можа, так яно і было раней, але сёння акцэнты вакол прыгожага слова «Свабода» значна змяніліся.

Мінская плошча, названая гэтым гожым словам, выдатна адлюстроўвае сённяшняе разуменне Свабоды як усвядомленай магчымасці застацца без пакарання за безгаспадарчасць. Варта прайсціся вакол плошчы, і вы ўбачыце, як выглядаюць даўно непрыбіраемыя скрыні для смецця, брудныя сцяжынкі і нават рэкламная дошка адной вельмі паважанай установы. Ствараецца ўражанне, што ўся інфармацыя ДАІ абмежавана плакацікамі пра тое, як пахудзець, а мясцовае турбюро запрашае на экскурсію па сметніках.

Не дай Божа, каб так было на самай справе!

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*ПАНОПТЫКУМ*

# БУДЗЬ ЗАДАВОЛЕНЫ МАЛЫМ...

Не новая думка: усё ў свеце пабудавана па законах сіметрыі.

Два вокі, дзве рукі, дзве нагі, неба і зямля, зямля і вада, ну і г.д. За шчасцем ідзе гора, за нараджэннем — смерць. За вялікай радасцю — вялікі сум. І — за вялікім узвышэннем — не менш вялікае падзенне.

Найбольш яскравыя прыклады апошняга, на маю думку, Напалеон і Гітлер. Па сутнасці, абодва ў розны час валодалі Еўропай — і такі сакрушальны канец. Проста аглушальны.

Будзь задаволены малым, папярэджвалі старажытныя. Гэта ўслед за імі можна паўтараць яшчэ дзве—тры—дзесяць тысяч гадоў — сэнс застанецца дакладным, але нікога не навучыць. Верагодна, прырода чалавека такая. Ён яшчэ недалёка адышоў ад жывёлы. Ды і наўрад ці калі адыдзе.

Цікава, што не меншыя тыраны — Сталін і Мао-Цзэдун — памерлі сваёй смерцю на вяршыні магутнасці. Магу прапанаваць версію: не імкнуліся заваяваць свет тэрытарыяльна...

Кажуць, у крыві людзей, якія нейкі час знаходзіліся пры ўладзе, знойдзена нейкае рэчыва тыпу наркотыку. Як толькі чалавек губляе ўладу, пачынаецца своеасаблівая «ломка». Так што ўлада — сапраўды наркотык.

А тыя, хто чапляецца за яе, — наркаманы?..

***

«...На нашых мітынгах свабодай слова карысталіся толькі прамоўцы, якія былі ўгодныя большасці...»

«...У гэтыя гады... інтэлігенцыя праявіла поўнае неразуменне праватворчага працэсу; яна нават не ведала той асноўнай ісціны, што старое права не можа быць проста адменена, бо адмена яго мае сілу толькі тады, калі яно замяняецца новым правам. Наадварот, простая адмена старога права вядзе толькі да таго, што часова яно як бы не дзейнічае, але потым аднаўляецца ва ўсёй сіле...»

«...Можна сказаць, што правасвядомасць нашай інтэлігенцыі і знаходзіцца на стадыі развіцця, якая адпавядае формам паліцэйскай дзяржаўнасці. Усе тыповыя рысы апошняй адбіваюцца на схільнасцях нашай інтэлігенцыі да фармалізму і бюракратызму. Рускую бюракратыю звычайна проціпастаўляюць рускай інтэлігенцыі, і гэта ў вядомым сэнсе правільна. Але пры гэтым проціпастаўленні можа ўзнікнуць цэлы шэраг пытанняў: ці такі ўжо чужы свет інтэлігенцыі свету бюракратыі; ці не ёсць наша бюракратыя парастак нашай інтэлігенцыі; ці не сілкуецца яна сокамі з яе; ці не ляжыць нарэшце, на нашай інтэлігенцыі віна ў тым, што ў нас утварылася такая магутная бюракратыя?..»

Прашу прабачэння за доўгія цытаты, але тут ёсць аб чым падумаць.

Дарэчы, як вы думаеце, калі гэта было напісана? У 1909 годзе. Зборнік «Вехі». Артыкул Б.А. Кісцякоўскага «У абарону права». Як гаворыцца, «свежо предание...»

Зараз пра гэты зборнік ведаюць толькі спецыялісты, каму гэта трэба па рабоце. А ў свой час за кароткі перыяд ён вытрымаў пяць выданняў і грымеў.

Такое ўражанне, што нічога не змянілася. Мы спалі 87 гадоў, прачнуліся — усё на сваіх месцах: тыя ж праблемы і тыя ж спрэчкі. Што цікава, дагэтуль нявырашаныя.

Хоць аднойчы пабывайце на любым мітынгу ці сходзе. Пераканаецеся самі...

***

Калі ідзеш ад метро да Дома прэсы, ля кіно «Кастрычнік» штодзень з ранку стаіць бабуля. Просіць міласціну.

Тры ці чатыры разы я ёй даваў грошы. Але бабуля ўсё стаіць. Узнікла праблема: што, даваць кожны дзень? Ці горда праходзіць міма?

Я стаў проста пераходзіць на другі бок вуліцы. Немагчыма ісці і нічога не даць — у бабулі ў вачах маўклівае «дай». Ага, думаю, значыць, сумленне ў мяне яшчэ засталося. Гэтак я думаў, калі даваў. Потым даваць перастаў — ну колькі можна? — адчуў сябе злачынцам. І засумняваўся: ці ёсць у мяне сумленне?

Вырашыў праверыць. Стаю непадалёк ад бабулі, назіраю. І бачу, што мой варыянт карыстаецца поспехам — многія пераходзяць на другі бок. Але большасць ідзе прама і бабулі нічога не дае. Значыць, у іх сумненняў няма. А ў мяне ёсць. Хто лепшы? Верагодна, так няправільна ставіць пытанне.

Я сумняваюся, але пераходжу на другі бок вуліцы. Другія не сумняваюцца і ідуць прама. І я, і другія нічога бабулі не даюць. Тады якая між намі розніца?

А бабуля стаіць. Як крыж пры дарозе: можаш памаліцца, а можаш і так ісці...

***

А што на самай справе важна ў гэтым жыцці? Пытанне ўзнікла падчас прагляду навін па тэлебачанні.

Мне важны вось гэты мардаты? Што ён думае, кажа, робіць? Мне важна, хто прыйдзе да ўлады — мардаты ці хударлявы? А што зменіцца ў маім асабістым жыцці? Я стану лепшым ці горшым? Разумнейшым ці дурнейшым?

Важна вось што. Што, скажам, ваша немаўля зрабіла першы ў сваім жыцці крок. Што сын намаляваў добры малюнак. Што ўсе здаровыя. Што сёння вечарам стаіць выдатнае надвор'е. Цішыня і маладзік на небе ясна-малочны, а чорныя тонкія галіны бярозы выразна малююцца на чыстым, злёгку марозным небасхіле. Што пазваніў стары сябар.

Па вялікаму рахунку важныя толькі нараджэнне і смерць.

Ну а праўда ў тым, што пасля гэткай высновы я іду далей глядзець навіны. Усю гэтую зграю хударлявых, мардатых, лысых, валасатых, вусатых і бязвусых — тых, хто па невядомай мне прычыне вырашае мой лёс і перашкаджае любавацца галінамі бярозы на чыстым небе...

***

У 1964 годзе нябожчык Іосіф Бродскі на поўным сур'ёзе лічыў, што Дзяржынскі яшчэ жывы. Ёсць сведкі, што гэта не было гульнёй.

Хоць, вядома, можна прыняць падобнае за самы вытанчаны здзек над савецкай уладай. Спачатку я так і думаў.

Потым, пасля таго, як прачытаў толькі некаторыя вершы Бродскага, зразумеў: не, тут сапраўды ўсё сур'ёзна. Чалавек да такой ступені быў захоплены сваім унутраным жыццём, што вонкавае яго абсалютна не цікавіла. Ці цікавіла як матэрыял для стварэння паэзіі. Не больш.

Прама зайздросна: ты здольны на гэта толькі выпадкова...

***

Яшчэ пра Бродскага. Неяк з сябрам яны ішлі па Неўскаму. Была ўжо ноч. Спусціліся ў метро. Там былі апушчаны краты на ўваходзе. За імі хадзіў міліцыянер. Бродскі паглядзеў і задумена сказаў:

— Першы раз бачу «мента» за кратамі...

Што даказвае — ён сапраўды геніяльны. Адзін позірк — і вось ужо вобраз, поўны і закончаны. Варты рамана ці п'есы.

А знакаміты пісьменнік Лявонаў у эвакуацыі спекуляваў дыванамі. Чаго, здавалася б, яму не хапала? Ён аўтар таўшчэзных раманаў («Барсукі», «Злодзей», «Шлях на акіян» і г.д.), ніводзін з якіх я, праўда, не чытаў, пра іх ведаюць зараз толькі гісторыкі літаратуры. Поўны збор яго твораў заважыць, думаю, пад цэнтнер.

І адна толькі фраза-вобраз Бродскага пераважыць гэты цэнтнер. У прынцыпе, гэта праблема не толькі літаратуры...

***

У Аўстраліі здарылася такая бяда. Некалі туды завозілі зусім хатнюю жывёлу: сабак дзінга, буйвалаў, вярблюдаў, трусоў. З цягам часу патрэба ў іх адпала, і жывёла адзічэла. І стала помсціць чалавеку.

Становішча ўскладняецца тым, што, напрыклад, дзінга выдатна ведае псіхалогію чалавека і лёгка таго дурыць. У аднаго фермера дзінга рэгулярна цягала авечак. Даведзены да шаленства фермер наставіў вакол мноства пастак. Ранкам ён знаходзіў іх захлопнутымі, але пустымі. Сабака навучыўся падсоўваць лапу пад пастку і захлопваць яе.

Фермер абнёс участак сеткай. Авечкі ўсё роўна прападалі: дзінга праходзіла ўнутр па каляіне ад фермерскага трактара.

Усё гэта нагадвае самога чалавека. Быў верным рабом пану, а той яго кінуў. У якасці помсты — паўстанне. Былы раб становіцца панам. Дастаткова распаўсюджаны ў гісторыі выпадак.

***

Мяне даўно цікавіла прырода «стукацтва», «стукачоў». Заснавальнікам жанру можна было б лічыць Іуду, але, пэўна, ён быў проста няшчасным слабым чалавекам. Да таго ж, без Іуды не было б Іісуса Хрыста. У біблейскай легендзе ўсё прадумана: без здрадніцтва няма подзвігу.

Мяне цікавілі бытавыя «стукачы». Сталінская эпоха ўяўляецца больш-менш яснай — не ты данёс, дык на цябе данеслі. І занялі тваю кватэру, пасаду.

А потым, далей — чаму? Па інерцыі? Далібог, гэтая інерцыя цягнецца ўжо тысячы гадоў. Верагодна, гэта закладзена ў чалавеку з самага пачатку. Скажам, сярод жывёлы такога няма. Усё вырашаюць зубы і кіпцюры: слабы атрымлівае свой кавалак апошнім і не можа пайсці да важака зграі і паскардзіцца. Вынік будзе вядомы: з'ядуць. Ды і нельга такога ўявіць — перамагае заўсёды мацнейшы.

Людзям у гэтых адносінах больш зручна. Мацнейшага неабавязкова перамагаць у чэснай бойцы. Можна яго «стукнуць». І вось ён ужо не мацнейшы, а — мордай у бруд. А слабасці ёсць у кожнага. Абсалютна ў кожнага. Трэба толькі добра пашукаць.

Я нездарма напісаў у мінулым часе: цікавілі «стукачы». Цяпер не цікавяць. Ды і што, Божа, можа быць тут цікавага? Асноўны рухаючы матыў любога «стукача» — зайздрасць.

Аб чым тут разважаць?..

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**



Марозам нас не запужаеш...

Фота Мікалая БЯЛЬКОВІЧА.

## АДНЫМ СКАЗАМ

Па ацэнках экспертаў, **у недрах Беларусі** знаходзіцца каля 100 тон золата.

На наркалагічным уліку на пачатку гэтага года ў нашай краіне стаялі **153.337 чалавек,** якія злоўжываюць **алкаголем, і 2347 чалавек,** якія прымаюць **наркатычныя рэчывы.**

За пяць апошніх гадоў у рэспубліцы **ад дыфтэрыі** памерлі 25 чалавек.

Беларусь **завінавацілася** Сусветнай метралагічнай арганізацыі з пачатку 1991 года 400 тысяч долараў.

Новыя даследаванні, якія правялі амерыканскія вучоныя, могуць значна змяніць нашы ўяўленні аб **планеце Нептун:** аказалася, што на гэтай аддаленай планеце **лютуюць штормы**, у параўнанні з якімі зямная непагадзь — проста «бура ў шклянцы вады» — скорасць ветру там дасягае прыкладна 1500 км у гадзіну.

З пачатку года на вадаёмах рэспублікі **затрымана 11.806 браканьераў.**

У мінулым месяцы ў Беларусі **зарэгістравана** 60 згвалтаванняў.

Вучоныя ў Пентагоне лічаць, што **зафіксавалі на Месяцы** існаванне вады. Паведамленне сенсацыйнае, бо да гэтага часу лічылася, што Месяц «ссох ад смагі».

# Чалавек — двухполюсны магніт?

## … Усё пачалося з геалогіі

**Кандыдат геолага-мінералагічных навук Зоя Грачышнікава і яе калегі нейкі час займаліся смешнай, як здавалася зусім яшчэ нядаўна, праблемай — спрабавалі прыцягнуць экстрасенсаў да пошуку радовішчаў карысных выкапняў.**

Высветлілася, што чуйна народжаная сістэма спецыяльна падрыхтаваных аператараў здольна ўлоўліваць пульсацыі, што зыходзяць ад рудных парод. Ад залежаў медзі хвалі ідуць адны, ад жалеза — другія. Пазней некаму прыйшла ў галаву ідэя «прамацаць» розныя прадметы і, вядома ж, чалавека. Аказалася, што ўсе мы з'яўляемся крыніцамі выпраменьвання біяэнергіі. Больш таго, высветлілася, што чалавек уяўляе сабой мадэль двухполюснага магніта. Паводле даследавання групы Грачышнікавай, пераважная большасць людзей ад галавы да пахвіны зараджаны станоўча, ад пахвіны да ступняў — адмоўна. Ёсць людзі, у якіх усё наадварот: у галаве — мінус, у нагах — плюс.

Здавалася б — ну і што? Як гэта ўплывае на наша жыццё? Аказалася, вельмі моцна. Група Грачышнікавай правяла назіранне за паўсотняй «розназараджаных» людзей. Высветлілася, што людзі з рознымі полюсамі цяжэй сыходзяцца, ім цяжка працаваць разам, нават цяжка знаходзіцца ў адным пакоі. «Рознапалярныя» шлюбы, як правіла, нешчаслівыя і нямоцныя. Яшчэ адзін дзіўны факт — злоўжыванне алкаголем прыводзіць да змянення «палярнасці» чалавека.

Ёсць народная прымета — яблыкі есці пасля Спаса (г. зн. пасля 19 жніўня). Чаму? Вучоныя сарвалі яблыкі раней тэрміну. Іх зарад аказаўся «мінусавы». Пасля 19 жніўня вынікі замераў сталі прама процілеглыя. Грачышнікава зрабіла выснову — людзям са станоўчым зарадам процілаказана есці ежу з адмоўным. Гэтую гіпотэзу пацвердзіў таксама аналіз «посных дзён».

Што ж датычыць пульсацый вакол цела чалавека, дык і тут даволі хутка ўдалося вылічыць заканамернасці. У кожнага чалавека ў такіх пульсацыях ёсць паўзы. У месяц яны могуць складаць 4—6 дзён. Той, хто нарадзіўся ў асенне-зімовы перыяд, трапляе ў «штыль» з 5-га па 11-е чыслы кожнага месяца. «Вясенне-летнікі» — з 17-га па 22-е чыслы. Менавіта на гэтыя дні, на думку Грачышнікавай, часта прыпадаюць хваробы, няшчасныя здарэнні.

*(Па матэрыялах друку.)*

**Біблейскія сюжэты і персанажы — зусім не прыдумка «незанятага розуму». Як сведчаць многія знаходкі і адкрыцці вучоных, свяшчэнная кніга апісвае неверагодныя, на першы погляд, але рэальныя, як можна меркаваць, гістарычныя падзеі, іх дзеючых асоб. Вось толькі некалькі новых цікавых паведамленняў на гэты конт, што нядаўна з'явіліся ў друку.**

### САЛЯНЫ СЛУП ЖОНКІ ЛОТА

У Аль-Караку (Іарданія) археолагі знайшлі калону з солі, якая мае абрысы жаночай фігуры. Вучоныя сыходзяцца ў меркаванні, што гэта, як відаць, цікаўная жонка Лота, якую, згодна са Старым запаветам, Гасподзь ператварыў у саляны слуп.

Многія стагоддзі напалову разбураная незвычайная статуя была пахавана ў нетрах пясчанай дзюны. Знаходка зроблена літаральна праз некалькі тыдняў пасля таго, як за тры мілі ад гэтага месца вучоныя знайшлі руіны старажытнейшых гарадоў, як мяркуецца, Садома і Гаморы.

Як сцвярджае Біблія, Гасподзь разгневаўся на паселішчы Садом і Гамору, паколькі яны патанулі ў распусце. Ён паслаў у Садом двух анёлаў, якія прыйшлі ў госці да Лота, але распусныя жыхары Садома патрабавалі, каб Лот аддаў ім гасцей для задавальнення іх юру. Лот адмовіўся, вырашыўшы ахвяраваць уласнымі дочкамі: абавязак гасціннасці быў для яго святы.

Бачачы праведнасць Лота, анёлы параілі яму ўцякаць з Садома не азіраючыся, адкрыўшы, што Гасподзь збіраецца знішчыць агнём і серай абодва гарады. Захапіўшы сям'ю, Лот уцёк. Але калі за спінай уцекачоў пачуўся грукат — рушыліся праклятыя Богам Садом і Гамора, — жонка Лота не вытрымала і азірнулася, за што і была ператворана ў саляны слуп.

— Цяпер мы ведаем, наколькі дакладным было апісанне падзей, выкладзеных у Бібліі, — гаворыць аўтар знаходкі, французскі вучоны Клод Паншарэль.

Даследаванне руін паказала, што гарады сапраўды былі знішчаны ў выніку страшнай і раптоўнай катастрофы: пажару, землятрусу і вывяржэння лавы адначасова. Ну, а вывучэнне саляной статуі дало дзіўныя вынікі: гэта не скульптура, а сапраўдны чалавек з сэрцам і іншымі ўнутранымі органамі. Вугляродны аналіз дазволіў вызначыць і прыкладны ўзрост знаходкі — 4000 гадоў!

Вучоныя не ведаюць, што і думаць, не разумеючы, якая прыродная з'ява можа ператварыць жывое ці мёртвае чалавечае цела ў соль. Выказваюцца меркаванні, што гэта невядомае касмічнае выпраменьванне. Але гэта да канца так і не высвятляе здагадку. Дык, можа, і на самай справе адбыўся цуд?..

### АДРАС ПЕКЛА? КАЛІ ЛАСКА!

Распаленае мора, што прасціраецца на сотні гектараў пад паўднёва-ўсходняй часткай Бразіліі на глыбіні каля 600 кіламетраў, было знойдзена ў канцы 1992 года. Лічылася: гіганцкая маса расплаўленай пароды не што іншае, як геалагічная анамалія.

Але вось у доктара Рэната Круза, вядучага бразільскага геолага і тэолага, іншая думка: гэта — рэальна існуючае біблейскае пекла. Менавіта там, сцвярджае Р. Круз, жыве сатана і пакутуюць грэшнікі.

Амерыканскія і бразільскія вучоныя, якія адкрылі вогненнае мора, мяркуюць, што яно існуе мільёны гадоў: з тых часоў, калі Зямля практычна складалася з расплаўленай пароды. Цэнтр яе і цяпер застаецца такім жа. Але адкуль жа ўзялася лава пад Паўднёвай Амерыкай? Прасачылася з вадкага ядра Зямлі? Аднак чаму яе тэмпература (каля 2000 градусаў) амаль роўная тэмпературы ядра, хоць павінна, па логіцы, быць не вышэй 1200 градусаў? Чаму лава знаходзіцца менавіта ў гэтым месцы?

Доктар Круз нічога таямнічага тут не бачыць.

— Гэта не прыродная з'ява, — настойвае ён.

Доктар гаворыць, што людзі лічаць пекла выдумкай, але яно «такое ж рэальнае, як і рай». І дадае:

— Старажытнаяўрэйскія пісанні, якія не ўвайшлі ў Біблію, расказваюць, быццам Гасподзь кінуў сатану і яго памагатых на Зямлю, дзе іх праглынула мора распаленай пароды. Бог назваў гэтае месца Гадэс — падземнае царства. Але калі вучоныя не вераць у Бога, як жа яны могуць паверыць у існаванне пекла?

Цяпер доктар Круз збірае сродкі на далейшыя даследаванні. Ён упэўнены: пры наяўнасці больш адчувальнай праслухоўвальнай апаратуры можна будзе пачуць крыкі чалавечых душ, што даносяцца з глыбінь вогненнага мора.

### КНІГА САТАНЫ

У пошуку доказаў старажытных рытуалаў, што каля 500 гадоў таму назад праводзіліся сатаністамі ў адным з польскіх замкаў, група вучоных на чале з прафесарам Ігарам Шульцам выпадкова наткнулася на... Кнігу сатаны. Яна захоўвалася ў адным з падвалаў замка на глыбіні 150 метраў у металічным куфэрку з адчаканенымі на яго сценках гравюрамі, якія перадавалі чалавечыя пакуты. Вокладка і старонкі кнігі былі зроблены з чалавечай скуры. Ужо адно гэта выклікала ў вучоных жах.

— На вокладцы, — успамінае Ігар Шульц, — быў рэльефна адлюстраваны чалавечы твар у агоніі, быццам бы сімвалізуючы тыя жахі, якія апісваюцца ў кнізе.

Прафесар пераклаў частку тэксту, дзе апісваліся шматлікія чалавечыя ахвяры, катаванні, пакаранні смерцю, справы вампіраў і многія іншыя зусім жудасныя рэчы. У кнізе гаварылася таксама пра гіганцкія крылатыя стварэнні з цвёрдай скурай, якія жывуць глыбока ў нетрах Зямлі. Вялікае месца ў ёй адводзілася заклінанням, рэцэптам розных зёлак і чароўных мікстур, для прыгатавання якіх неабходны чалавечыя органы.

Не прачытаўшы і палову, прафесар Шульц быў так узрушаны, што вырашыў замураваць кнігу навечна. Але ў яго лабараторыі здарыўся пажар, прычын для якога зусім не было. А кніга быццам бы згарэла дашчэнту, таму што калі спрабавалі знайсці хоць якія-небудзь яе сляды, гэтага не ўдалося зрабіць. Нягледзячы на гэта, прафесар упэўнены, што кніга не згарэла, бо яна — спараджэнне пекла. Вучоны баіцца, што выцягнуўшы гэтую жудасную кнігу на свет, можна адрадзіць да жыцця чорныя сілы.

Падобна, вучоны не далёка ад ісціны. Не так даўно, напрыклад, сатаністы з Санкт-Пецярбурга ахвяравалі д'яблу двух сабак і... маладую дзяўчыну. Кампанія маладых людзей сабралася на гулянку, і ў разгар вяселля адну з гасцей раптам пачалі збіваць усе прысутныя. Ад болю дзяўчына страціла прытомнасць. Вясёлая кампанія адцягнула сваю яшчэ жывую ахвяру ў ванную. Туды ж былі кінуты і два сабакі.

Выхапіўшы нажы, садысты пачалі рэзаць целы дзяўчыны і сабак, адразаючы ў іх часткі цела. Кроў лілася ракой. Пасля заканчэння оргіі целы дзяўчыны і жывёл змясцілі ў цэлафанавыя пакеты і кінулі ў невялікае возера, што знаходзілася побач з домам. Адтуль іх выпадкова і вылавілі аператы̆ўнікі. А неўзабаве затрымалі і чацвярых падазраваемых: дзвюх дзяўчат і двух хлопцаў. Аказалася, што раней усе яны працавалі ў моргу. І абрад быў сапраўды сатанінскі. Як растлумачыў настаяцель Свята-Іоідараўскай царквы Санкт-Пецярбурга айцец Алег, для сатанінскага абраду неабходна маладая нявінніца. А вышэйшай фазай абраду лічыцца смерць немаўляці.

Адзін з затрыманых, былы санітар морга, прызнаўся, што ён сапраўды сатаніст. У яго кватэры знойдзены акультныя кнігі, магнітафонныя запісы.

## СТРАКАТАЯ МАЗАІКА

*ЦІКАВАЕ ПОБАЧ*

### АБ КАМЯНЯХ, ЯКІЯ МІГЦЯЦЬ «АГНЁМ КАХАННЯ»

У Старажытнай Індыі алмазы надзялялі магічнымі ўласцівасцямі, і таму звесткі аб іх здабычы старанна ўтойваліся. Індусы лічылі, што камяні ўтвараюцца з «пяці асноў прыроды»: зямлі, вады, неба, паветра і энергіі. Іх, як і насельніцтва краіны, дзялілі на чатыры касты: брахманаў (чыстых) — бясколерныя крышталі актаэдрычнай формы; кшатрыяў — афарбаваныя ў чырванаватыя тоны; вайш'е — камяні зеленаватага колеру; шудр — шэрыя крышталі.

Мяркуецца, што ў Еўропу алмазы трапілі ў VI-V стагоддзях да нашай эры. На Русі слова «алмаз» упершыню было ўпамянёна ў кнізе цвярскога купца Афанасія Нікіціна «Хаджэнне за тры моры» (XV стагоддзе).

Лічыцца, што тэхналогія поўнай агранкі алмазу ў брыльянт была распрацавана ў Парыжы ў 1600 годзе. З некаторымі відазмяненнямі яна прымяняецца і па сённяшні дзень.

Брыльянты — сімвал поспеху, багацця, сілы і вернасці — выкарыстоўваюцца як упрыгажэнні. Старажытныя грэкі лічылі, што алмазы мігцяць «агнём кахання», і таму, як правіла, заручальныя пярсцёнкі з брыльянтамі надзяваюць нявесце на безыменны палец левай рукі (у праваслаўных — правай), які, згодна з павер'ем, што дайшло да нас ад старажытных егіпцян, звязаны «венай кахання» прама з сэрцам.

### САЛОДКАЕ ЖЫЦЦЁ САБАЧАЕ

На самай справе, наколькі бязмежнай бывае любоў чалавека да братоў нашых меншых. Не так даўно ў ЗША адкрылася 1001-я цырульня для сабак, кошак і іншых хатніх жывёл. А ў Мельбурне паявіўся сабачы басейн для чатырохногіх сяброў багатых аўстралійцаў.

Але рэкорд сабакалюбства, безумоўна, належыць аднаму тайландскаму выдавецтву. У мінулым годзе ў Бангкоку выйшла ў свет кулінарная кніга, якая складалася выключна з рэцэптаў сабачых кармоў. Зрэшты, назваць гэтыя вытанчаныя стравы грубым словам «корм» язык не паварочваецца. Чаго варта «Смажаніна для шчанят-хартоў у стылі дынастыі «Мін» ці «Фрыкасэ для спаніэляў па-бургундску»!

### ГЭТА МЫ НЕ ПРАХОДЗІЛІ

Ці ёсць жыццё на Сонцы? 53 працэнты італьянскіх школьнікаў лічаць, што ёсць. Ад вынікаў апошніх даследаванняў, праведзеных сярод вучняў старэйшых класаў муніцыпальных школ Неапаля, сацыёлагі проста жахнуліся. Аказалася, што 31 працэнт падлеткаў верыць у існаванне калядных фей, 42 працэнты ўпэўнены, што ў другой сусветнай вайне Англія ваявала з Францыяй, а 38 працэнтаў сказалі, што Адольф Гітлер — марка нямецкага піва.

Ну, а на пытанне, хто напісаў «Боскую камедыю», пераважная большасць неапалітанскіх падлеткаў адказала сакраментальна:

— Гэтага мы не праходзілі.

# Камп'ютэрны Маўглі

**… Цяжарнасць у 33-гадовай Надзін М. працякала цяжка. Калі на свет з'явіўся малыш (бацькі загадзя назвалі яго Сідам), урачы прыйшлі да высновы, што ён асуджаны. Некалькі сутак у аддзяленні рэанімацыі ўдавалася падтрымліваць жыццё ў маленькім целе. Тым часам з дапамогай спецыяльнай апаратуры праводзілася ментальнае скан іраванне яго мозгу. Бацьку і маці не паведамлялі пра гэтую незвычайную працэдуру, таму што самі вучоныя ацэньвалі шанцы на поспех як мізэрна малыя. Аднак, на здзіўленне ўсіх, запісаныя апаратурай электрычныя патэнцыялы нейронаў мозгу Сіда, перанесеныя ў камп'ютэр, зажылі там сваім ірэальным (звышірэальным?) жыццём.**

Пра тое, што малы памёр фізічна, але патэнцыялы яго мозгу занесены ў машыну і працягваюць там развівацца, спачатку паведамілі толькі Надзін. Яна аднеслася да гэтага даволі спакойна. Бацьку, паколькі ён літаральна трызніў будучым першынцам, цэлы месяц паказвалі Сіда толькі на экране камп'ютэра, тлумачачы гэта тым, што малышу патрэбны спецыяльныя ўмовы выжывання. Калі ж ён даведаўся пра сутнасць таго, што адбываецца, і пра тое, што сына ўжо пахавалі, дык спачатку адчуў жах і нават паспрабаваў знішчыць праграму развіцця мозгу Сіда. Але ўжо хутка, як і Надзін, пачаў ставіцца да камп'ютэрнага сына як да свайго рэальна існуючага дзіцяці.

Цяпер бацька і маці актыўна ўдзельнічаюць ва унікальным праекце «Камп'ютэрны Маўглі», што вось ужо некалькі гадоў ажыццяўляецца ў Амерыцы, паведамляе часопіс «Сайнтыфік Обсервер», вынікі якога, як сцвярджаюць некаторыя, могуць карэнным чынам змяніць звыклыя ўзаемаадносіны чалавека з машынай. Надзін і яе муж клапоцяцца пра «здароўе» Сіда — устанаўліваюць усё новыя і новыя праграмы абароны ад камп'ютэрных вірусаў, баючыся, што тыя могуць адмоўна паўплываць на разумовае развіццё іх малыша. Даследчыкі аснасцілі камп'ютэр сістэмамі мультымедыя і віртуальнай (уяўнай) рэальнасці, якія даюць магчымасць не толькі бачыць Сіда «трохмерна і ў натуральную велічыню», але чуць яго голас і нават «браць на рукі»...

З'явілася паведамленне пра «камп'ютэрнага Маўглі» і ў расійскай прэсе. Навукова-папулярны альманах «Не может быть», чый прадстаўнік пабываў на камп'ютэрнай канферэнцыі ў Лас-Вегасе (ЗША), расказаў, што там прысутнічаў адзін з удзельнікаў гэтага праекта — нейкі Сцім Роўлер. Па словах гэтага спецыяліста, вучоным удалося праскан іраваць усяго каля 60 працэнтаў нейронаў немаўляці. Але гэтага аказалася дастаткова, каб занесеная ў ЭВМ інфармацыя стала самаразвівацца.

На жаль, застаюцца ў цяні асноўныя дэталі праекта: як практычна ажыццяўлялася скан іраванне, наколькі хутка і паспяхова ідзе развіццё скапіраванага інтэлекту, які яго рэальны патэнцыял? Амерыканцы не спяшаюцца дзяліцца гэтымі сакрэтамі. І, вельмі нават магчыма, у іх ёсць на гэта даволі сур'ёзныя прычыны. Той жа Сцім Роўлер на канферэнцыі ў Лас-Вегасе быў устрывожаны і туманна намякаў, што з'яўленне віртуальнай асобы, спісанай з жывога чалавека, можа мець для нашай цывілізацыі даволі сур'ёзныя і непрадказальныя вынікі.

Час пакажа, ці стане «камп'ютэрны Маўглі» і падобныя на яго істоты нашымі сябрамі і памочнікамі, ці абернуцца злымі дэманамі віртуальнага свету. Нам трэба яшчэ даведацца пра гэта. Бо, што б там ні гаварылі скептыкі, чалавецтву, мяркуючы па ўсім, ужо не ўдасца пазбегнуць з'яўлення на барыкадах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі «штучнага інтэлекту».

**Вядучы рубрыкі Васіль АРОН.**


Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Колькасць камплектаў

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# КРЭДЫТ ДАВЕРУ ДА ПРАЙДЗІСВЕТАЎ

**Феномен наіўнай дзіцячай даверлівасці беларусаў ператварыў нашу краіну ў сапраўдную Мекку для розных прайдзісветаў. Крыўдны і несправядлівы лёс быць падманутым тут можа напаткаць не толькі маладасведчаных у суровых законах дзікага пераходнага перыяду пенсіянераў, але і саміх «акул капіталізму»: прадпрымальных і прадбачлівых бізнесменаў. Прычым, не толькі айчынных, але і замежных, якія, здавалася б, ведаюць усе хітраспляценні рыначнай эканомікі.**

**Такім чынам, апошнім часам наша краіна з'яўляецца своеасаблівым агромністым «полем цудаў», дзе закопваюць свае грошы і наіўныя пенсіянеры, і рэспектабельныя бізнесмены. Праўда, апошнім часам галоўныя крыўдзіцелі пенсіянераў і іншых малазабяспечаных людзей нашага грамадства — будаўнікі «фінансавых пірамід» — фактычна спынілі свае аферы, пакінуўшы пасля сябе дзесяткі тысяч падманутых укладчыкаў. Затое звышдаверлівыя бізнесмены на Беларусі па-ранейшаму трапляюць «у пасткі» хітрых нашчадкаў А.Бендэра.**

**Таму крымінальная гісторыя генеральнага дырэктара мінскай камерцыйнай фірмы «Найс» Юрыя Шапіры, пад якой нядаўна падвялі рысу супрацоўнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Пракуратуры Беларусі, застаецца павучальнай і, магчыма, дапаможа нашым чытачам з ліку «новых беларусаў» пазбегнуць памылак некаторых сваіх падманутых калег.**

### СПЛАЎ ПРАДПРЫМАЛЬНАСЦІ І КРЫМІНАЛУ

На першы погляд здавалася неверагодным, што лёс мог звесці разам гэтых двух аферыстаў: рэспектабельнага генеральнага дырэктара камерцыйнай фірмы «Найс» Юрыя Шапіру і раней судімага Б. ( у дачыненні да гэтага грамадзяніна следства яшчэ не завершана, таму прозвішча па зразумелых прычынах не называем). Тым не менш, злачынны дуэт атрымаўся вельмі моцны і небяспечны: гэткі сплаў прадпрымальнасці і крыміналу. Напачатку «салодкая парачка» вырашыла дзейнічаць жорстка і нахабна.

Яшчэ ў кастрычніку 1993 года яны спрабавалі адразу ж авалодаць сумай у 500 мільёнаў рублёў. Спадар Шапіра з гэтай мэтай звярнуўся да сваіх знаёмых: да галоўнага бухгалтара МП «Малахіт», дырэктара МП «Базіс» і намесніка дырэктара фірмы «Уласла» з просьбай аказаць садзейнічанне ў атрыманні крэдыту ў суме 500 мільёнаў рублёў для фірмы «Перл». Знаёмыя Юрыя Шапіры згадзіліся дапамагчы, але пры ўмове, што фірма «Перл» павінна мець гарантыі на ўсю суму крэдыту, альбо прадставіць страхавы поліс. Варта адзначыць, што кіраваў фірмай «Перл» напарнік спадара Шапіры: згаданы вышэй грамадзянін Б. Натуральна, што ў аферыста не было гарантаў вяртання такога вялікага крэдыту. А закладваць маёмасць сваіх фірмаў знаёмыя Шапіры, вядома ж, не згадзіліся, бо выдатна ўсведамлялі чым гэта можа скончыцца. Зразумеўшы, што проста так абвесці бізнесменаў вакол пальца не ўдасца, Шапіра і яго кампаньён змянілі тактыку. Праз нейкі час яны прыехалі ў офіс фірмы «Малахіт» і, пагражаючы распраўай, загадалі галоўнаму бухгалтару прадпрыемства пералічыць на рахунак фірмы «Перл» 500 мільёнаў рублёў. Да таго ж яны запатрабавалі, каб галоўбух перадаў гэты ультыматум сваім сябрам: дырэктару МП «Базіс» і намесніку кіраўніка фірмы «Уласла». Потым спадар Шапіра пачаў дзейнічаць як сапраўдны акцёр. Неяк ён завітаў да запалоханай тройкі і разыграў цэлы спектакль. Юрый Шапіра, у прыватнасці, паведаміў сваім знаёмым, што Б. страляў у яго з пісталета і ўвогуле прыгразіў забіць, калі ў хуткім часе не атрымае запаветныя 500 мільёнаў рублёў. Для пераканаўчасці Шапіра нават паказаў кулю, якая ібыта ледзь не трапіла ў яго. А напрыканцы размовы заявіў, што калі Б. заб'е яго, то сябры Шапіры адпомсцяць менавіта дырэктару МП «Базіс», намесніку кіраўніка фірмы «Уласла» і галоўнаму бухгалтару фірмы «Малахіт». Апошні пад ціскам Шапіры вымушаны быў даць распіску аб тым, што абавязуецца пералічыць патрабуемую суму грошай на рахунак фірмы «Перл». Аднак атрымаць такія жаданыя грошы прайдзісветам усё ж не ўдалося. Іх ахвяры звярнуліся ў міліцыю, і Юрый Шапіра разам з напарнікам вымушаны быў даваць паказанні следчым.

Зрэшты, доказаў, якія б сведчылі аб тым, што Шапіра і Б. вымагалі ў вышэйпамянёных прадпрымальнікаў крэдыт, было недастаткова, каб давесці гэтую крымінальную справу да суда. Прайдзісветы засталіся на волі і ў хуткім часе знайшлі прымяненне сваім злачынным здольнасцям.

### НАВОШТА ВЫ ПАВЕРЫЛІ?

Даўно заўважана, што беспакаранасць толькі стымулюе злачынцаў. Выйшаўшы сухімі з крымінальнай справы аб вымаганні крэдыту, Шапіра і яго напарнік вырашылі адмовіцца ад сілавых метадаў і ўзяць на ўзбраенне выключна «інтэлектуальныя». Балазе, неабходныя «прылады вытворчасці» ў іх былі: чужыя пашпарты, падробленая пячатка фірмы «Олікс», а таксама неблагія артыстычныя здольнасці абодвух камбінатараў. Загадзя былі размеркаваны і ролі ў гэтым злачынным механізме. Функцыі здабычы ці, дакладней, крадзяжу тавару ўзяў на сябе вопытны ў крымінальных справах Б. А Юрыю Шапіру, як камерсанту, выпала «работа» па спецыяльнасці: ён, выкарыстоўваючы свае дзелавыя сувязі, рэалізоўваў крадзенае.

Першай ахвярай злачыннай парачкі стала фірма «Заграс». Выкарыстоўваючы даныя чужога, раней згубленага пашпарта, а таксама фальшывую пячатку МП «Олікс», Б. заключыў дагавор з «Заграсам» на рэалізацыю буйной партыі пральнага парашку на агульную суму 118 мільёнаў 800 тысяч рублёў. Дзіўна, але кіраўнік фірмы «Заграс» паверыў на слова спадару Б., не запатрабаваў папярэдняй аплаты за тавар і нават не пацікавіўся плацежаздольнасцю пакупніка. А калі спахапіўся, то прайдзісветаў і след прастыў. Акрыленыя ўдала праведзенай злачыннай аперацыяй, Б. і Шапіра не збіраліся спыняцца на дасягнутым і вырашылі паўтарыць «фокус». Па аналагічнай схеме прайдзісветы абдурылі і іранскага бізнесмена, генеральнага дырэктара прадпрыемства «Беллерс». Падмануўшы кіраўніка фірмы, прайдзісветы авалодалі партыяй парфумы на суму 58 мільёнаў 256 тысяч рублёў.

### «САЛОДКАЯ ПАРАЧКА» ПАГАРЭЛА НА САЛОДКІМ

Хто ведае, як доўга б дзейнічала гэтая парачка, калі б яе не пацягнула на салодкае. Выкарыстоўваючы зноў чужы пашпарт і фальшывую пячатку ўсе той жа фірмы «Олікс», Б. заключыў дамову з дырэктарам ТАА «Паллукс» на рэалізацыю 16 тон цукру коштам 128 мільёнаў рублёў. Як і раней, Б. выпісаў фіктыўную даверанасць і адправіў свайго напарніка Юрыя Шапіру атрымліваць партыю цукру на склад. Аднак на гэты раз афера правалілася. Кіраўнік фірмы «Паллукс» западозрыў штосьці нядобрае і паведаміў у міліцыю. У выніку Юрый Шапіра аказаўся за кратамі, а яго паплечніку ўдалося ўцячы. Пошукі гэтага прайдзісвета яшчэ працягваюцца. Таму, зусім верагодна, што ён яшчэ паспрабуе прымяніць свае злачынныя здольнасці.

Зрэшты, нават калі вышэйзгаданы спадар Б. будзе ў хуткім часе затрыманы, небяспека быць нахабна падманутым для бізнесменаў на Беларусі не знікне. Па звестках праваахоўных органаў, падобнымі спосабамі злачынцы сёння даволі часта падманваюць даверлівых прадпрымальнікаў. І, як гэта ні банальна гучыць, у такіх выпадках ратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў.

Спадары бізнесмены, будзьце пільнымі і разважлівымі!

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# «КРУТЫЯ» ЗА РАБОТАЙ

**Рэкет у той ці іншай форме існаваў заўсёды. Успомнім рымскага імператара Веспасіяна (І ст. н. эры), які аблажыў падаткамі ўсе туалеты і выклікаў абурэнне нават у свайго сына. Менавіта Веспасіяну належыць крылатае выслоўе, што грошы не пахнуць.**

Гэта прыклад узаконенага рэкету, дзяржаўнага. І дадзеная форма паборaў шырока практыкавалася ва ўсе часы. Няважна, за якой шыльдай гэтыя паборы хаваліся.

У былым Саюзе папулярнымі былі добраахвотна-прымусовыя пазыкі і пералічэнні аднадзённага заробку ў розныя фонды.

Тады абураліся ўсе, але адкрыта выступіць ніхто не адважваўся. Прытрымліваліся праверанага жыццём закона: лепш аддаць мінімум, чым наклікаць на сябе вялікія непрыемнасці.

Вось і сёння, калі паборы «прыватызавалі» розныя крымінальныя групоўкі і элементы, людзі, якія займаюцца камерцыяй ці маюць нейкую там сваю справу, лічаць за лепшае аддаць нейкую частку свайго прыбытку, чым звязвацца з хлопцамі ў хромавых куртках. Праўда, здараецца, што рэкеціры атрымліваюць адпор, але гэта хутчэй выключэнне.

На рынку селянін прадае мяса. Мужчына ўжо не малады, але на выгляд дужы. Кашуля на грудзях расшпілена, твар заліты чырванню. Падыходзіць хлопец, таксама шырокі ў плячах, і кажа, што селяніну трэба заплаціць дзвесце тысяч. Вясковец не можа ўцяміць, за што ён павінен плаціць. Хлопец папярэджвае, што праз гадзіну вернецца па грошы і адыходзіць. Малады сусед па прылаўку тлумачыць селяніну, што да чаго. Апошні моцна ўзрушаны, і, калі рэкеціp зноў падышоў да прылаўка і пачаў патрабаваць грошы, селянін схапіў гіру і хлопцу — па галаве. Той і асунуўся на тын.

Паўтараю, што гэтая з'ява нетыповая. Рэкет адчувае сябе даволі вольна. Бывае, што чалавек пад гарачую руку і паскардзіцца ў міліцыю, але затым, калі паразважае, то прэтэнзій да хлопцаў з залатымі ланцугамі на шыі не мае. Бо калі ўнікнуць у сутнасць справы, то прыходзіш да высновы, што спадзявацца на абарону з боку праваахоўных органаў не прыходзіцца. Ніякая міліцыя не будзе чалавека ахоўваць дзень і ноч. Ды і міліцыянераў тут не хопіць. Рэкеціры гэта добра разумеюць, таму і дзейнічаюць адкрыта.

Я стаю са знаёмым афіцэрам міліцыі на плошчы Якуба Коласа ў Мінску, і мы назіраем, як ідзе «збор даніны». Пад'язджаюць аўтамашыны, да іх падбягаюць рухавыя хлопцы, залазяць усярэдзіну альбо перадаюць долары адкрыта, пералічваюць тут жа, паміж машынамі.

— А што, нельга іх тут схапіць за руку? — пытаюся я ў знаёмага. Афіцэр глядзіць на мяне як на дзівака.

— Дык ён заявіць, што гэта яму доўг вярнулі. І той, хто перадае, пацвердзіць гэта. Іншая справа, каб паступіла скарга.

— Значыць, ім нічога не пагражае?

— У дадзенай сітуацыі — нічога. Ды і тое, што гэта месца аблюбаваў рэкет, ні для кога не сакрэт.

Хаця мне і здалося, што хлопцы каля аўтамашыны адчуваюць сябе не зусім утульна. Так, дзейнічаюць у адкрытую, але вельмі ж ужо круцяць па баках галавой, азіраюцца.

У размове з пракурорам Мінска Мікалаем Купрыянавым высветлілася, што крымінальныя структуры знаходзяцца пад наглядам міліцыі, але, каб затрымаць вымагальніка, адной заявы пацярпеўшага мала. Неабходна правесці аперацыю і схапіць рэкеціра за руку. Тым не менш, за дзевяць месяцаў гэтага года ўжо заведзена 115 крымінальных спраў за вымаганне грошай. Гэта значна больш, чым у мінулыя гады. У параўнанні з 1994 годам вымаганне вырасла больш чым у два разы. Такая сітуацыя ў Мінску, а па Брэсцкай вобласці за гэты ж перыяд 1996 года да адказнасці было прыцягнута трыццаць чалавек.

Вымаганне развіваецца яшчэ ў адным накірунку: рэкет актыўна ўключыўся ў працэс «выбівання» даўгоў з камерцыйных структур ці прыватных асоб. Адным словам, узяў на сябе ролю судовых выканаўцаў. Калі камусьці не вяртаюць доўг, то ён звяртаецца не ў суд, а да рэкеціраў. І, як выявілася, гэта дзейнічае больш эфектыўна, чым судовыя пастановы, якія вінаватыя не спяшаюцца выконваць.

Але вельмі часта вымаганне пераходзіць у адкрыты разбой. Асаблівы размах рабаўніцтва набыло на аўтамабільных дарогах. Траса Брэст—Мінск прыцягвае да сябе пільную ўвагу «крутых». Нападаюць, як правіла, групамі на транзітнікаў, грузавыя аўтамабілі, асобных грамадзян. Расіяне, якія займаюцца перагонам замежных аўтамашын, адразу ж за Брэстам збіваюцца ў аўтакалону па 10—15 іншамарак і стараюцца не расцягвацца. Зрабіць жа напад на калону — справа марная, хаця «адсекчы» ноччу апошнюю машыну спробы былі.

Адны рэкеціры выбіраюць сабе здабычу яшчэ на граніцы і «вядуць», каб у зручны момант прыціснуць да абочыны, другія ж патрулююць непасрэдна на трасе і нападаюць на высачаную ахвяру.

Паўтара года назад на «алімпійцы» забілі в'етнамца і паранілі таксіста.

Весці барацьбу з разбоем складана, бо злачынцы пастаянна знаходзяцца ў руху, а на дарозе працуюць не толькі «свае», але і «гастралёры» з краін СНД, што стварае дадатковыя цяжкасці. Учыніў разбой — і праз гадзіну-другую ўжо за мяжой. Тым не менш, ловяць і чужых.

Оперуупаўнаважаны ўчастка дарожнай міліцыі Леанід Клімовіч якраз і вёў крымінальную справу расійскіх «гастралёраў».

У Ляхавічы да В. прыехаў з Саранска Ул. Кузняцоў са сваімі сябрамі. Прыбылі на «BMW» і «Ford». Знаёмая Кузняцова іх прыняла і абагрэла. Але расіяне прыехалі не адпачываць, а працаваць і праз дзень выехалі на трасу пад Баранавічамі. Тут іх увагу прыцягнулі дзве іншамаркі з транзітнымі нумарамі. Паспрабавалі іх прытармазіць. Адзін уцёк, а другога ўзялі ў «клешчы» і забралі сорак марак. Той, які ўцёк, паведаміў на пост ДАІ. Пакуль паставы міліцыянер на папутнай машыне дабраўся да месца здарэння, там нікога ўжо не было. Неўзабаве прыбыла падмога і міліцыя зазірнула на стаянку ў раёне в. Лясной. А на гэтай станцыі на пастаянным «промысле» знаходзяцца некалькі дзяўчат. Яны і расказалі, што адзін хлопец з Расіі пахваліўся ім, маўляў, заскочылі сюды папрацаваць. Баксы ёсць. «А дзе ён?» — «Пайшоў у лес».

Выйшаў С. Фядотаў з лесу, яго ўзялі. Астатніх затрымалі пад Івацэвічамі. Фядотаў даў паказанні, а Кузняцоў, раней судзімы, усё адмаўляў, але факты цяжка было абвяргаць. Фядотава і Кузняцова адправілі ў камеру, а М. Балыкова і І. Волкава адпусцілі. Яны вярнуліся ў Ляхавічы, выклікалі яшчэ дваіх сабе на падмогу і напалі на мясцовую запраўчную станцыю. Але і тут пракол. Раённая міліцыя ўзяла іх, як кажуць, цёпленькімі.

Часта рабуюць замежных вадзіцеляў. Скардзяцца немцы, палякі, чэхі. Аднойчы паляк заявіў, што яго пад пісталетам прымусілі звярнуць у лес. І штосьці выгружалі з яго «фуры» ў падагнаны грузавы аўтамабіль. Калі міліцыя зверыла тавар па накладной, то ўся мэбля аказалася на месцы. Тым не меней, вадзіцель кляўся, што выгружалі нейкія скрыні. Махляваць яму не было сэнсу. Значыць, перакінулі з Захаду кантрабанду, а можа і зброю.

Дарэчы, тыя аўтамабілі, на якіх фарсяць «крутыя», часцей за ўсё крадзеныя. А вось як удалося зрабіць на іх дакументы і зарэгістраваць, то гэта асобная тэма.

Здараецца, што і супрацоўнікі міліцыі падыгрываюць рэкету. У Брэсце за вымаганне на граніцы затрымалі Алега Т. Яго бацька, афіцэр у адстаўцы, пачаў даказваць «праўду». А ў хуткім часе за руку схапілі і яго. Капнулі глыбей, у адной кампаніі апынуўся і міліцыянер.

Справіцца з такім злом, як вымаганне, няпроста. Практычна рэкет ёсць нават у самых развітых краінах свету. А ў якіх формах і межах ён існуе — залежыць ад грамадства, ад яго эканамічнага і псіхалагічнага стану.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**


*Мы даём Вам галоўнае – інфармацыю!*




**У аўторак закончыцца падпіска на І паўгоддзе 1997 года.**

*Без «Звязды» — што за багацце?*
*Без «Звязды» — які чытач?*
*Як «Звязды» няма ў хаце,*
*Без яе хоць сеўшы плач.*

Мікола КАМАРОЎ, *Мінск.*

*Падпісная цана «Звязды»*

на паўгода —
83.400 рублёў *для індывід. падп.,*
90.000 рублёў *для ведамасн. падп.,*

на тры месяцы —
41.700 руб. *для індывід. падп.,*
45.000 руб. *для ведамасн. падп.,*

**Памятайце: «Звязда» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя.**

Аляксандр СЫЧОЎ:

# «Выбранне прадстаўніка Беларусі на высокую пасаду — прызнанне ўкладу нашай краіны ў справу міжнароднай бяспекі і раззбраення»

***Апошнім часам спрэчкі, а дакладней, вострая барацьба паміж групамі краін вакол кандыдатуры на пасаду генеральнага сакратара ААН на новы тэрмін, нярэдка жорсткая крытыка арганізацыі за неэфектыўнае вырашэнне глабальных праблем, зноў прыцягвае да яе павышаную ўвагу сусветнай грамадскасці. У гэты драматычны і пераломны для буйнейшай міжнароднай арганізацыі час на адну з ключавых пасад ААН — кіраўніка Першага камітэта — выбраны прадстаўнік Беларусі Аляксандр Сычоў. Нагадаем, што адным з галоўных падраздзяленняў Генеральнай Асамблеі з'яўляюцца Камітэт па пытаннях раззбраення і міжнароднай бяспекі, Першы камітэт.***

**— Аляксандр Мікалаевіч, віншуем Вас з выбраннем старшынёй Першага камітэта і жадаем поспехаў на гэтай адказнай пасадзе. У нас увогуле мала ведаюць пра ўнутраную працу ААН, яе структуру, тым больш пра дзейнасць асобных падраздзяленняў гэтай міжнароднай арганізацыі. Таму спачатку раскажыце пра саму працэдуру выбрання старшыні камітэта (тайнае ці адкрытае галасаванне), пра Вашых сапернікаў: колькі іх было і хто яны, пра вынікі галасавання і пазіцыю канкрэтных краін ці груп краін па Вашай кандыдатуры.**

— Сама працэдура выбрання службовых асоб Генеральнай Асамблеі ААН прадугледжвае тайнае галасаванне. Кожны галоўны камітэт выбірае свайго старшыню на аснове справядлівага геаграфічнага прадстаўніцтва, а таксама вопыту і кампетэнтнасці кандыдатаў. Іх выбары, як я адзначыў, праводзяцца тайным галасаваннем, калі камітэт не прыме іншага рашэння ў выпадку вылучэння толькі адной кандыдатуры.

Мая кандыдатура была вылучана ад імя дзяржаў усходнееўрапейскай рэгіянальнай групы. Яна была прадстаўлена на разгляд заходнееўрапейскай, лацінаамерыканскай, азіяцкай і афрыканскай рэгіянальных груп і атрымала іх падтрымку і адабрэнне. Альтэрнатыўныя кандыдатуры не вылучаліся. І паколькі я быў адзіным кандыдатам, то камітэт выбраў мяне шляхам адкрытага галасавання. Лічу, што выбранне прадстаўніка Беларусі на высокую пасаду — гэта не толькі даніна традыцыі або форма ветлівасці. Гэта ацэнка ўкладу нашай краіны ў справу міжнароднай бяспекі і раззбраення, той ролі і аўтарытэту Беларусі сярод дзяржаў—членаў ААН.

**— Якая роля і месца Першага камітэта ў сістэме ААН? Некалькі слоў пра яго мэты і прыярытэты, спосабы і метады іх рэалізацыі.**

— Першы камітэт Генеральнай Асамблеі, у састаў якога ўваходзяць усе дзяржавы-члены, займаецца толькі пытаннямі раззбраення і звязанымі з імі пытаннямі міжнароднай бяспекі. Як вядома, пачынаючы з 1945 года, ААН з'яўляецца цэнтрам каардынацыі намаганняў міжнароднага супольніцтва ў гэтай сферы.

**— Можа, не зусім карэктна ставіць наступнае пытанне, але ўсё ж спытаю: у якой ступені знаходжанне прадстаўніка Беларусі на чале камітэта можа паўплываць на вырашэнне пытанняў, у якіх зацікаўлена наша дзяржава?**

— Не ведаю, ці цалкам задаволіць Вас мой адказ. Функцыі старшыні камітэта рэгламентуюцца правіламі працэдуры Генеральнай Асамблеі. Пералік правоў і абавязкаў даволі вялікі і ўключае вядзенне пасяджэнняў, кіраўніцтва спрэчкамі і правядзенне галасавання, прынящце рашэнняў і г. д. У той жа час старшыня не мае права ўдзельнічаць у галасаванні і пры выкананні сваіх абавязкаў падпарадкоўваецца камітэту. Аднак старшыня ўваходзіць у састаў Генеральнага камітэта Генасамблеі, знаходзіцца ў пастаянным кантакце і дыялогу са старшынёй Генасамблеі, дэлегацыямі дзяржаў-членаў, арганізуе кансультацыі па ўсяму спектру праблем, уключаных у парадак дня Першага камітэта. Можна сказаць, што работа старшыні стварае аснову для цеснага супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння з іншымі дэлегацыямі па розных кірунках і спрыяе ўмацаванню аўтарытэту Беларусі на міжнароднай арэне.

**— Зразумела, выбранне Вас кіраўніком камітэта — гэта і гонар для маладой самастойнай беларускай дыпламатыі, і своеасаблівае прызнанне яе аўтарытэту. Але ці не цяжка Вам будзе сядзець на двух крэслах? Інакш кажучы, ці не адаб'ецца негатыўна новая пасада на якасці выканання Вамі абавязкаў пастаяннага прадстаўніка Беларусі? А можа Вы пяройдзеце на работу ў штат ААН?**

— У адным з інтэрв'ю вашай газеце я гаварыў аб асаблівасцях шматбаковай дыпламатыі і работы прадстаўніцтва пры ААН. Гэтыя асаблівасці выкліканы бесперапыннай дзейнасцю ААН і прадугледжваюць удзел у розных па праблематыцы міжнародных канферэнцыях, пасяджэннях спецыялізаваных органаў, камітэтаў і падкамітэтаў, камісій і падкамісій, рабочых груп.

ААН мае яшчэ і тую спецыфіку, што тут асноўная і найбольш важная частка работы вядзецца з дэлегацыямі іншых краін. А ў цяперашні час членамі ААН з'яўляюцца 185 дзяржаў. У двухбаковых адносінах кантакты з дыпламатычным корпусам з'яўляюцца важным элементам дзейнасці нашага прадстаўніцтва.

Вядома, выбранне на пасаду старшыні Першага камітэта патрабуе шмат часу, дадатковых затрат фізічнай і нервовай энергіі. Але ў сваёй рабоце я абапіраюся на калектыў прадстаўніцтва. У ім працуюць добра падрыхтаваныя дыпламаты. Яны прайшлі школу ў цэнтральным апараце МЗС, удзельнічалі ў сесіях Генасамблеі, іншых органаў сістэмы ААН і здольныя весці самастойныя накірункі работы.

Безумоўна, выкананню маіх абавязкаў спрые падтрымка з боку кіраўніцтва і супрацоўнікаў МЗС Беларусі. Функцыі старшыні камітэта павінен выконваць да канца бягучай сесіі, г. зн. прыкладна да сярэдзіны верасня наступнага года. Пасада гэтая выбарная і не ўваходзіць у штатны расклад Сакратарыята ААН. Таму аб пераходзе на работу ў штат ААН размовы няма.

**— Апошнім часам стала зусім відавочна, што наспеў час неадкладнага рэфарміравання ААН. І бягучая 51-я чарговая сесія Генеральнай Асамблеі заклікана сур'ёзна заняцца гэтай справай. Што ўяўляе сабой план рэфарміравання ААН і што ўжо канкрэтна зроблена? Якая пазіцыя Беларусі па гэтай праблеме?**

— ААН, якая імкнецца своечасова адказваць на новыя павевы часу, распачала ажыццяўленне праграмы карэнных рэформаў. Мэта іх зрабіць арганізацыю магутным інструментам міру і развіцця, якой і ўяўлялі яе заснавальнікі больш чым паўстагоддзя таму.

У гэтым кантэксце генеральны сакратар ААН прапанаваў новую канцэпцыю дзейнасці рэалізацыя якой дазволіць ААН хутка і эфектыўна рэагаваць на пагрозы міжнароднаму міру і бяспецы.

Для разгляду гэтага комплексу пытанняў, якія з'яўляюцца цэнтральнай дыскусійнай тэмай, створаны спецыяльныя рабочыя групы адкрытага саставу. Паспяховая дзейнасць гэтых груп шмат у чым вызначыць сучаснае і будучыню арганізацыі.

Рэспубліка Беларусь зыходзіць з таго, што ААН — унікальны інструмент шматбаковай дыпламатыі — павінна заставацца цэнтральным элементам новай сістэмы міжнародных адносінаў.

**— Над чым сёння працуе прадстаўніцтва Беларусі пры ААН?**

— Складана расказаць у кароткім інтэрв'ю аб усіх задачах і сферах дзейнасці прадстаўніцтва Беларусі. Гэтая работа шматгранная, і яе можна ахарактэрызаваць як абарону нацыяльных інтарэсаў у ААН і выкарыстанне патэнцыялу і магчымасцей арганізацыі для вырашэння праблем цяперашняга этапа развіцця нашай краіны.

Сярод прыярытэтных накірункаў хацелася б адзначыць работу па прасоўванню ініцыятывы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі па стварэнню прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, далейшае замацаванне праблематыкі краіны з пераходнай эканомікай у праграмнай дзейнасці розных ораганаў сістэмы ААН і аказання ім садзейнічання ў сацыяльна-эканамічным развіцці.

Хачу адначыць, што прадстаўніцтва здолела дамагчыся прыняцця рашэнняў аб павелічэнні памераў дапамогі Беларусі па лініі ПРААН на 1997—1999 гады. Аб'ём сродкаў павялічыцца ў 2 разы і складзе 600 тыс. долараў ЗША ў год.

Ва ўмовах крытычнай фінансавай сітуацыі, якая склалася ў ААН, адмысловую важнасць набывае вырашэнне пытанняў, звязаных з прывядзеннем стаўкі ўзносаў Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН у адпаведнасць з прынцыпам плацежаздольнасці, пагашэннем запазычанасці і захаваннем права голасу ў Генасамблеі.

Задача гэта складаная, і вырашаць яе няпроста. Як Вы ведаеце, у 1992 годзе ўзнос Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН быў павялічаны амаль у паўтара раза, і ў далейшым гэта лічба склала дзесяткі мільёнаў долараў ЗША. Толькі ў снежні 1994 і верасні 1995 года ў выніку шматлікіх і настойлівых намаганняў з боку прадстаўніцтва Беларусі пры ААН і Міністэрства замежных спраў Генеральнай Асамблеяй былі прыняты рашэнні аб істотным паніжэнні ўзносу Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН і на фінансаванне аперацый па падтрыманню міру адпаведна. І хаця гэтыя рашэнні даюць рэальную эканомію для Беларусі на працягу 1995—1997 гадоў каля 35 мільёнаў долараў ЗША, запазычанасць Рэспублікі перад ААН вялікая, і над Беларуссю вісіць пагроза страты голасу ў Генасамблеі.

Вядома, у якасці найважнейшага накірунку мы разглядаем работу па пераадоленню наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і прыняццю новай праграмы дзеянняў.

Калі Вы не супраць, то пасля заканчэння работы асноўнай часткі сесіі ў гэтым годзе я мог бы расказаць шаноўным чытачам «Звязды» аб некаторых выніках дзейнасці дэлегацыі Беларусі на 51-й сесіі Генасамблеі ААН.

**— Дзякуй за жаданне супрацоўнічаць з нашай газетай. Мы з задавальненнем выкарыстаем гэту магчымасць.**

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ПОГЛЯД

# Халодны вецер з Захаду штурхае нас у абдымкі Расіі

**Апошнім часам Беларусь рэальна сутыкнулася з многімі праявамі міжнароднай ізаляцыі. І замоўчваць або ігнараваць гэту праблему нельга, паколькі яна самым непасрэдным чынам здольна ўплываць на будучыню Беларусі як незалежнай дзяржавы і на далейшы стан нашай эканомікі.**

У многіх было спадзяванне: Захад «праглыне» непаслушэнства беларускага лідэра, які наважыўся ўмацаваць сваю ўладу спрэчным (з пункту гледжання дэмакратычных еўрапейскіх традыцый) спосабам, праігнараваўшы волю парламента і рашэнне Канстытуцыйнага суда. Разлік быў на тое, што гучная перамога і унушальныя лічбы народнай падтрымкі «спішуць» усе грахі. Даравала ж Еўропа Барысу Ельцыну 1993 год, хаця тады са сваім Вярхоўным Саветам расійскі прэзідэнт абышоўся куды больш крута.

Аднак на гэты раз глядзець праз пальцы на ігнараванне сваіх прынцыпаў еўрапейская супольнасць не пажадала. Гэтага і варта было чакаць: Беларусь сёння не можа разлічваць на ролю ўплывовай магутнай дзяржавы, якая здольна камусьці на кантыненце дыктаваць свае ўмовы. А вось паслужыць прыкладам таго, да чаго можа прывесці парушэнне агульнапрынятых у Еўропе нормаў — можа.

І гэты наглядны і суровы ўрок для нашай дзяржавы пачаўся. Беларускае кіраўніцтва, відаць, адчула гэта ў Лісабоне, падчас чарговага самміта АБСЕ.

Гэтае асуджэнне палітыкі беларускіх уладаў і, як вынік, перспектыва згортвання і без таго не дужа актыўных эканамічных адносінаў здольны прывесці не толькі да тых вынікаў, на якія разлічвае Захад. Халодны заходні вецер яшчэ больш штурхае Беларусь у абдымкі Расіі.

Вельмі можа здарыцца, што наступны год стане апошнім годам незалежнага існавання Беларусі. Гэтая сумная перспектыва яшчэ тры гады таму выглядала неверагоднай. Сёння пра яе даводзіцца гаварыць як пра найбольш рэальны далейшы шлях нашага народа, які, здаецца, сапраўды не дарос да ўласнай дзяржаўнасці.

Кола перадумоў для ўваходжання Беларусі ў састаў Расійскай Федэрацыі пасля лістападаўскага рэферэндуму значна пашырылася.

Адначасова стыль і метады, якімі ўмацоўвалася ўлада ў дзяржаве і адольваліся палітычныя апаненты, фактычна паставілі крыж на спробах Беларусі праводзіць шматвектарную знешнюю палітыку. Мяркуючы па рэакцыі еўрапейскіх дзяржаў на апошнія падзеі ў нашай краіне, пасля 24 лістапада за Беларуссю надоўга замацуецца імідж спецыфічнай мясціны, з якой эканамічныя, фінансавыя, палітычныя і культурныя дачыненні калі і будуць развівацца, то толькі на своеасаблівай аснове, адрознай ад прынцыпаў, якімі кіруюцца ў сваіх узаемаадносінах астатнія краіны старога кантынента.

Зразумела, Захад не жадае рэстаўрацыі на постсавецкай прасторы адзінай дзяржавы, якая б зноў склала канкурэнцыю Злучаным Штатам. Але ключавой ролі ў гэтай рэстаўрацыі Беларусь не адыгрывала і наўрад ці зможа адыграць, — нават калі ўвойдзе ў састаў РФ на правах суб'екта Федэрацыі. Далучыўшы Беларусь з яе паўразбуранай эканомікай і больш чым сціплымі рэсурсамі, Расія зусім не верне колішнія пазіцыі Савецкага Саюза.

Ключ да новай супердзяржавы — Украіна ці Казахстан з іх амаль 70-мільённым насельніцтвам, вялізнымі запасамі прыродных рэсурсаў і адпаведнымі тэрыторыямі. Але Кіеў і Алма-Ата — на другім баку еўрапейскай барыкады. І за іх Захад сапраўды будзе сур'ёзна змагацца.

А Беларусь... Яе і тут могуць выкарыстаць як адмоўны прыклад. За пяць гадоў незалежнасці ў былых рэспубліках СССР склаліся новыя палітычныя эліты, што вырашаюць задачы іншага, чым раней, маштабу, прывыклі да новых стандартаў і маюць іншыя амбіцыі. Палітычных дзеячаў, якія прывыклі да трыбуны ААН, персанальных самалётаў, аўдыенцый з лідэрамі еўрапейскіх дзяржаў, перспектыва ператварыцца ў радавога губернатара, які змагаецца за ўраджайнасць і своечасовую выплату зарплаты, не проста спалохае. За свае новыя прывілеі, асабліва перад рэальнай пагрозай страціць іх, гэтыя палітыкі будуць змагацца ўсімі магчымымі спосабамі. У гэтым сэнсе, нават ахвяраваўшы сваёй незалежнасцю, Беларусь зусім не пракладзе шлях іншым, а хутчэй наадварот — прадэманструе яго згубнасць і для палітычных эліт, і для народаў, якія імкнуцца не растварыцца ў іншых нацыях, а захаваць сваё адметнае і годнае месца ў свеце.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# «Дойчэ Мессэ АГ» будзе працягваць супрацоўніцтва з Беларуссю

**Учора адбылася ўжо традыцыйная сустрэча высокапастаўленых служачых сусветна вядомай выставачнай кампаніі «Дойчэ Мессэ АГ» з нямецкага горада Ганновера — Міхаэля Боермана, шэфа маркетынгу, генеральнага ўпаўнаважанага фірмы, яе прадстаўніка ў краінах СНД Ірыны Вайсхаар і кіраўніка прэс-службы кампаніі Монікb Брант з беларускімі журналістамі.**

У нас гэта фірма ў першую чаргу вядомая тым, што ў красавіку гэтага года на яе плошчах былі праведзены Дні эканомікі Беларусі ў Германіі, у якіх удзельнічала прадстаўнічая дэлегацыя дзелавых колаў на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

Па словах нямецкіх гасцей, гэтыя Дні эканомікі з'явіліся сапраўдным прарывам Беларусі на заходнееўрапейскі рынак, дзе пра нашу краіну, яе магчымасці, на жаль, пакуль вельмі мала ведаюць. Напрыклад, тады колькасць публікацый у прэсе аб Беларусі пераўзышла ўсе межы чакаемага асвятлення ўдзелу асобнай краіны ў выстаўцы. І калі раней Беларусь блыталі з Расіяй, то цяпер гэтага не назіраецца.

Але з таго часу, як кажуць, шмат вады сплыло. Сёння палітычная сітуацыя ў Беларусі зусім не тая, што была ў красавіку. І як паказаў самміт у Лісабоне, заходнія краіны, мякка кажучы, неадназначна аднесліся да вынікаў нашага рэферэндуму. У беларускіх незалежных і многіх заходніх СМІ з'явіліся прагнозы аб хуткай палітычнай і эканамічнай ізаляцыі Беларусі з боку вядучых краін Еўропы.

У сувязі з гэтым пытанне карэспандэнта «Звязды» было наступным: ці не мяркуе фірма аб'явіць байкот Беларусі?

Адказ, калі коратка яго сфармуляваць, быў у нейкай ступені дыпламатычным, хаця немцы не спрабавалі ўхіліцца ад шчырай размовы. На іх думку, візіт у Ганновер кожнага лідэра кожнай дзяржавы — гэта ў першую чаргу вялікая рэклама, у дадзеным выпадку для Беларусі. Што датычыць Лукашэнкі, яго візіт быў шырока асветлены па ўсіх каналах нямецкага тэлебачання.

А па-другое, можна зрабіць выснову, бізнес ёсць бізнес. Нягледзячы на палітычныя пераўтварэнні ў Беларусі «Дойчэ Мессэ АГ» імкнецца ісці ўперадзе палітыкі. А таму ў Ганноверы нярэдка выстаўляліся краіны, якія не мелі дыпламатычных адносінаў з ФРГ.

І на погляд прадстаўнікоў фірмы, праз гандлёва-эканамічныя адносіны нярэдка мяняліся адносіны да той ці іншай краіны. Што датычыць Прэзідэнта Лукашэнкі, яго палітыкі, то ні аб якім байкоце не можна весці размовы. Фірма не працуе ні на якую-небудзь партыю, рух. Палітыка — гэта не прынцыпова для «Дойчэ Мессэ АГ». Яна дзейнічае на карысць прамыслоўцаў свету. За свае 50 гадоў гісторыі фірма працавала з рознымі палітычнымі дзеячамі ў розных палітычных абставінах, але была верная адной ідэі — садзейнічаць развіццю прагрэсу і ўзаемавыгаднага гандлю.

Як паведаміла Ірына Вайсхаар, у наступным годзе «Дойчэ Мессэ АГ» будзе ўрачыста святкаваць 50-годдзе Ганноверскага кірмашу. На ўрачыстасці мяркуецца запрасіць беларускую дэлегацыю на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## Так усё і было

**Венядзікт ГРЫГАРОВІЧ,**
***в. Заборцы, Докшыцкі раён:***

### Глухім праезд забаронены...

Гэту гісторыю я пачуў ад знаёмага.

На старэнькім трактары без кабіны ехаў пажылы чалавек. А паколькі прыціскаў добры марозік, трактарыст старанна ўхутаўся і падвязаў вушы ў шапцы-вушанцы. Дарога была вузкаватая, а ён яшчэ паціху пхнуўся пасярэдзіне. Ззаду сабралася багата машын, бо ніяк не маглі яго абмінуць. Кожны спяшаўся па сваіх справах, і таму ўсе пачалі сігналіць на ўсе лады. А трактарыст, напэўна, моцна задумаўся, ці праз вушанку не даходзілі нецярплівыя сігналы. Больш нервовыя спрабавалі абмінуць яго, а ён не звяртаў аніякай увагі. Нарэшце, аднаму хлопцу ўдалося абмінуць. Ён заехаў наперад трактару, перагарадзіў дарогу і падышоў да трактарыста.

Усе павыходзілі з машын і сачылі за развязкай. А хлопец сарваў з галавы гора-трактарыста вушанку, дастаў нож, адрэзаў вушы ў шапцы, надзеў зноў яму шапку на галаву і сказаў:

— А цяпер можаш ехаць!

**Міхаіл ШУЛЬГА,**
***г. п. Уваравічы, Буда-Кашалёўскі раён:***

### Антонавы д'яблы

Было гэта восенню, калі пасля кароткага дня цемра ахінае ўсё наваколле. Антон за чаркай-другой заседзеўся ў свайго кума Пятра. Калі гамонка была скончана, Антон сабраўся дамоў, хаця кум і прасіў пераначаваць, каб адправіцца повідну... Аднак Антон настаяў на сваім.

Развітаўшыся з Пятром, Антон закурыў і патэпаў да свае вёскі. Колькі ішоў, ён не памятае. А тут, як на тое ліха, патухла папяроса. Узяў Антон з кішэні запалкі, адвярнуўся ад ветру, які дзьмуў у твар, каб прыкурыць. Зацягнуўся едкім тытунём і пайшоў у той бок, куды адвярнуўся. Ішоў, ішоў і дабраўся Антон да вёскі... кума Пятра. Разабраўшыся, што прыйшоў не туды, Антон успомніў усіх святых і грэшных благім словам, плюнуў і павярнуў назад. Па дарозе дастаў папяросы, каб зноў запаліць. Закурыў і паджгаў дамоў. Але неўзабаве папяроса патухла.

Антон зноў адвярнуўся ад ветру, каб запаліць папяросу, ды так і пайшоў да вёскі, дзе жыў кум Пятро. Ледзь не плачучы, павярнуў Антон назад. На гэты раз ён ужо не курыў і дабраўся-такі да свайго дома.

А назаўтра Антон усім раззваніў, што яго д'яблы ўсю ноч вадзілі...

## Як жывецца — так пяецца

**Марыя ЦІМІНСКАЯ,**
***в. Дзераўцы, Асіповіцкі раён:***

З неба зорачка упала —
Я жаданне загадала:
Памажы, Бог, майму краю!
Больш нічога не жадаю.

**Лідзія ФАРБОТКА,**
***в. Пруды, Стаўбцоўскі раён:***

Пасадзілі буракоў,
Пасеялі рапсу...
Дзе узяць які рэцэпт,
Каб націснуць шнапсу?

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ,**
***в. Камаі, Пастаўскі раён:***

З мінімальнаю зарплатай —
Хоць ты галавой у вір.
Яе нават скупавата
Нам на хлеб і на кефір.

**Уладзімір КУНЦЭВІЧ,**
***в. Загаранкі, Круглянскі раён:***

Весялей іграй, гармонік,
На увесь наярвай дух!
Скача міленькі, як конік —
Запрагу яго у плуг.

**Фёдар ЛАШКЕВІЧ,**
***в. Ліпень, Асіповіцкі раён:***

На закуску агурочка
Захацеў адзін п'янтос.
І адгрыз у сябручочка
Зеляненькі яго нос.

# На прызбе ў Алены



**Пасля той суботы, як выйшаў першы выпуск нашай рубрыкі, у панядзелак на працу ішла крыху пабойваючыся. Не, не падумайце: не крытыкі калег, не нездаволенасці начальства я баялася. Адзіная думка ўвесь час даймала-варушылася ў свядомасці: а раптам чытачы не падтрымаюць маю ідэю, а раптам не адгукнуцца?.. Але ўжо ў першы дзень я пачула вашы галасы, мае шаноўныя, па тэлефоне, а ўжо праз два дні паштальён прынёс колькі вашых лістоў. А ў тэлефанаваннях і ў допісах — словы даверу і падтрымкі, але галоўнае — вы прапануеце мне свае творы! Іменна гэта дазволіла з палёгкай уздыхнуць і з яшчэ большым энтузіязмам узяцца за працу. Справа, як кажуць, зрушыла з месца, і цяпер я проста ўпэўнена, што на маёй «прызбе» будзе заўжды людна. (Хаця, прызнаюся, нягледзячы на ўсе сумненні, я ведала, што інакш проста і быць не можа.)**

**Падазраю, што некаторыя з вас, шаноўныя чытачы, не бачылі нумара «Звязды» за 23 лістапада, чытаеце рубрыку ўпершыню і не можаце зразумець, у чым тут справа. Што ж, спецыяльна для вас раблю невялікую «рэкламную кампанію» сваёй старонкі.**

**«НА ПРЫЗБЕ Ў АЛЕНЫ» — гэта унікальная рубрыка для чытачоў, пра чытачоў, і — увага, галоўнае! — створаная самімі чытачамі. Карацей, гэта старонка вашай творчасці па розных накірунках. А накірункаў (нагадваю) мы прапануем вам шмат.**

ТАК УСЁ І БЫЛО... **У гэтай намінацыі я чакаю ад вас праўдзівых кур'ёзных смешных гісторый, якія здараліся з вамі ці вашымі знаёмымі.**

**Праспяваць уласныя прыпеўкі прапаную вам «на прызбе» ў намінацыі** ЯК ЖЫВЕЦЦА — ТАК ПЯЕЦЦА, **а расказаць пра мясцовыя ці сямейныя святы пад «шапкай»** А Ў НАС СЯГОННЯ ФЭСТ.

**Калі вы лічыце, што вашы творы спадабаюцца нашым самым маленькім чытачам — пацешце іх на маёй «прызбе» ў рубрыцы** КОЦЯ Ў ЧЫРВОНАЙ КАПОЦЕ. **Сюды ж дасылайце і першыя творы сваіх дзяцей або цікавыя гісторыі пра іх. А калі вы пачулі ад кагосьці трапнае слоўца ці словазлучэнне ў пэўным кантэксце — хуценька запішыце яго і дашліце ў намінацыю** СКАЗАЎ — ЯК ЗВЯЗАЎ.

**Свае ўласныя арыгінальныя рэцэпты, парады, вы можаце прапанаваць гасцям «прызбы» ў рубрыцы** ХТО НА ШТО ЗДАТНЫ. **А свае цікавыя адкрыцці пра паходжанне мясцовых мянушак, прозвішчаў, назваў, адкрыцці, зусім не падобныя на версіі этымалагічных слоўнікаў, дасылайце ў намінацыю** КАЛЯ МАЙГО ЦЕРАМА.

Я НЕ ПАЭТА — **гэта вашы вершы, а** ПЕРАПЕВЫ — **вашы дасціпныя прыстойныя пароды на агульнавядомыя песні і вершы.**

**Рубрыка для гараджан і пра гараджан** — ГАРАДСКІ РАМАНС.

**Фатографаў-аматараў і самадзейных мастакоў чакаюць** АДКРЫТЫЯ ВЕСНІЦЫ.

**І апошняе. Не забывайцеся, што гаспадыня «прызбы» ўсё ж як-ніяк журналіст. І я пытаюся:** «ШТО ЧУВАЦЬ»? **не дзеля жаночай цікаўнасці, а дзеля прафесіянальнай. Таму буду вельмі вам удзячная, калі разам з вашымі творамі буду чытаць пра вашы мясцовыя навіны, праблемы, пра цікавых людзей, што жывуць побач з вамі і пра якіх варта напісаць не «на прызбе» — проста ў «Звяздзе».**

**Мы не абяцаем прызоў — мы робім большае: прапануем вам раскрыць свой талент, можа яшчэ нікому не вядомы, на старонках самай старэйшай і паважанай рэспубліканскай газеты! Пішыце «на прызбу»!**

**Пачакайце, шаноўныя, гэта яшчэ не ўсё. Я першы і (клянуся) апошні раз змяшчаю фрагмент твора, які не падыходзіць ні пад адну намінацыю. Яго напісаў Рыгор ВАЎЧОК з Ашмян. Гэта прысвячэнне мне. І «прызбе». І «Звяздзе». А значыць, і ўсім яе чытачам. Таму лічу, яно вартае ўвагі.**

### Я не паэта...

(Гаспадыні прызбы)

***«Я не паэта, о крый мяне божа»,***
***Прызвання такога не меў я ніколі.***
***Толькі «Звязда» натхніць мяне можа,***
***І рыфма тады ўсплывае міжволі.***

***Пані Алена, Ваш заклік прымаю,***
***Спяшаюся месца на прызбе заняць.***
***Пёры забытыя я расчахляю,***
***Даю ім магчымасць сябе паказаць.***

***Хай песні нясуцца і сыплюцца жарты***
***Толькі свае, не з чужое рукі.***
***Хай кожны адчуе, чаго і ён варты,***
***На свет нарадзіўшы ў пакутах радкі.***

**Ну, а цяпер, здаецца, усё. Даруйце балбатлівую гаспадыню (хаця «на прызбе» гэта невялікі грэх). Чытайце «прызбу» і — галоўнае — пішыце «на прызбу» (літаральна: на канверце, адрасаваным у нашу рубрыку, пішыце яе назву). Я заўжды чакаю і заўжды рада сустрэчы з вамі.**

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## А ў нас сягоння фэст

**Сцяпан КУХАРЧУК, *Івацэвічы:***

### Упоўзіны

Ведаеце, як спраўляюць наваселле-перасяленне ў новае жыллё на Дзісеншчыне? Абрад уваходзін тут называецца «ўпоўзіны», бо першы раз у новы дом не ўваходзяць — упаўзаюць. Так-так. На парог сцелюць кажух воўнай наверх, а па ім кожны член сям'і ўпаўзае ў памяшканне. Упаўзае — каб жылося ў новым доме і багата, і шчасліва. Упаўзаюць, а пасля гуляюць, урачыста адзначаюць падзею, спраўляюць упоўзіны.

## Коця ў чырвонай капоце

**Таццяна СТАХЕЙКА, *Мінск:***

### Чароўны свет гульні

Гульня — адна з самых яркіх і светлых старонак дзяцінства. Гэта — чароўны свет адкрыцця неспазнанага, пазнання рэчаіснага; гэта — свет дзівосных дзіцячых мрояў, выдумкі і вынаходніцтва. З неадольнай магнетычнай сілай яна вабіць і кліча маленства на свае шматлікія сцяжынкі.

Пройдзем жа па адной з іх, якая правядзе нас да мінулага ў сучаснае старажытнага Давыд-Гарадка, і прыгадаем няхітрыя забавы, што згадкай незабыўнай радасці, спазнанай і перажытай у далёкім маленстве, зберагліся ў памяці мясцовых старажылаў.

У самым раннім узросце, як толькі немаўля пачне цікавіцца сваімі ручкамі і ножкамі, цягнуцца да розных прадметаў, з ім пачыналі гуляць. Такой гульнёй з дзіцем у Давыд-Гарадку была забаўлянка «кошыкі». Немаўля бралі за ручкі, злёгку паварочвалі яго далоні, згорнутыя ў кулачкі, і прыпявалі-прыгаворвалі:

*— Кошыкі-кошыкі,*
*Зайчыкі і коцікі*
*На парожку сэдзяць,*
*Хочуць з дзеткамі гуляць.*

Ці займалі забаўкай, перабіраючы ў дзіцяці на ручцы пальчыкі: «Сарока-варона дзеткам кашку варыла, на прыпэчку становіла і па капэльцы дзэліла. Одному дала, другому дала, а трэцёму ні дала. Роботы не робіў, дрова ні носіў, хатку ні мёў. Шу, полецелі, полецелі, полецелі», — і ўзмахвалі ручкамі дзіцяці, імітуючы палёт птушак.

Забаўлялі немаўля казычачы ножкі;

*— Кую, кую ножку,*
*Повдом у дорожку*
*І купім паньчошкі*
*На нашые ножкі.*

Паступова забавы рабіліся больш жвавымі. Калі малое ўжо пругка станавілася на ножкі, яго падкідвалі на калене, падахвочваючы да скокаў:

*— Дрыбу-дрыбу-дрыбушэчкі*
*Скачэ конік бэз уздэчкі.*
*Дрыбу-дрыбу, і-го-го,*
*Оседлаем му (мы) ёго.*

**Мікалай МАСКЕВІЧ, *г. п. Мядзел:***

### «Жыццёвы вопыт»

Сёння Насці ўжо пяць,
Не цярпіцца маме.
— Кім бы ты хацела стаць?
— Прадаўцом у краме.

— З-пад стала шчэ не відаць,
Гэткая маляўка...
— Дык магла б я гандляваць,
Мамка, з-пад прылаўка.

## Сказаў — як звязаў

**Ніна ЗАХАРЭВІЧ, *Паставы.***

### Венік у вядры

Аднойчы ўсе работнікі нашай установы выехалі на суботнік па нарыхтоўцы кармоў для грамадскага статка ў калгас. У той дзень было вельмі горача, а тым больш, калі працуеш. Жанчыны варочалі і зграбалі сена, а мужчыны складалі сянаж, Гэта было ў розных месцах. І таму распраналіся, як на пляжы. Жанчыны працавалі ў купальных касцюмах, а мужчыны — у плаўках ці «сямейных трусах» і абавязкова ў гумавых ботах, бо іншы абутак не падыходзіў да такой працы.

У час абедзеннага перапынку жанчыны апранулі лёгкія сукенкі, развязалі свае торбы з лустай. Мужчыны таксама збіраліся побач з імі адпачываць і абедаць. Уперадзе ішоў адзін з кіруючых работнікаў. Ён быў самы высокі і страшэнна худы. На ім свабодна матляліся трусы, трымаючыся на гумцы. Доўгія тонкія ногі як палкі тырчэлі у вельмі высокіх халявах гумавых ботаў. Адна з жанчын, даволі вострая на язык, усклікнула: «Паглядзіце, а наш Калінец у гэтых ботах, **як венік у вядры**»!

З таго часу пра высокага схуднелага мужчыну, тыя, хто чуў гэтае выказванне, гавораць: **«Як венік у вядры!»**

## Я не паэта

**Наталля ВІЛ, *Вілейка:***

Алегарычнасць існавання
прыходзіць ад знямогі нар.
Паклала я сваё каханне
на мёртвы, немачны алтар.

Пустэльніцкае знішчажэнне
былых гадоў, былых вяршынь
Цяпер са мной адно маленне —
за цень знявечанай душы.

І немы стогн заглушыць словы.
У сэрцы ўзнік цяжкі прагал.
Ў каханні боль — жыцця высновы
пакрыюць кроплямі мой твар.

# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

**ГАДАВЫ КОНКУРС СКЛАДАННЯ**

**Заданне № 29**
**Віктар ВАЎНЕЙКА *(Мінск)*, Манфрэд ЦУКЕР *(Германія)*.**



**Белыя:** Kph3, Kc2, п. d4(3).
**Чорныя:** Kpd3, Лc1, Лd1, Cb1, Ce1; пп: b2, b3, c3, d5 (9).
*Кааператыўны мат за 3 хады.*

**Заданне № 30**
**Валерый ФРЫГІН *(Магілёў)***
**Белыя:** Kpb8; пп: c2, f3(3).



**Чорныя:** Kpd4, Фa2, Лa3, Лb2, Ca1, Cb7, Ke5, Ke8; пп: d3, d7, e3 (11).
*Кааператыўны мат за 5 хадоў.*

**ПРАВЕРЦЕ ВАШЫ АДКАЗЫ**

Заданні №№ 15—28 гадавога конкурсу складання развязваюцца наступным чынам:

**№ 15. В. Ваўнейка,** 1. Kf5! ~ 2. Ke7+; 1... Л:d3 2. Kh6+; 1... ef 2. Фc4+; 1... e5 2. Kh6+; 1... Kpf7 2. Kd6+.

**№ 16. В. Іваноў.** 1. f4! ~ 2. Ke4!; 1... ef5 2. Лd5; 1... C:g5 2.Лb7!

**№ 17. А. Сядлецкі.** 1. Фf8! ~ 2. Лg3; 1... Ke5 2. Л:e5+; 1... Kf6 2. Лg3+; 1... K:d2 2. Ф:f4+! Пабочнае рашэнне. 1. Ф:b7.

**№ 18. А. Сядлецкі.** 1. K:d6 ~ 2. Kb5+; 1... e4 2. K:c2+; 1... Ce4 2. Лd8; 1... Kf4 2. Kef5+; але пасля 2... C:f3! у варыянце 1... Ce4 няма рашэння.

**№ 19. У. Аляксандраў.** 1. K:d3! ~ 2. K:c1+; 1... Фa1 2. Ф:c2+; 1... Фb1 2. Фa5+; 1... Фh6+ 2. Kp:h6, 1... cd 2. Cd5+.

**№ 20. А. Глушынскі.** 1. Cc4! 1... Kp:d6 2. Kf7+; 1... Kp:f6 2. Ke8+.

**№ 21. А. Варыцкі.** 1. Kf6! ~ 2. Ф:d5; 1... Kpe5 2. Фh2+; 1... Kpc5 2. Ke4+.

**№ 22. А. Варыцкі.** 1. Ca1! Ce3 2. Kf3 Cb6 3. Ce5 Cc7! 4. Kg5! Kp:g5 5. C:c7 Kpf6 6. Cd6 Kpg5 7. Ce5 Kph6 8. Cf4×.

**№ 23. А. Міронаў.** 1. Ke5! цугцванг. 1... f3 2. Cc6+; 1... C~ 2. Cc4+; 1... C:e5 2. Cd7+.

**№ 24. А. Міронаў.** 1. Kpe4! C:c6+ 2. Kpf5 C:d7+ 3. Kpe4 Cc6+ 4. Kpd3 Cb5 5. Ce8! C:e8 6. Kb2×

**№ 25. А. Міронаў.** 1. Фb8!

**№ 26. І. Бондар.** 1. Ka6+ Kp:b7 2. Kc5+ K:c5 3. Kp:b4 e2 4. Лb1! e1Ф (4... e1Л 5. Kpa5+ Л:b1 — пат) 5. Kpa3+ Ф:b1 — пат.

**№ 27. А. Кароль.** 1. Лc8!

**№ 28. В. і Д. Жылко.** 1. Лh8! цугцванг. 1... Kp:d5 2. Лh5+; 1... ef 2. K:f6.

*Адказы на апошнія заданні даслалі наступныя ўдзельнікі гадавога конкурсу рашэнняў: Л. Ахрэм і С. Гурыновіч (Мінск), В. Каляда (Слуцкі раён), А. Кіслы (Узда), А. Кароль (Салігорск) і іншыя.*

**ШАХМАТНАЯ НАВІНКА**

Выйшаў у свет першы нумар часопіса «Проблемист Юга» (32 стар., фармат А5). Матэрыялы прыводзяцца на мове арыгінала — рускай, украінскай. Па пытаннях набыцця часопіса №№ 1 і 2 пішыце на адрас сакратара «Ассоциации»: Украина, 270069, Одесса-69, ул. Академика Заболотного, 41 А, кв. 3, Черноусу Владимиру Михайловичу.

# АНЕКДОТЫ

— Сынок, чаму ты не пацалуеш сваю цётачку?

— Баюся, таму што тата таксама хацеў яе ўчора пацалаваць і атрымаў па вушах.

❑

*Жанчына заказала спецыяліста, каб той зашкліў ёй балкон на 5-м паверсе. Позна ўвечары — званок у дзверы.*

*— Хто там?*

*П'яны голас:*

*— Па заказу я, ёлкі-палкі.*

*— Чаму так позна?*

*— Працы шмат, ёлкі-палкі.*

*Жанчына прапускае яго на балкон і ідзе адпачываць. Праз 10 хвілін званок. Гаспадыня падыходзіць да дзвярэй і пытае:*

*— Хто там?*

*— Па заказу я, ёлкі-палкі. Балкон шкліць.*

*— Дык жа ўжо ёсць адзін!*

*— Зваліўся я, ёлкі-палкі.*

# ДУМКІ ЎСЛЫХ

- Мала мець розум. Трэба яшчэ, каб яго хапіла на ўсё жыццё.
- Нішто так не перашкаджае зрабіць жыццё поўным, як пустая галава.
- У многіх мужчын ахілесава пята — жаночыя ногі.
- Часцей за ўсё стараюцца з'есці таго, хто ні рыба, ні мяса.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК.**